Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№41 (4636) 14 кастрычніка 2011 г.

## Вітаем форум творцаў!

З'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі — самая значная падзея гэтага года для майстроў слова — адбудзецца ў Мінску 17 — 18 кастрычніка. Удзел у ім акрамя беларускіх літаратараў — прадстаўнікоў усіх абласных і сталічнага аддзяленняў — возьмуць і іх замежныя калегі. Так, чакаецца прыезд дэлегацый з Расіі, Азербайджана, Балгарыі, Чэхіі, Сірыі, Літвы, Латвіі і іншых краін, з якімі наладжаны даўнія сяброўскія адносіны. Удзел у галоўным пісьменніцкім форуме прымуць і высокія госці, прадстаўнікі ўлады.

Калі падчас мінулага з'езда 2006 года сярод асноўных тэм было пытанне арганізацыйнае (што натуральна — Саюз толькі ўтварыўся, пачыналі працу абласныя аддзяленні), то сёлета на першым месцы менавіта творчая дзейнасць пісьменнікаў, справы выдавецкія, прапаганда беларускай літаратуры, работа з маладымі аўтарамі, стасункі з замежнымі калегамі, а таксама стан сучаснай крытыкі.

Форум, які мае адбыцца, — выдатная нагода падвесці пэўныя вынікі працы, адказаць на пытанне, ці ўсе задачы, якія ставіліся пяць год таму, паспяхова вырашаныя, — адказаць не толькі чытачу і калегам, але і сабе асабіста. Пяць год, якія прайшлі з часу мінулага з'езда, прынеслі Беларусі і ўсяму свету новыя выдатныя творы, новыя імёны таленавітых аўтараў, сярод якіх нямала маладых. З'езд — яшчэ і магчымасць сустрэцца розным пакаленням, каб згуртавацца дзеля стварэння яскрасай, высокадухоўнай, адпаведнай часу літаратуры. Здавалася б, амаль шэсцьсот чалавек — няшмат, але менавіта гэтыя людзі, члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, могуць выхаваць нацыю, расказаць пра Беларусь усяму свету і даказаць, што мы, сучаснае пакаленне, годныя прадаўжальнікі традыцый вялікіх Янкі Купалы і Якуба Коласа.

# Мікалай ЧАРГІНЕЦ: «Сказаць сваё слова…»

**Чарговы з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі, які пройдзе 17 — 18 кастрычніка 2011г., з'яўляецца, несумненна, важнай падзеяй не толькі для саміх літаратараў. Прадстаўнічы форум творчай інтэлігенцыі нашай краіны — гэта яшчэ і нагода для ўсяго грамадства пагаварыць пра ролю пісьменніка ў вырашэнні першачарговых задач у самых розных сферах жыцця. Пра з'езд і не толькі — наша размова са старшынёй СПБ Мікалаем ЧАРГІНЦОМ.**



*Фота Кастуся Дробава*

**— Давайце ўзгадаем снежань 2006 года… Выступаючы на мінулым з'ездзе, вы звярнулі ўвагу на многія актуальныя клопаты, звязаныя фактычна з першымі крокамі стварэння новай грамадскай арганізацыі, сацыяльным статусам пісьменніка… Ці многа ўдалося зрабіць за апошні час?**

— Жыццё не стаіць на месцы. Былі адны праблемы, з'явіліся іншыя… І, відавочна, заўтра рэаліі падкінуць нам нешта яшчэ. Таму гаварыць пра тое, што вось, маўляў, мы жывём без усялякіх праблем, наўрад ці правільна. Але пераканаўча заўважу наступнае: удалося вырашыць галоўную ппраблему, якой заклапочаныя ўсе, хто імкнецца скіраваць сваю працу на карысць грамадству, — усталяваны ўсе ўмовы для канструктыўнага дыялогу літаратараў і дзяржавы. Нават скажу болей, проста не магу не сказаць, што сёння дзяржавай створаны ўсе ўмовы для рэалізацыі творчых памкненняў паэтаў, празаікаў, публіцыстаў, драматургаў, літаратурных крытыкаў. Гэта адчувальна на ўсіх узроўнях — і ў маштабе краіны, і ў абласцях і раёнах.

**— Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка на сустрэчы з расійскімі журналістамі заўважыў у дачыненні да літаратурных спраў: "…каб выдаваць нешта, патрэбна пісаць добрае"…**

— І як не пагадзіцца з гэтым! Логіка жыцця, логіка рэчаіснасці такая, што любы выніковы прадукт нараджаецца з нечага. І калі мяне атакуюць аматары розных прэмій і ўзнагарод, просяць падтрымаць менавіта іх геніяльныя творы, то я, прызнацца, ніякавею перад такой вось агрэсіяй. Пішыце лепей, пішыце тое, што будзе заўважана чытачом, — і вас ацэняць. Ніводны з класікаў рускай, ці то беларускай, ці то іншай літаратуры не лічыў сябе геніем, а спакойна рабіў сваю грамадскую і літаратурную справу, імкнучыся данесці да грамадства адкрытыя і выпакутаваныя ім ісціны. Чытачы маюць поўнае права чакаць ад нас вялікіх і актуальных, здатных адлюстраваць час, твораў. А наш клопат — сцішана і настойліва працаваць, шукаць шляхі дастойнага адлюстравання жыцця ў слове. Толькі тады, калі таленты памножацца на выключную працавітасць і грамадзянскую мужнасць, можна спадзявацца на высокі плён.

**— І ўсё ж такі на сёлетнім сходзе пісьменнікаў Беларусі будзе ісці падсумоўванне таго, што зроблена. Калі вызначыць вельмі каротка, то што вы лічыце галоўным дасягненнем за мінулыя гады?**

— Літаратура, мастацкае слова не церпяць статыстыкі, лічбаў. Можна часам да бясконцасці гаварыць пра колькасныя паказчыкі, але гэта не значыць, што праз іх будуць адлюстраваны галоўныя клопаты грамадства, тыя няўлоўныя характарыстыкі, што гавораць пра ўнутраныя працэсы духоўнага развіцця, сталення сучасніка, чым у прынцыпе і павінна апекавацца сапраўдная літаратура. Таму прабачце мне, але падсумоўванне кшталту пэўных пералікаў добрых спраў пакіну для іншай справаздачы. А цяпер хацеў бы звярнуць увагу вось на што. Можа быць, я паўтараюся, але не магу не падкрэсліць, што пяць гадоў для мяне асабіста і для маіх калег па творчай арганізацыі паказалі адну даволі істотную рэч. Сёння пісьменнік заняў сваё дастойнае месца ў сістэме каардынат грамадскіх, сацыяльных, дзяржаўных каштоўнасцей. Менавіта за апошнія гады ўлада праз самыя розныя свае інстытуты сцвердзіла: духоўнае, культурна-асветніцкае жыццё краіны немагчымае без руплівай працы паэта, празаіка, драматурга, публіцыста. І гэта шмат значыць…

**— На з'ездзе, відавочна, будзе весціся размова і пра літаратурна-мастацкую крытыку, пра тое, наколькі яна спрыяе агульнаму літаратурнаму працэсу… Вы асабіста задаволены станам такога творчага цэха ў пісьменніцкай арганізацыі?**

— Мне падаецца, што вы не зусім правільна паставілі пытанне. Калі і гаварыць пра крытыку і яе стасункі з астатнімі разгалінаваннямі мастацкай літаратуры, то, пэўна, мала гаварыць пра работу секцыі крытыкі СПБ. І нават зусім няправільна гаварыць толькі пра работу згаданай секцыі, якую ўзначальвае, між іншым, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь Марціновіч. Дарэчы, яго актыўнасці, майстэрству аглядаць усю сучасную літаратуру можна толькі пазайздросціць. Але ж крытыка — гэта і яе стан ва ўсіх літаратурна-мастацкіх выданнях, гэта і падрыхтоўка належных праграм па вывучэнні літаратуры ў школе і ўніверсітэце. А таксама стараннi нашага акадэмічнага літаратуразнаўства. Калі азірнуцца, то і ў складзе СПБ, і на ўніверсітэцкіх кафедрах процьма людзей, якія лічаць сябе крытыкамі. А вось калі падводзілі вынікі штогадовага рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор года, то не сказаў бы, што вялікім было сапернцтва ў галіне крытыкі. Дзве ці тры кнігі ўсяго разглядалі…

**— Дык, можа быць, мала выдаўцы на такую галіну звяртаюць увагі…**

— Вось і трэба падумаць і "Мастацкай літаратуры", і РВУ "Літаратура і Мастацтва", а мо і іншым выдавецтвам, што літаратурная крытыка таксама павінна стаць прадметам выдавецкай зацікаўленасці… А самае галоўнае — крытыка тады стане памагатым мастацкай прозы, паэзіі, тады вывіць увагу ў чытача, калі будзе не толькі аператыўнай, але і самастойнай у выкладанні поглядаў на жыццё і час. Таму і сёння хацеў бы ў чарговы раз заўважыць для нашай літаратурна-мастацкай перыёдыкі:

(Заканчэнне на 2-й стар.)

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

# «Сказаць сваё слова…»

будзьце ўважлівымі да розных праяў, здабыткаў прозы, паэзіі, вядзіце дыскусіі, не шкадуйце часу і газетнай, часопіснай плошчы на спрэчкі і ўдумлівыя развагі!

**— Часам апаненты СПБ падкрэсліваюць, што ў літаратуру вельмі квола ідзе моладзь…**

— Выказваць прэтэнзіі да моладзі — справа небяспечная. Тым самым пазбаўляеш сябе ў пэўнай ступені будучыні. Яна, моладзь, ужо такая, якая ёсць, якой мы яе выхавалі… Абыду ўвагай і апанентаў… Па-першае, назаву некалькі імёнаў досыць маладых людзей. Паэты Рагнед Малахоўскі, Алесь Бараноўскі, Таццяна Сівец… Рагнед, дарэчы, узначальвае сёння часопіс “Бярозка”. Таццяна толькі што прызначаная галоўным рэдактарам часопіса “Маладосць”. Алесь — нядаўні выпускнік Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта, аспірант Белдзяржуніверсітэта. Усе яны ўступілі ў СПБ, маюць уласныя кнігі. П’еса Таццяны Сівец паспяхова ідзе ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Рагнед аб’ядноўвае вакол сябе паэтаў свайго пакалення. Дарэчы, уклаў некалькі кніг сваіх сяброў. Такая ініцыятыва — добры прыклад творчага супольніцтва.

Па-другое, у СПБ працуе секцыя па рабоце з моладдзю. Якраз яе задача — прыцягваць моладзь у нашы шэрагі. Ці заўсёды гэта ўдаецца? Канечне ж, не. І я асабіста, і прэзідыум часта на гэтую тэму разважаем. Зусім не выпадкова і тое, што літаральна перад з’ездам прынята рашэнне пра тое, што частка сродкаў, атрыманых намі ад пастаянных партнёраў, спонсараў, будзе вылучана на стыпендыі маладым літаратарам. Па ініцыятыве Мінскай гарадской арганізацыі СПБ выдаём і бібліятэчку першых кніг маладых аўтараў. Праводзім конкурс літаратурнай моладзі. Часта звяртаемся да абмеркавання публікацый на старонках часопіса “Маладосць”. Дарэчы, гэты часопіс абвясціў конкурс на лепшы мастацкі твор. Звяртаем увагу выдавецтваў на кнігі аўтараў-пачаткоўцаў, просім спрактыкаваных выдаўцоў зазірнуць у заўтрашні дзень, падумаць пра перспектывы развіцця айчыннай літаратуры.

Аналізуючы прычыны пэўных пралікаў у рабоце з моладдзю, мы бачым і наступнае. Моладзь сёння, як, пэўна, і ў іншых галінах сацыяльнага ўладкавання, чакае ад літаратурнага занятку імгненнай аддачы. Але так, на жаль, ці мо нават на шчасце, не бывае. Таму ў сваёй заклапочанасці пра стварэнне пэўных умоў для заняткаў творчай працай усё ж вымушаны сказаць: літаратурныя вышыні наскокам не возьмеш. Дбанне за пісьмовым сталом, імкненне агледзець жыццё ў самых розных праявах — гэта, пагадзіцеся, катаржная праца. Але ж дзверы, як кажуць, адчыненыя. Выдаецца часопіс “Маладосць”. Ды і на старонках “ЛіМа” месца маладым паэтам, празаікам не шкадуюць. Ведаю, што ў выдавецтве “ЛіМ” з падтрымкай Міністэрства інфармацыі выходзіць кніга паэзіі “Мы — маладыя”. Мне ўжо казалі, што яе варта разглядаць як анталогію сучаснай маладой паэзіі. І я чакаю кнігу з нецярпеннем, са спадзяваннем, што яна спраўдзіць такія надзеі. Пачала з ініцыятывы Мінскага гарадского аддзялення СПБ выходзіць серыя “Мінскія маладыя галасы”.

**— Сёння Саюз пісьменнікаў Беларусі налічвае болей як 600 чалавек. Хто гэтыя літаратары, якія вядомыя асобы складаюць гонар творчай арганізацыі?**

— Гонар складаюць усе — і ўжо зробленымі справамі, і спадзяваннямі на будучыню. Кожны, хто адважна заявіў пра сваю прыналежнасць да прафесійнага пісьменніцкага цэха, — гэта асоба. І да ўсіх я стаўлюся з надзвычайнай павагай… На памяці — 2005 год. Тады, дарэчы, мне часта задавалі пытанні падобнага кшталту. Іх, як правіла, вылучалі ў такім кантэксце, што, маўляў, лепшыя засталіся ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Ды час паказаў, што на ідэю адкрыта і прама заявіць пра падтрымку дзяржаўнай палітыкі, асабіста Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі адгукнуліся многія, літаральна большасць. Якіх тады толькі бірак на нас не вешалі. І, маўляў, здрадзілі традыцыям. І выступаем супраць беларускай мовы, і іншыя заганы шукалі. А ўсё ж на самай справе дастаткова проста і відавочна: творчыя, здаровыя мастацкія сілы пажадалі бачыць мірнае развіццё палітычных, сацыяльных працэсаў, захацелі актыўна ўдзельнічаць у стваральнай працы, рэалізоўваць дзяржаўную палітыку. І, пагадзіцеся, хіба гэта задача культуры, літаратуры — пераварочваць свет, уносіць у грамадскае, сацыяльнае жыццё элементы хаосу, дэстабілізацыі?.. Дык вось, адказваючы на пытанне і самому сабе, хто ж стаў побач з намі, хто праявіў розум і мудрасць, я ўбачыў, што ў нашым саюзе знаходзяцца вядомыя і аўтарытэтныя паэты, празаікі, літаратуразнаўцы. Аўтарытэтныя, заўважце, паводле меркаванняў шараговых чытачоў. А гэта ж і ёсць галоўны крытэрый у ацэнцы пісьменніцкай працы. Назаву хаця б некаторых. Празаікі Алесь Савіцкі, Георгій Марчук, Віктар Праўдзін, Анатоль Сульянаў, Уладзімір Саламаха, Сяргей Трахімёнак, Аляксандр Сакалоў, Алег Ждан, Алена Брава… Паэты Генадзь Пашкоў, Уладзімір Карызна, Раіса Баравікова, Вадзім Спрынчан, Алесь Бадак, Міхась Пазнякоў, Віктар Гардзей, Мікола Мятліцкі, Тамара Краснова-Гусачэнка, Анатоль Аўруцін, Алег Салтук, Віктар Шніп, Юрый Сапажкоў… Дзіцячыя пісьменнікі Валянцін Лукша, Уладзімір Ліпскі, Уладзімір Мазго, Алена Масла, Генадзь Аўласенка… Літаратуразнаўцы Уладзімір Гніламёдаў, Таццяна Шамякіна, Мікола Мікуліч, Іван Чарота… Творы шмат каго з іх выдаюцца не толькі ў Беларусі, але і за межамі нашай краіны. Найперш — у Расіі, іншым славянскім свеце. Так што спрэчкі, якія нам навязваюць, далёка не канструктыўныя і да сапраўднай творчасці не маюць ніякіх адносін.

> *І “Мастацкай літаратуры”, і РВУ “Літаратура і Мастацтва”, а мо і іншым выдавецтвам трэба задумацца над тым, што літаратурная крытыка таксама павінна стаць прадметам выдавецкай зацікаўленасці… А самае галоўнае — крытыка тады стане памагатым мастацкай прозы, паэзіі, тады выявіць увагу ў чытача, калі будзе не толькі аператыўнай, але і самастойнай у выкладанні поглядаў на жыццё і час.*

**— Мікалай Іванавіч, і вы асабіста, і, відаць, увесь Саюз пісьменнікаў Беларусі дастаткова шмат увагі, сіл надаеце прадстаўленню беларускай літаратуры ў свеце, у Расіі, у прыватнасці…**

— І гэта для нас з’яўляецца істотным прыярытэтным кірункам. Так, згубіўся невядома дзе лозунг “Дружба народаў — дружба літаратур”. Засталася толькі ў памяці старэйшага пакалення практыка зносін савецкага часу, калі выданне кнігі ў Маскве было ў пэўнай ступені прызнаннем, новай прыступкай. Ды і тыражы колішніх савецкіх, а цяпер расійскіх часопісаў часам саступаюць тыражам нашых выданняў. Ды што пра ўчарашнія дэкларацыі!.. Мы спрабуем наладзіць новыя творчыя стасункі, выбудаваць новыя масты творчага пабрацімства. Імкнёмся зрабіць правілам жыцця трывалыя міжнародныя кантакты. Пісьменнікам гэта патрэбна як паветра. Увесь свет шматаблічны, народы і краіны рухаюцца адно да аднаго. І сядзець сёння за зачыненымі дзвярыма — доля тых, хто застаецца ў мінулым. І невыпадкова вось ужо пяць гадоў запар з ініцыятывы Саюза пісьменнікаў і РВУ “Літаратура і Мастацтва” Міністэрства інфармацыі краіны запрашае ў Беларусь на міжнародны “круглы стол” “Мастацкая літаратура як шлях адно да аднаго” пісьменнікаў Расіі, Сербіі, Чарнагорыі, Польшчы, Украіны, Казахстана, Таджыкістана, Літвы, Балгарыі і іншых краін. Сцвярджаючы беларускія нацыянальныя прыярытэты ў галіне культуры, мастацкай літаратуры, мы ўсё ж імкнёмся спасцігнуць і сусветныя працэсы, разабрацца, што нам даспадобы, што падыходзіць сэрцу і нашаму беларускаму народу, што ўяўляе інтарэс, з’яўляецца прыкладам дабрыні, стваральніцтва, сцвярджэння прагрэсіўных гуманістычных ідэалаў.

> *Аналізуючы прычыны пэўных пралікаў у рабоце з моладдзю, мы бачым і наступнае. Моладзь сёння, як, пэўна, і ў іншых галінах сацыяльнага ўладкавання, чакае ад літаратурнага занятку імгненнай аддачы. Але так, на жаль, ці мо нават на шчасце, не бывае. Таму ў сваёй заклапочанасці пра стварэнне пэўных умоў для заняткаў творчай працай усё ж вымушаны сказаць: літаратурныя вышыні наскокам не возьмеш. Дбанне за пісьмовым сталом, імкненне агледзець жыццё ў самых розных праявах — гэта, пагадзіцеся, катаржная праца. Але ж дзверы, як кажуць, адчыненыя.*

Можна назваць шмат прыкладаў, калі беларускія аўтары асвойваюць прастору сусветнай класікі, перакладаюць на беларускую мову Дантэ Алігʼеры, Абая, Керыма Курбаннепесава, Бердыназара Худайназарава, Расула Рзу, ствараюць новыя пераўвасабленні паэзіі Аляксандра Пушкіна, Адама Міцкевіча… І тады далёкія і блізкія літаратуры становяцца сапраўдным фундаментам у развіцці нацыянальнага прыгожага пісьменства. Асабліва настойліва працуюць у галіне мастацкага перакладу Мікола Мятліцкі, Уладзімір Скарынкін, Казімір Камейша, Андрэй Цяўлоўскі, Іван Чарота… Дарэчы, нядаўна ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі з удзелам пасольства Рэспублікі Казахстан у Беларусі праведзена была прэзентацыя кнігі Абая “Стэпавы прастор” у перакладзе на беларускую мову Міколы Мятліцкага. Колькі розных людзей там давялося сустрэць з ліку тых, хто паядноўвае дзве краіны, дзве культуры!.. І гэта не адзіны прыклад такога супрацоўніцтва, такой садружнасці. Папулярнасцю ў беларускага чытача карыстаюцца нумары часопіса “Нёман”, прысвечаныя рускай літаратуры. Такія выпускі, між іншым, ажыццяўляюцца штогод. Партнёрам у рэалізацыі праекта выступае Пастаянны Камітэт Саюзнай Дзяржавы.

**— У Саюза пісьменнікаў Беларусі ёсць і свой часопіс — “Белая Вежа”…**

— Варта нагадаць, што мы сталі поруч з Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і РВУ “Літаратура і Мастацтва”, сузаснавальнікамі дзяржаўных літаратурна-мастацкіх выданняў “Полымя”, “Нёман”, “Маладосць” і газеты “Літаратура і мастацтва”. А што да часопіса “Белая Вежа”, галоўным рэдактарам якога з’яўляецца вядомы ў краіне публіцыст, дзіцячы пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Васіль Шырко, то выданне прадстаўляе Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, які мы стварылі ў снежні 2009 года сумесна з расійскімі калегамі. Мы вельмі сур’ёзна ставімся да гэтай грамадскай арганізацыі. Ужо сам факт стварэння такога саюза — сведчанне актыўнага ўдзелу літаратараў у інтэграцыйнай рабоце на карысць Беларусі і Расіі. Гэты момант для нас вельмі прынцыповы. Таму спадзяёмся на развіццё і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, і, зразумела, часопіса “Белая Вежа”. Будзем рады бачыць сярод партнёраў у гэтай справе і пісьменнікаў іншых постсавецкіх краін.

**— Мікалай Іванавіч, літаратура — гэта з’явы, падзеі, выкладзеныя ў творах паэзіі, прозы, драматургіі, у літаратурна-крытычных і публіцыстычных кнігах…**

— Вы ўсё хочаце вярнуцца да ідэі падсумоўвання… Добра, паспрабуем і на гэта адказаць. Канечне ж, такія з’явы заўважныя і сёння. Баюся некага пакрыўдзіць, але гатовы назваць тое, што і чытачы паспелі заўважыць, і калегі па пісьменніцкім цэху адзначылі. Назаву хаця б лаўрэатаў сёлетняй Рэспубліканскай літаратурнай прэміі “Залаты Купідон”. Дарэчы, пра прэмію… Яна ў нейкай ступені дапаўняе Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, паколькі зацверджана Саветам міністраў, і кожнае рашэнне кампетэнтнага журы праходзіць праз Міністэрства інфармацыі і ўрад. Дык вось, у гэтым годзе грашовую прэмію і мастацкую статуэтку “Залаты Купідон” атрымалі: Віктар Праўдзін — за кнігу прозы “Нелюбімыя гінуць”, Мікола Мятліцкі — за зборнік паэзіі “На беразе маім”, Алена Масла ў намінацыі “Дзіцячая літаратура” — за кнігу казак “Першая прыгажуня”, Уладзімір Сауліч — за кнігу нарысаў “Антэі Прыдзвіння”, Алена Папова — за п’есы “Маленькі свет” і “Загінуўшая ад кахання”, Казімір Камейша — за кнігу эсэ “Паміж кубкам і вуснамі”, Канстанцін Нілаў — за цыкл песень “Вянок Беларусі”, Таццяна Шамякіна — за зборнік літаратуразнаўчых прац, Сяргей Давідовіч — за паэтычны зборнік сатыры і гумару, Валерый Грышкавец — за кнігу перакладаў “Белой вежи свет”. Ведаю, што творы гэтых аўтараў ёсць у бібліятэках, п’есы ставяцца ў тэатрах Беларусі і Расіі, іншых краін, напрыклад, песні на словы Канстанціна Нілава выконваюцца на самых прэстыжных сцэнічных пляцоўках.

А яшчэ на маім рабочым стале ляжыць цыкл раманаў акадэміка Уладзіміра Гніламёдава, прысвечаных беларускай вёсцы на розных этапах яе гістарычнага развіцця. У раманах — і Першая сусветная вайна, і жыццё беларускіх сялян у горы і радасці, і лёсы нашых суайчыннікаў з Заходняй Беларусі. А галоўнае, чым за душу бяруць гэтыя кнігі, — ёсць у іх такое светаўспрыманне, што непадзельна злучае чалавека з радзімай, роднай хатай. Чытаеш прозу Уладзіміра Гніламёдава і разумееш: чалавек здольны на многае, важна толькі заўжды заставацца асобай, сцвярджаць вакол сябе і ў самім сабе добрую жыццёвую мараль. Недарэмна Уладзіміра Васільевіча называюць у нашай краіне “акадэмікам літаратуры”. І калі так адказна ўсе мы будзем ставіцца да літаратурнай працы, то, паверце, многія праблемы адпадуць самі сабой. А галоўнае — у нас пашырыцца кола чытачоў, мастацкая літаратура стане сапраўды запатрабаванай часткай нашай агульнанацыянальнай культуры.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

Рэгіёны

# «Лунінская восень» — гэта ўжо традыцыя

Анатоль КРЭЙДЗІЧ

Адным з самых яркіх пісьменніцкіх брэндаў Беларусі стала паэтычнае свята Берасцейшчыны "Лунінская восень", якое гэтым годам пройдзе восьмы раз. Свята ў свой час ініцыяваў выхадзец з вёскі Лунін Лунінецкага раёна Мікалай Еляняўскі, член саюзаў пісьменнікаў Беларусі і Расіі, аўтар кніг "Нябесны штурмавік" і "Час святара". Заснаваннем свята Мікалай Васільевіч займаўся разам з рэдактарам раённай газеты "Лунінецкія навіны" Таццянай Вайцяхоўскай ды намеснікам старшыні райвыканкама, таксама членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Андрэем Мазько.

Наступным этапам было наданне мерапрыемству абласнога статусу. Гэтаю справаю займалася ўжо наша абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Прыхільна паставіўся да ідэі старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар і кіраўнік Лунінецкага раёна Васіль Агіевіч. У цэнтры ўвагі апынулася Лунінская школа. І зусім невыпадкова. Справа ў тым, што школа гэтая ўяўляе сабою сапраўдны музей этнаграфіі, гісторыі, літаратуры… Прычым, не толькі сваім афармленнем, але і духам. Узначальвае навучальную ўстанову сапраўдны патрыёт сваёй зямлі Сяргей Курак.

Агульнымі высілкамі "Лунінская восень"ператварылася з местачковага ў абласное свята паэзіі. А пяць год таму старшыня аблвыканкама К. Сумар распачаў традыцыю ўручэння абласных літаратурных прэмій імя Уладзіміра Калесніка, якую мы, Брэсцкая суполка Саюза пісьменнікаў Беларусі, ініцыявалі. Таксама тут адбываюцца ўзнагароджанні пераможцаў літаратурных конкурсаў сярод дзяцей і юнацтва. Традыцыя доўжыцца і надалей.

# Клопат пра моладзь

Уладзімір ДУКТАЎ

Пільная ўвага Магілёўскай абласной арганізацыяй Саюза пісьменнікаў Беларусі надаецца падрыхтоўцы маладога папаўнення. Гэта і зразумела, бо ўзрост усіх членаў пісьменніцкага аддзялення перасягнуў поўдзень веку.

З мэтай пошуку і падрыхтоўкі здатных літаратурных пачаткоўцаў савет абласнога аддзялення СПБ на пачатку гэтага года перагледзеў і ўзмацніў склад секцыі аддзялення па рабоце з маладымі літаратарамі. Яе цяпер узначальваюць сустаршыні — вядомы паэт, доктар філалагічных навук Васіль Рагаўцоў і спрактыкаваны празаік, кіраўнік літаратурнага аб'яднання абласной газеты "Магілёўскія ведамасці" Аляксандр Церахаў. Секцыя прыкметна актывізавала сваю дзейнасць. Да прыкладу, на сваім пасяджэнні ў чэрвені прааналізавала творчасць двух перспектыўных маладых аўтараў, якім пасля былі дадзены рэкамендацыі для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. У паэта Дзмітрыя Сязёміна сёлета выйшла першая кніга вершаў "Вечнае і зямное". Дапамог адрэдагаваць рукапіс і напісаў прадмову да кнігі вядомы магілёўскі літаратар Іван Пехцераў. Дзмітрыю Сязёміну 38 гадоў, ён працуе педагогам у магілёўскім Доме дзіцячай і юнацкай творчасці "Эверэст". Мае публікацыі ў абласных газетах "Магілёўскія ведамасці", "Зямля і людзі", удзельнік і пераможца літаратурных конкурсаў, што праводзіла абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Вершы маладога паэта вызначаюцца вобразнасцю, рамантычным настроем, дынамізмам.

Першая кніга дваццацідвухгадовай Вольгі Куляшовай "Пяро і порах" таксама пабачыла свет у гэтым годзе. Паэт Уладзіслаў Кавалёў на грамадскіх асновах выступіў рэцэнзентам гэтага выдання. Вершы Вольга піша з чатырнаццаці гадоў і знаходзіцца навідавоку ў абласным пісьменніцкім аддзяленні, бо з'яўляецца ўдзельніцай і пераможцай літаратурных конкурсаў, якія праводзіла наша творчая суполка.

Аўтарам-пачаткоўцам шмат увагі надаюць літаратурныя аб'яднанні вобласці. Да гэтай справы далучаны і члены нашага творчага аддзялення. Так, Мікола Салаўцоў шмат гадоў плённа кіруе гуртком "Юны журналіст і літаратар" Дома дзіцячай творчасці ў горадзе Чавусы. Для пачаткоўцаў праводзіцца літаратурныя конкурсы. Не выключэннем стаў і сёлетні год. Маладыя аўтары бралі актыўны ўдзел у абласным літаратурным конкурсе, прысвечаным 50-годдзю гістарычнага касмічнага палёту Юрыя Гагарына. Многія нашы аўтары сталі ўдзельнікамі рэспубліканскага конкурсу маладых празаікаў і паэтаў "Мы народжаныя для натхнення". У фінале гэтага спаборніцтва, якое адбылося сёлета ў маі ў Брэсце, сярод празаікаў творы магіляўчанкі Таццяны Снігіровай прызнаны лепшымі.

# Свята збірае сяброў

Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ

Абласная пісьменніцкая арганізацыя Гомельшчыны практычна кожны год ладзіць міжнародныя і абласныя літаратурныя святы, конкурсы чытальнікаў для вучняў агульнаадукацыйных школ. Пісьменнікі ўдзельнічаюць у сумесных творчых форумах Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, Бранскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, Міжнароднай літаратурнай арганізацыі "Славянскія званы", мясцовага літаратурнага аб'яднання "Звянігара" г. Глухава, супрацоўнічаюць з творцамі Чарнігаўшчыны. Вынікам такой працы становяцца агульныя калектыўныя зборнікі і творчыя акцыі.

Свята "Гомельская літаратурная восень" ("Славянскія літаратурныя дажынкі"), якое праводзіцца штогод, гэтым разам прыпала якраз на пярэдадзень з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яно распачалося ў культурнай сталіцы СНД урачыстым адкрыццём у гарадской бібліятэцы імя А. Герцэна, дзе адбылося і ўзнагароджанне пераможцаў літаратурных конкурсаў, прадоўжыцца творчай сустрэчай пісьменнікаў Гомельшчыны і іх калег з Бранска, Чарнігава, Сум і Курска. У межах свята запланавана некалькі і рабочых падзей. Так, кіраўнік Бранскай грамадскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі, паэт Уладзімір Сарочкін праводзіць майстар-клас для аўтараў-пачаткоўцаў. Пісьменнікі выступяць таксама ва ўстановах адукацыі і культуры Гомеля.

Да з'езда і сваёй гадавой справаздачы перад чытачамі — свята "Гомельская літаратурная восень" — выйшаў з друку шосты альманах "Літаратурная Гомельшчына", а ў серыі "Бібліятэка Гомельскага абласнога аддзялення СПБ" — зборнікі крытычных артыкулаў М. Кавалёва, і паэтычныя спробы юнай гамяльчанкі М. Маліноўскай.

Актуальна

# Хто прыйдзе ў прафесійную літаратуру?

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Вядомы празаік Сяргей Трахімёнак узначальвае прыёмную камісію Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гэта даволі адказны ўчастак працы для творчай арганізацыі. З аднаго боку — нельга дазволіць сабе не заўважыць сапраўдны талент. З другога — творчасць наогул і літаратура ў прыватнасці ацэньваюцца толькі суб'ектыўна. І не заўжды тое, што здаецца нам дасканалым, вытрымлівае праверку часам. І далёка не кожны "забракаваны" крытыкамі твор не мае права на існаванне. Сяргей Аляксандравіч размаўляе з намі пра рэаліі сённяшняга дня.**



**— У апошні год членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі стала, здаецца, дзясяткі тры, калі не больш, аўтараў. Гэта даволі салідна для такой невялікай краіны, як Беларусь. З чым, па-вашаму, звязаны такі "ўступленцкі" бум?**

— Я б не стаў казаць пра нейкі "бум". Калі паглядзець па гадах, дык "бум" выпаў на 2006-ы і 2007-ы. Пасля колькасць прынятых была больш-менш стабільнай — 20—30 чалавек на год. А многа гэта ці мала, цяжка сказаць. Калі б аказалася, што з трыццаці тых, хто ўступіў, палова — графаманы, якіх нейкім чынам камісія "прапусціла ў прафесіяналы", то замнога. Але графаманаў мы не рэкамендуем і творы іх не разглядаем.

**— Ці абавязковай умовай для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі сёння з'яўляецца наяўнасць кніг?**

— Наогул, пажадана, каб яны былі і мелі пры гэтым нейкую сацыяльную і мастацкую значнасць для Рэспублікі Беларусь. Бо менавіта гэта і з'яўляецца крытэрыем адбору кандыдатаў. Аднак могуць быць і выключэнні. Раптам на нейкім семінары маладых літаратараў ці падчас літаратурнага конкурсу для моладзі "ўспыхне" асабліва яркая "зорачка"! І навошта маладому таленту чакаць першай кнігі — яна можа з'явіцца праз гады. Каб у чаканні не згасла імкненне да творчасці, не адолеў чалавека скептыцызм, можна пайсці на тое, каб выдаць яму такі "аванс", як рэкамендацыі для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў.

**— Ці часта пераможцы маладзёжных літаратурных конкурсаў "дацягваюць" пасля свой талент да ўзроўню, які сапраўды адпавядае членству ў Саюзе пісьменнікаў?**

— Не трэба, пэўна, бачыць асноўнай мэтай маладзёжных конкурсаў атрыманне новых кадраў для вялікай прафесійнай літаратуры. Конкурсы — гэта і ўзнящэ прэстыжу кнігі і чытання, і абуджэнне ў грамадстве творчых пачаткаў, і заахвочванне самадзейнай творчасці. Але конкурс і сапраўды можа выявіць таго, хто ўступіць пасля ў пісьменніцкія шэрагі.

**— Прэтэндэнт на членства ў Саюзе пісьменнікаў — які ён цяпер? У асноўным малады ці ў гадах? Пачатковец ці ўжо салідны аўтар? Паэт? Празаік? Публіцыст?**

— З кожным годам ён патроху маладзее. І гэта мяне радуе. Аднак пакуль сярэдні ўзрост атрымліваецца каля сарака гадоў. І жанр асноўны — паэзія. Наш прэтэндэнт на прафесійнае прызнанне — саракагадовы паэт.

**— Ужо было агучана: большасць членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі — рускамоўныя. Ці сапраўды лёс беларускай літаратуры — стаць у далейшым літаратурай рускамоўнай?**

— На нашай літаратуры адлюстроўваецца моўная сітуацыя, якая сёння існуе ў краіне. Гэта — дадзенасць. Але сітуацыя можа змяніцца, тады зменіцца і працэнтны склад рускамоўных аўтараў у саюзе. На сённяшні дзень галоўнае для нас — з'яўленне вартых, моцных літаратурных твораў у межах духоўных каштоўнасцей нашага народа. А на якой мове яны будуць напісаны — гэта справа другасная.

# Мастакі сучаснасці

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

**Літаратура — гэта храм, у які можна заходзіць толькі з чыстым сумленнем і высакароднымі імкненнямі. Гэтае сцвярджэнне чырвонай ніткай праходзіла ў выступленнях кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў Беларусі на прэс-канферэнцыі, прысвечанай з'езду СПБ.**

Адкрываючы сустрэчу, Мікалай Чаргінец расказаў пра гісторыю стварэння новай творчай арганізацыі. З'езды, пленумы Саюза беларускіх пісьменнікаў, які некалі аб'ядноўваў усіх майстроў мастацкага слова, як правіла, праходзілі "пад сцягам палітычных патрабаванняў", а ўдасканаленню літаратурнага працэсу амаль не ўдзялялася ўвагі. "Канечне, ніхто не забараняе выступаць з патрабаваннямі да ўлады, але яны павінны быць абгрунтаванымі, карэктнымі, без палітыканства". Таму 75 пісьменнікаў выйшлі з СБП і стварылі свой саюз. За пяць гадоў яго шэрагі павяліčыліся ў некалькі разоў. Створана стройная арганізацыйная структура. У Мінску і абласных цэнтрах працуюць аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Усё актыўней заяўляюць пра сябе творчыя секцыі, у тым ліку секцыя літаратурнай крытыкі. Пашыраюцца міжнародныя сувязі.

Кіраўнік Саюза пісьменнікаў назваў шмат прыкладаў, як нашы аўтары асвойваюць прастору сусветнай класікі, перакладаючы на беларускую мову выдатных пісьменнікаў Еўропы, Азіі і іншых кантынентаў. Ён падказаў журналістам новыя тэмы, у прыватнасці, параіў актыўна расказваць пра беларусаў, якія зрабілі важкі ўнёсак у развіццё сусветнай цывілізацыі.

За апошнія пяць гадоў члены СПБ выдалі больш як 1200 кніг. Вядома, што не ўсе яны з'яўляюцца эталонам высокага майстэрства. Вартасць выдання сёння ацэньваецца не бліскучымі вокладкамі, а зместам, глыбінёй, грамадзянскасцю.

На пытанне, ці можа цяпер пісьменнік пражыць за ганарар і як уплываюць наклады кніг на яго памеры, М. Чаргінец з болем у душы адзначыў, што ганарары мізэрныя. Каб атрымаць іх, пісьменнікам часта даводзіцца прыніжацца і перад выдаўцамі, і перад патэнцыяльнымі пакупнікамі, афармляць шэраг фінансавых дакументаў. Таму кіраўніцтва саюза прыкладае нямала высілкаў, каб пакончыць з такой практыкай.

Дарэчы, матэрыяльныя праблемы стрымліваюць і папаўненне складу СПБ. Каб стаць яго членам, згодна са статутам, трэба мець хаця б адну кнігу вершаў, апавяданняў ці нарысаў. І такія кнігі выходзяць тыражамі 50 — 150 асобнікаў. Маладым аўтарам няпроста знайсці 2 — 3 мільёны рублёў на плату паліграфістам, мастакам.

Гэтыя праблемы будуць падрабязна абмеркаваныя на з'ездзе.

На пытанні журналістаў адказвалі таксама старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, першы намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва", галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэтэсы Алены Ануфрыеўны ПЯХОТЫ і выказваюць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

# Грані творчасці

**Так можна вобразна назваць дзесяць секцый, у якіх аб'яднаны члены Саюза пісьменнікаў Беларусі. Напярэдадні з'езда старшыні ўсіх секцый, так бы мовіць, трымаюць справаздачу, падводзяць вынікі, ставяць задачы на будучае і расказваюць пра клопаты дня сённяшняга.**



## Лепшыя празаікі — нашы

**Наталія КАСЦЮЧЭНКА, старшыня бюро секцыі прозы**

Першае пасяджэнне секцыі прозы Саюза пісьменнікаў Беларусі адбылося 23 студзеня 2007 года. У склад бюро ўвайшлі празаікі Уладзімір Гніламёдаў, Віктар Праўдзін, Анатоль Казлоў, Іван Кагановіч, Ніна Маеўская, Алена Папова, Наталля Касцючэнка, Анатоль Андрэеў, Аляксандр Сакалоў, Андрэй Карэлін, Леанід Левановіч, Кацярына Хадасевіч-Лісавая (сакратар).

Старшыня СПБ М. Чаргінец, які адкрыў пасяджэнне, падвёў вынікі работы з'езда СПБ, асабліву ўвагу ўдзяліў літаратурнаму жыццю: планаванню мерапрыемстваў, звязаных з падрыхтоўкай і выданнем кніг, наладжваннем літаратурных сустрэч пісьменнікаў з чытачамі, абнародаваў рашэнне СПБ пра ўзнагароджанне шэрага аўтараў за лепшую кнігу года.

Старшынёй секцыі прозы тады аднагалосна быў абраны празаік Віктар Праўдзін. На працягу 2007 года было праведзена шэсць пасяджэнняў секцыі. На кожным з іх разглядалася і абмяркоўвалася творчасць аўтараў, якія прэтэндавалі на ўступленне ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. З сямнаццаці прэтэндэнтаў секцыя рэкамендавала сем чалавек. У наступным годзе адбылося шэсць пасяджэнняў бюро, на якіх з дзесяці прэтэндэнтаў на ўступленне ў СПБ рэкамендавана таксама сем.

Секцыя прозы вельмі плённа працавала, калі старшынёй бюро быў абраны празаік Ягор Конеў. За гэты перыяд да прафесійнага творчага саюза далучыліся 20 маладых пісьменнікаў, балазе, ёсць з каго выбіраць. Скажу шчыра, стаць уладальнікам пісьменніцкага білета не так і проста, таму што адбор кандыдатаў строгі і патрабавальны.

На працягу пяці гадоў работы члены секцыі прозы загадзя знаёміліся з кнігамі, што вылучаліся на атрыманне прэмій "Лепшы твор года", і падчас пасяджэнняў выказвалі свае меркаванні адносна таго, чые творы вартыя ўзнагароды. Шляхам галасавання лепшымі празаікамі сярод удзельнікаў конкурсу за міжз'ездаўскі перыяд былі вызначаны У. Гніламёдаў, А. Казлоў, А. Папова, В. Праўдзін, А. Ждан, Л. Левановіч, А. Сакалоў, Г. Чарказян, В. Кадзетава, Н. Голубева, І. Кагановіч, С. Трахімёнак, У. Гаўрыловіч.

Напярэдадні чарговага з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі прыемна ўсведамляць, што ў прапаганду лепшых набыткаў сучаснай беларускай літаратуры секцыя прозы зрабіла свой важкі ўнёсак.



## ...для дзетак беларусаў

**Валянцін ЛУКША, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, старшыня бюро секцыі дзіцячай літаратуры**

Цяжка нават уявіць, што толькі стагоддзе таму наша слынная папярэдніца Алаіза Пашкевіч (Цётка) у пецярбургскай выдавецкай суполцы "Загляне сонца і ў наша аконца" выпусціла "Першае чытанне для дзетак беларусаў".

Цяжка паверыць, што амаль у той жа час наш славуты суайчыннік Янка Лучына марыў пра шчаслівую долю і лёс юных гаспадароў роднай зямлі:

*Сонца навукі скрозь хмары цёмныя*
*Прагляне ясна над нашай ніваю,*
*І будуць жыці дзеці патомныя,*
*Добраю доляй — доляй шчасліваю!..*

Сёння, як і ў папярэднія дзесяцігоддзі, літаратура для падрастаючага пакалення — галоўны клопат і нашага творчага саюза, і нашага грамадства.

За справаздачны перыяд секцыя дзіцячай літаратуры СПБ была ініцыятарам многіх цікавых спраў. У першую чаргу гэта правядзенне пашыранага пленума на тэму "Беларуская дзіцячая літаратура: працяг традыцый, пошукі новага", зацікаўленыя абмеркаванні рукапісаў і кніг, шматлікія сустрэчы з чытачамі ў школах і бібліятэках, гэта выступленні ў друку, на тэлебачанні і радыё, актыўны ўдзел у многіх мерапрыемствах і конкурсах. Натуральна, усё гэта рабілася не само па сабе, а па ініцыятыве членаў бюро нашай секцыі Алеся Савіцкага, Уладзіміра Ліпскага, Уладзіміра Мазго, Віктара Гардзея, Міколы Чарняўскага, Паўла Саковіча і інш.

Літаральна на ўсіх пасяджэннях секцыі разглядалася творчасць нашых маладых аўтараў. За справаздачны перыяд у СПБ рэкамендаваны дваццаць творцаў, сярод якіх — Дзмітрый Новікаў, Яніна Жабко, Віктар Рашкевіч, Сяргей і Ганна Трафімавы і многія іншыя. Прыемна, што адна з іх — Алена Масла — стала вядучай пісьменніцай у галіне дзіцячай літаратуры і паводле вынікаў мінулага года за кнігу казак "Першая прыгажуня" атрымала "Залатога Купідона".

Чаго я чакаю ў бліжэйшы час і ад нашай секцыі, і ад СПБ? Павелічэння выпуску дзіцячай літаратуры для розных узроставых катэгорый. І для падлеткаў, і для зусім маленькіх. Дадам: яшчэ і на беларускай мове! Чакаю адкрыцця новых аўтараў з неардынарным мысленнем, аўтараў, здольных напісаць кнігі, вартыя нашага сучасніка, вартыя нашага часу. Тады ў кнігарнях і бібліятэках прагучыць доўгачаканае: "А такая кніга ў вас ёсць?" І мы з захапленнем атрымаем свой любімы твор. Як некалі атрымлівалі кнігі Янкі Маўра, Міхася Лынькова, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча...

Гэта шчасце — сустрэча з любімай кнігай. І свята. Няхай жа гэта свята будзе заўсёды з усімі намі!



## Запатрабаваны радок вершаваны

**Уладзімір КАРЫЗНА, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, старшыня бюро секцыі паэзіі**

Галоўным клопатам секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў Беларусі ў першую пяцігодку яе існавання былі творчыя кадры — паэты. Пасля таго, што адбылося, нялёгка было затрымацца на творчым шляху. Наш Саюз беларускіх пісьменнікаў развалiўся. Паэты пайшлі ў новы Саюз пісьменнікаў.

Вядома, касцяк новага Саюза складае савецкі СП. Прыйшла таленавітая моладзь, і мы ёй удзячныя. Я хачу назваць прозвішчы прынятых намі паэтаў, якія сёння актыўна працуюць, у якіх ёсць чытач. Гэта Вольга Сакалова, Алена Багамолава, Анастасія Кузьмічова, Надзея Парчук, Уладзімір Руль, Вольга Пераверзева, Вольга Коваль, Алена Свечнікава, Алесь Бараноўскі, Ксенія Шаржановіч; зусім нядаўна прынятая ў Саюз пісьменнікаў Таццяна Атрошанка і многія іншыя.

Секцыя паэзіі, у якую ўваходзяць Уладзімір Мазго, Міхась Пазнякоў, Віктар Шніп, Міхась Башлакоў, Валянціна Паліканіна, Наталля Капа, Мікола Шабовіч, Андрэй Цяўлоўскі, прымае самы актыўны ўдзел у прапагандзе роднай літаратуры, у наладжванні творчых сустрэч з чытачамі, якія сёння нялёгка заслужыць, мы запатрабаваныя на кніжных кірмашах, на пляцоўках Купалы, Коласа, Багдановіча, у нашых вышэйшых навучальных установах, у Беларускім дзяржаўным універсітэце, з якога многія з нас выйшлі, на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне.

Секцыя паэзіі робіць яшчэ адну вельмі няпростую, але прыемную справу: яна глыбока аналізуе і прапануе на вышэйшую прэмію — прэмію "Залатога Купідона" — лепшыя кнігі года. Паэтамі, ушанаванымі гэтай высокай прэміяй, сталі Раіса Баравікова, Віктар Шніп, Рыгор Сакалоўскі, Валянціна Паліканіна, Мікола Мятліцкі. Задачы ў нашай секцыі няпростыя, але іх вырашаць — наш абавязак.



## Пра драматургію і драматургаў

**Анатоль ДЗЯЛЕНДЗІК, старшыня бюро секцыі драматургіі**

Чым належыць ганарыцца секцыі драматургіі Саюза пісьменнікаў Беларусі? У першую чаргу, поспехамі нашых драматургаў. А іх нямала. П'еса Алены Паповай "Сонечка" паводле рамана Ф. Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне" ідзе ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. П'еса "Эцюды кахання" — у Смаленску.

Зусім нядаўна адбылася прэм'ера спектакля паводле п'есы Алены Паповай "Маленькі свет" у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску. Дарэчы, гэты тэатр даволі прыхільна ставіцца да нашых аўтараў. З поспехам пры садзейнічанні Праваслаўнай Царквы і на грант, вылучаны Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, тут была пастаўлена гістарычная драма Ірыны Масляніцынай "Крыж Еўфрасінні Полацкай". У рэпертуары ёсць і п'еса Фёдара Палачаніна "Пазычанае шчасце".

Творы Дыяны Балькі ідуць у Беларусі, Расіі, ва Украіне. Казкі Наталлі Марчук пастаўленыя на сцэнах Мурманскага і Екацярынбургскага тэатраў. Ёсць новая п'еса ў Святланы Бартохавай. Актыўна працуе Георгій Марчук. Ім створаны сатырычная п'еса "Святы грэшнік" і лірычная камедыя "Багдан любіць Галю". Андрэй Курэйчык прадставіў на суд гледача "Пане Каханку" — спектакль уваходзіць сёння ў рэпертуар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага. Для Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Сяргей Кавальчык напісаў "Выкраданне Еўропы, або Тэатр Уршулі Радзівіл". Добры сцэнічны лёс у п'ес-казак слонімскага драматурга Алеся Якімовіча. П'есы Анатоля Дзялендзіка пастаўлены ў Бабруйску, у РТБД, у антрэпрызе.

Хацелася б, канечне, яшчэ большай актыўнасці нашых тэатраў, бо драматургія ўсё ж такі прыкладны жанр.



## Радзімазнаўчыя крокі

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, старшыня бюро секцыі краязнаўства**

Секцыя краязнаўства, створаная ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, аб'яднала самых розных літаратараў. Дарэчы, ад аднаго з калег мне давялося пачуць: "Кожны пісьменнік паводле свайго прызначэння і ёсць краязнаўца, радзімазнаўца. Бо ўсе мы стараемся апісваць свой родны куточак, сваю вёску ці свой горад…" І з гэтым, відаць, нельга не пагадзіцца.

Праводзячы пасяджэнні секцыі, мы абмяркоўваем самыя розныя здабыткі на ніве гісторыка-краязнаўчай літаратуры. На шчасце, і ў "Мастацкай літаратуры", і ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", і ў "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі", і ў "Беларусі" такія кнігі выходзяць. Магчыма, іх не так шмат, хацелася б выдавецкую краязнаўчую прастору бачыць як мага шырэйшай і больш пленнай. Кнігі такога характару заўсёды выклікаюць увагу чытачоў, спрыяюць цікавасці да гісторыі. Мы і самі шукаем аўтараў, літаратараў, журналістаў, якія займаюцца краязнаўчай тэматыкай. Прынялі ў СПБ па нашай секцыі журналістку з Лунінца Таццяну Канапацкую, кіраўніка прадпрыемства і апантанага даследчыка мінуўшчыны Тамару Філіповіч, іншых цікавых асоб. На бліжэйшых пасяджэннях разгледзім творчасць публіцыста Аляксандра Хазяніна, які выдаў некалькі кніг, краязнаўцы з гарадскога пасёлка Смілавічы, аўтара кнігі "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах" Івана Ярашэвіча, гістарычнага раманіста Вадзіма Гаўрылава. Мяркую, што гэтыя літаратары зоймуць сваё ўласнае месца ў творчым асяродку нашай краіны.

Секцыя краязнаўства ўважлівая да многіх арганізацыйных ініцыятыў у справе ўшанавання гістарычнай спадчыны. На гэтыя тэмы пісьменнікі выступаюць у друку. На старонках часопісаў "Полымя", "Маладосць", у газеце "Літаратура і мастацтва" змяшчаюцца гісторыка-краязнаўчыя матэрыялы. А сёлета дадатак да газеты "ЛіМ" "Зямля пад белымі крыламі" адзначаны як лепшы праект на конкурсе "Залатая Ліцера". Сярод аўтараў гэтага перыядычнага газетнага разварота нямала сяброў СПБ. Прыемна, што з многіх газетных праектаў, ініцыятыў у гэтым кірунку пасля вырастаюць кніжныя раздзелы, а то і самі кнігі. Удзячны за супрацоўніцтва з літаратурна-мастацкай перыёдыкай па краязнаўчай тэматыцы пісьменнікам Ігару Пракаповічу з Паставаў, Браніславу Зубкоўскаму з Мар'інай Горкі, Уладзіміру Кісялёву з Мінска, Генадзю Аўласенку з Чэрвеня ды многім іншым калегам.



# Чорны хлеб літаратуры

**Васіль ШЫРКО,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, старшыня бюро секцыі публіцыстыкі**

Не сакрэт, што нарысы, эсэ, публіцыстыка — чорны хлеб літаратуры. Пра тое, як жылі мы і нашы бацькі, праўнукі і прапраўнукі даведаюцца з дакументальных твораў.

Наша секцыя публіцыстыкі збіраецца часта. Абмяркоўваем творы сталых аўтараў, рэкамендуем да прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі лепшых з лепшых журналістаў, а таксама вучоных, якія добра валодаюць пяром, вядомых педагогаў, радзей — здольных студэнтаў. На вялікі жаль, не так шмат літаратараў, якія пішуць пра сённяшні дзень, пра нашых сучаснікаў. І ўсё ж нямала тых, для каго публіцыстыка стала справай жыцця. У гэтым жанры даўно найбольш плённа працуюць тры таленавітыя Уладзіміры: Ліпскі, Глушакоў, Сауліч. Пяру Уладзіміра Ліпскага належаць кнігі пра цудоўнага кампазітара Ігара Лучанка, старшыню знакамітага СВК "Астрамечава" Аляксея Скакуна. Уладзімір Сауліч на свяце Дня пісьменства ў Ганцавічах за кнігу "Антэі Прыдзвіння" пра старшынёўскі корпус Віцебшчыны ганараваны "Залатым Купідонам".

Арыгінальна, змястоўна, цікава піша пра знакамітых беларусаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Алесь Марціновіч. Радуюць сваімі грунтоўнымі публікацыямі Віктар Гардзей, Славамір Антановіч, Ніна Чайка, Уладзімір Вялічка, Віктар Кавалёў, Вадзім Гігін, Святлана Берасцень, Ірына Масляніцына.

Дзверы секцыі шырока адчынены для ўсіх жадаючых, прыносьце свае творы: будзем разам чытаць, абмяркоўваць, лепшых аўтараў, якія маюць кнігі, рэкамендаваць да прыёму ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.



# Высокія крытэрыі духоўнасці

**Іван ЧАРОТА,**
**старшыня бюро секцыі перакладу і літаратурных сувязей**

Я, канечне ж, усведамляю, што ў дадзенай сітуацыі патрабуецца адпаведная справаздачнасць. Аднак разумею таксама, што галоўнае ўсё ж — не "адрапартаваць з'езду", а падзяліцца думкамі наконт рэальнага стану і пажаданых перспектыў развіцця мастацкага перакладу і літаратурных сувязей. Таму перш за ўсё хачу звярнуць увагу на моманты, якія і для тэорыі, і для практыкі з'яўляюцца апорнымі, хоць мы іх, на жаль, яшчэ ніяк не ўнясём у катэгорыю замацаваных, а тым больш агульнапрынятых. Патлумачу, што маецца на ўвазе.

Па-сапраўднаму сур'ёзная і адказная размова пра нацыянальную літаратуру можа адбывацца тады, калі належным чынам улічваецца роля перакладу ва ўнутры- і міжлітаратурных працэсах. Без перакладной літаратуры проста немагчыма выверана ацэньваць суадносіны свайго і чужога, патрэбныя для паўнавартаснага развіцця. Нездарма літаратурная сітуацыя, ды й эпоха таксама, вызначаецца тым, якія пераклады яна запатрабоўвае, якія церпіць, якімі захапляецца. Перакладны твор нельга апрыёрна лічыць другасным у адносінах да любога твора арыгінальнага, а перакладчыка няправільна загадзя ўспрымаць як "недапісьменніка". Па вялікім рахунку, трэба, каб перакладная літаратура не толькі ўносіла разнастайнасць, але і ўсталёўвала высокія крытэрыі духоўнасці і мастацкасці, стымулявала паводле іх творчыя пошукі айчынных пісьменнікаў. Варта памятаць таксама, што ўзровень перакладной нацыянальнай літаратуры пэўным чынам задаецца перакладазнаўствам і крытыкай перакладу. Дык вось, нам трэба з максімальнай адказнасцю і заклапочанасцю разгледзець хоць бы гэта ў праекцыі на нашу сітуацыю, усё аб'ектыўна ацаніць, а затым адшукаць магчымасці пераадолення выяўленых пралікаў, недахопаў. Што ж да аспекту справаздачнага, то і ён не павінен быць дзяжурна-кампліментарным. У ім патрэбна самакрытычнасць. Асабліва ў сувязі з арганізацыйна-творчай працай на ўзроўні секцыі. Прычым і я асабіста мушу прызнаць пэўную адказнасць за гэта; спадзяюся, калегі таксама. Але такая сітуацыя абумоўлена-такі і шэрагам аб'ектыўных прычын.

Бадай, усе мы нешта перакладалі. А тое, што паспелі надрукаваць, было так ці інакш ацэнена. Скажам, не абмінуты ўвагаю публікацыі В. Грышкаўца, М. Мятліцкага, Ю. Сапажкова, У. Скарынкіна, З. Краснеўскай, І. Найдзёнкава, А. Цяўлоўскага, В. Шніпа.

І калі браць стаўленне да перакладчыкаў "зверху", таксама трэба адзначыць станоўчае: ужо чатыры гады Рэспубліканскі літаратурны конкурс уключае намінацыю "пераклад"...

Тым не меней, я зноў паўтараю тое, пра што гаварыў ужо неаднойчы: калі мы сапраўды спадзяёмся на "пачэсны пасад між народамі", то перакладу і літаратурным сувязям проста мусова надаваць больш увагі — і "знізу", і "зверху", а не лішне і "збоку".



# Менш агульных слоў

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, старшыня бюро секцыі крытыкі і літаратуразнаўства**

Пачну са свайго роду лікбезу. Многія чамусьці забываюць, што крытыка — не абслугоўванне пэўных аўтараў і не штосьці агладабельнае, як гэта было ў сумныя 30-я гады мінулага стагоддзя. Яна ацэньвае літатурныя з'явы не ізалявана, а ў адносінах іх да сучаснасці. Літаратуразнаўства ж — свайго роду навука пра мастацкую літаратуру, яе грамадскае значэнне, вобразна-эстэтычную сутнасць літаратурна-мастацкай творчасці. Зыходзячы з гэтага і працуюць нашы крытыкі і літаратуразнаўцы. Правафланговым з'яўляецца адзін са старэйшын літаратурна-крытычнага цэху краіны акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Уладзімір Гніламёдаў, які, дарэчы, апошнім часам напісаў і некалькі раманаў, што сталі з'явай у сучаснай беларускай літаратуры.

Што датычыць непасрэдна работы секцыі, то працуе яна так, як павінны працаваць і іншыя падобныя суполкі: менш агульных слоў, больш канкрэтных дзеянняў. На пасяджэннях абмяркоўваюцца надзённыя пытанні, даюцца рэкамендацыі для прыёму ў СПБ. Пра актыўнасць сведчаць і рэцэнзіі, артыкулы ў газетах і часопісах, удзел у правядзенні "круглых сталоў", прысвечаных праблемам сучаснай літаратуры. Выходзяць, няхай і не так часта, як раней, і кнігі. Лепшыя з іх атрымліваюць належную ацэнку, сведчанне таму і тое, што Алесь Карлюкевіч, Віктар Гардзей, Анатоль Мяснікоў (вечная яму памяць), Таццяна Шамякіна і аўтар гэтых радкоў сталі ўладальнікамі "Залатога Купідона".



# Проста нерэальна!

**Уладзімір КУЛІЧЭНКА,**
**старшыня бюро секцыі прыгод і фантастыкі**

Фантастыка была і застаецца адным з самых папулярных літаратурных жанраў. Сучасная фантастыка імкнецца даследаваць чалавека ва ўмовах свету, які хутка мяняецца пад уплывам навуковых дасягненняў. І хаця фантастыка, як правіла, з'яўляецца апераджальным адлюстраваннем рэчаіснасці, такі падыход дазваляе ёй узды́маць і абмяркоўваць надзвычай важныя навукова-вы, сацыяльныя і псіхалагічныя праблемы, актуальныя для нашых сучаснікаў.

Наша секцыя ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі налічвае 23 чалавекі, сярод якіх такія вядомыя аўтары, як Вольга Грамыка, Генадзь Аўласенка, Наталія Новаш, Аляксандр Сілецкі, Зінаіда Дудзюк. Пачынаючы з 2009 года творы нашых аўтараў выходзяць у кніжнай серыі "Бібліятэка сучаснай беларускай фантастыкі і прыгодніцкай прозы", на сённяшні дзень выдадзена ўжо 22 кнігі. З'яўленне серыі выклікала шматлікія водгукі ў рэспубліканскай прэсе, сярод наведвальнікаў інтэрнэт-сайтаў аматараў фантастыкі і ў чытацкіх блогах. Выносіцца розныя, іншым разам катэгарычныя, меркаванні, але несумненным застаецца адно — ажыццяўленне гэтага праекта з'яўляецца яркай падзеяй сучаснай беларускай літаратуры. Паводле вынікаў літаратурнага конкурсу "Новая беларуская фантастыка", у якім удзельнічалі аўтары ва ўзросце да 31 года, сфарміравана маладзёжнае аддзяленне секцыі. Творы лаўрэатаў будуць апублікаваныя.



# Узняць прэстыж сатыры і гумару

**Мікола ШАБОВІЧ,**
**старшыня бюро секцыі сатыры і гумару**

Работа бюро секцыі сатыры і гумару Саюза пісьменнікаў Беларусі ў міжз'ездаўскі час была даволі насычанай. Рэкамендацыя ў саюз новых членаў, абмеркаванне новых кніг з вылучэннем прэтэндэнтаў на атрыманне літаратурнай прэміі "Залаты Купідон", арганізацыя і правядзенне штогадовых свят гумару (рэспубліканскіх і мінскіх гарадскіх). Можна з прыемнасцю канстатаваць, што выйшла нямала цікавых кніг, тры пісьменнікі-гумарысты былі ўдастоены прэміі "Залаты Купідон". Разам з тым, у гэтым годзе члены бюро секцыі вырашылі нікога не намінаваць на прэмію, хоць абласнымі аб'яднаннямі СПБ і было прадстаўлена 5 кніг.

На жаль, апошнім часам усё менш творцаў заяўляе пра сябе ў сатырычна-гумарыстычным жанры. Гэта тлумачыцца найперш тым, што для гумарыстаў засталося толькі адно выданне, дзе яны могуць змясціць свае творы, — альманах "Вожык". Сёння даводзіцца толькі ўспамінаць той час, калі выходзілі штомесячныя падборкі гумару ў часопісах "Полымя", "Маладосць", газеце "Літаратура і мастацтва", часопісе "Роднае слова"... Таксама было б нядрэнна, каб рэспубліканская, абласныя і раённыя газеты аднавілі старонкі (ці рубрыкі) сатыры і гумару, як гэта было некалі.

Толькі сумеснымі намаганнямі мы зможам узняць прэстыж жанру.

## Ваша пытанне да з'езда

**Іван КАПЫЛОВІЧ:**

— Мяне хвалююць тыя ж праблемы, што і большасць калег. Як данесці свае творы да чытачоў? У літаратурных часопісах апублікавацца цяжка — іх адзінкі, пісьменнікаў шмат. Выдаць кніжку, калі не маеш на тое грошай, мала магчымасцей. А ганарары за кнігі? Творы нашых пісьменнікаў выдаюцца і без ганарараў, і з навязваннем кніг замест грошай, і з запазычанасцю па выплаце на некалькі гадоў. Літаратура не будзе развівацца, калі не будзе скончана з гэткімі прыніжэннямі пісьменніцкай працы.

**Анатоль АНДРЭЕЎ:**

— Як рускамоўны пісьменнік я адчуваю актуальнасць праблемы прадстаўленасці рускамоўнай літаратуры ў Беларусі. Пры тым, што на рускай мове пішуць многія айчынныя літаратары, культурны статус яе ў нашай краіне дагэтуль не вызначаны. Часопіс "Нёман", на які ў асноўным ускладаюцца спадзяванні калег, нават пры стварэнні сваім задумваўся як выданне для перакладаў з беларускай мовы твораў. Тое, што нас у ім таксама друкуюць, — гэта проста выяўленне добрай волі кіраўніцтва выдання. У краіне практычна не існуе літаратурнай крытыкі ў адносінах да рускамоўнай літаратуры — рэцэнзіі на кнігі беларускамоўных аўтараў з'яўляюцца больш-менш рэгулярна. Маё пытанне да з'езда: ці плануюцца нейкія зрухі па вырашэнні гэтых праблем? І яшчэ адно пытанне: ці можа наш творчы саюз стварыць нейкую інтэрнэт-пляцоўку, дзе б размяшчаліся літаратурна-мастацкія тэксты? Іх можна было б мяняць, аднаўляць, рабіць адпаведныя прэзентацыі. Нам проста патрэбны сучасны падыход да пошукаў чытача.

**Алена РУЦКАЯ:**

— Мы павінны развіваць не толькі літаратуру, але і чытача. А патэнцыяльны чытач сёння сядзіць за партай у школе. Наколькі ўдасца развіць у школьнікаў густ і звычку чытання добрай літаратуры, настолькі запатрабаванай акажацца наша творчасць заўтра. На жаль, у школе сёння назіраецца такі ўхіл: увесці ў праграму як мага больш аўтараў. Дзеці губляюцца. Настаўнікам не хапае часу, каб скіраваць іх увагу на асобу літаратара. "Праходзіць твор" — вось правільнае вызначэнне працэсу. І вучні сапраўды "праходзяць"… праз літаратуру, не засяроджваючыся на яе вартасцях. Можа, трэба браць менш твораў для вывучэння, але вывучаць як мае быць? Можа, трэба больш расказваць пра асобу пісьменніка — гэта выхоўвае. А яшчэ ж праз лёс чалавека можна вылучыць яго пазіцыю. І толькі гэта дапаможа сапраўды зразумець творчасць. І — вось маё пытанне — ці не час саюзу пісьменнікаў звярнуць увагу на тое, як цяпер вывучаецца ў школах беларуская літаратура? Можа, трэба ўжо досвед, які напрацаваны ў іншых кірунках, скарыстаць для ўдасканалення методыкі выкладання?

# У адзінай культурна-духоўнай прасторы

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**У 2009 годзе быў створаны адзіны Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Яго аснову склалі члены Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сустаршынямі сталі кіраўнікі расійскага і беларускага саюзаў пісьменнікаў Валерый Ганічаў і Мікалай Чаргінец. Сёння мы размаўляем з Валерыем Ганічавым, чалавекам, які аддае сапраўды шмат сіл і энергіі дзеля таго, каб творчыя і сяброўскія сувязі братніх славянскіх народаў не парваліся, каб прыхільнасць і сімпатыя не змяніліся на непаразуменне і варожасць, каб мы працягвалі заставацца братамі.**

**— Валерый Мікалаевіч, даводзілася знаходзіць выказванні, у асноўным на расійскіх сайтах, маўляў, літаратарам членства ў Саюзе пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы рэальна нічога не дае, і яго стварэнне з'яўляецца проста палітычнай дэкларацыяй. Як вы ставіцеся да гэтага?**

— На гэтае пытанне добра адказаў омскі паэт Ю. Пермінаў: "Калі прыходзяць, хочуць уступіць у саюз і пытаюцца, што гэта мне дае, то гэта нагадвае мне сітуацыю, калі чалавек прыходзіць у партызанскі атрад і пачынае не з таго, каб яму далі зброю, а просіць даць яму кацялок і кашу". І яшчэ: калі для кагосьці дружба нашых народаў, наша агульная гісторыя, агульная гераічная барацьба супраць фашызму, наш агульны лёс з'яўляюцца толькі палітычнай дэкларацыяй, то мы ім рашуча пярэчым і кажам, што гэта сутнасць, сэнс і задача нашага агульнага Саюза пісьменнікаў Расіі і Беларусі. Мы імкнёмся стварыць адзіную культурна-духоўную прастору, на якой паўнаўладна дзейнічаюць, жывуць і ўзаемаўзбагачаюцца розныя мовы, розныя ўзоры нацыянальных культур.

**— У сваіх інтэрв'ю вы называеце адным з самых прыярытэтных напрамкаў у дзейнасці Саюза пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі работу з правінцыяй. Ці ёсць у планах Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы канкрэтныя пункты па падтрымцы літаратараў глыбінкі?**

— Сапраўды, дзейнасць Саюза пісьменнікаў Расіі будуецца шмат у чым на нашай агульнай рабоце ў правінцыі, у абласцях і рэспубліках Федэрацыі. Мы рэгулярна з 1995 года праводзім сустрэчы і нават пленумы Саюза пісьменнікаў у Якуціі, Омску, Іркуцку, Арле, Белгарадзе, Курску, Валгаградзе, Грозным. Толькі што прайшоў пашыраны сакратарыят, хутчэй пленум, у Волагдзе, на радзіме Мікалая Рубцова і Васілія Бялова з парадкам дня: "Валагодская пісьменніцкая школа: працяг традыцый рускай класічнай літаратуры". У Смаленску мы правялі ў дзень 70-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны пленум "Рубеж гісторыі — рубеж літаратуры", у якім удзельнічала вялікая дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў. У пачатку будучага года мы праводзім у Саранску пленум, прысвечаны нашым нацыянальным літаратурам і 1000-годдзю ўваходжання мардоўскіх зямель у склад Расіі. А ў Харкаве, дзе ёсць вялікая арганізацыя Саюза пісьменнікаў Расіі, у снежні пройдзе традыцыйная сустрэча, прысвечаная Пераяслаўскай Радзе і нашым літаратурам. Там, дарэчы, аднаўлены дарэвалюцыйны часопіс "Славянин". Пішуце туды, дарагія калегі.

**— Вы шмат разважаеце пра духоўнае адраджэнне грамадства. Але ці магчыма гэта, калі нашчадкі "самай чытацкай краіны ў свеце" перасталі цікавіцца сур'ёзнай літаратурай?**

— Так, мы гаворым пра духоўнае адраджэнне, і вы маеце рацыю, што чытанне тут неабходны і найважнейшы элемент, і за яго вяртанне на высокі п'едэстал трэба змагацца, а не скардзіцца, звяртаючы свае "філіпікі" то да царскай Расіі, то да савецкай улады, то толькі да сённяшніх улад. Трэба пісаць харошыя кнігі. І яшчэ — ісці да чытача, у бібліятэкі. Добры ўзор быў, напрыклад, яшчэ ў 40 — 50-я гады: мы распаўсюджвалі кнігі. Быць "кнігаsuccessful носам" мне давялося ў школе і ў часы студэнцтва. Рушыць ад фермы да фермы, ад пасёлка да хутара, каб данесці кнігу. А цяпер мы толькі ўсё стогнем. Ды і новыя тэхналогіі хаця і разборлівa, і абачліва, але трэба выкарыстоўваць пры распаўсюджванні кніг.

**— Ці ўдала, па-вашаму, складваецца сумесная літаратарская дзейнасць расіян і беларусаў?**

— Я б сказаў, што работа нашага агульнага Саюза пісьменнікаў ідзе даволі паспяхова. У мінулым годзе правялі ў Курску сумесны пленум "Нам дороги эти позабыть нельзя", прысвечаны 65-годдзю Перамогі. У гэтым годзе прайшоў сумесны пленум у Брэсце, на якім вызначылі планы далейшага супрацоўніцтва. У Мінску пачаў выходзіць наш сумесны часопіс "Белая Вежа". З'явілася ўжо тры нумары. Мы акрэслілі гэты часопіс як часопіс братніх народаў, дзе змогуць друкавацца і ўжо друкуюцца рускія, беларуская і ўкраінскія пісьменнікі. "Хрысціянскія каштоўнасці, дружба братніх народаў — трывалы падмурак цяперашніх і будучых поспехаў", — гэтак вылучылі мы вектар нашага часопіса.

У нас ёсць агульная тэма: гераічная і трагічная гісторыя Вялікай Айчыннай вайны. Таму і пленумы ў Курску і Брэсце былі прысвечаныя ёй. Прэмія "Прохараўскае поле" была прысуджана беларускаму празаіку-воіну Алесю Савіцкаму, а дзецям з Пінска мы прысудзілі прэмію за работы пра партызанаў. Першым лаўрэатам літаратурнай прэміі Саюзнай дзяржавы стаў Станіслаў Куняеў, паэт і галоўны рэдактар "Нашего современника", за майстэрскі пераклад "Песні пра зубра".

Дарэчы, "Наш современник" таксама трывала стаў часопісам нашай дружбы і штогод цэлы нумар прысвячае беларускім пісьменнікам. За ім крочыць і "Роман-журнал XXI век", і "Российский писатель".



## Падстава для аптымізму

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Галоўны рэдактар часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі "Белая вежа" Васіль Шырко на пытанне пра канцэпцыю часопіса адказвае:** "Наша выданне стваралася з мэтай – не даць літаратурнаму полю звузіцца да памераў шагрэневай скуры, захаваць шырокую панараму сучаснай літаратуры Расіі і Беларусі і мацаваць сяброўскія кантакты паміж нашымі краінамі ў гэтай галіне.

Абавязковая ўмова — высокі мастацкі прафесіяналізм. Часопіс "Белая Вежа" быў створаны, каб на сваіх старонках увасобіць самыя лепшыя творы рускіх і беларускіх літаратараў, зберагчы літаратурны кантэкст і ўзаемаўплыў, які ішоў на карысць нашым літаратурам. Сёння выданне мае фінансавую падтрымку Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы.

У Расіі "Белую Вежу" ведаюць, да часопіса выдатна адносяцца. Члены рэдкалегіі — Валерый Ганічаў, старшыня Саюза пісьменнікаў Расіі, сакратар саюза Мікалай Іваноў. З нашага боку — Генадзь Пашкоў, Міхась Пазнякоў. Не так даўно прайшоў "круглы стол", арганізаваны па ініцыятыве часопіса "Беларуская думка", падчас якога ўдзельнікі разважалі пра лёс "тоўстых" часопісаў. Дык вось, у нас аптымізм ёсць. Часопіс ёсць у бібліятэках, на яго існуе попыт, падпіска ёсць.

У нас, у адрозненне ад іншых выданняў, не будзе ніколі цяжкасцей з высакаякаснай прафесійнай літаратурай. Матэрыялы прыходзяць з усёй прасторы былога Савецкага Саюза. Вядома, і з усёй Беларусі.

І хаця наш часопіс перш за ўсё літаратурны, не адмаўляемся мы і ад публіцыстыкі — многа праблемных вострых матэрыялаў. Да прыкладу, у апошніх нумарах — артыкулы акадэміка Уладзіміра Гніламёдава "Глыбіня, своеасаблівасць, багацце" пра руска-беларускія літаратурныя сувязі, Таццяны Шамякінай "Роль крытыкі ў развіцці літаратуры" пра стан сучаснай крытыкі.

Мы не зачыняемся ад сучаснага жыцця — наша рубрыка "Сецевыя размовы" вывучае тэматыку, актуальную ў Інтэрнэце, і развівае яе на старонках часопіса. У другім нумары часопіса рубрыка прысвечана тэме патрыятызму. Таму паступаюць і званкі, і пісьмы".

# Маральны імператыў

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Наш современник" Аляксандр Казінцаў — часты госць у Беларусі. Зусім нядаўна ён наведаў нашу краіну, каб прыняць удзел у мерапрыемствах, звязаных са святкаваннем Дня беларускага пісьменства. Карыстаючыся выпадкам, мы вырашылі пагутарыць з Аляксандрам Іванавічам пра самае надзённае — стасункі сучасных чытачоў і сучасных літаратараў.**



**— Аляксандр Іванавіч, часопіс, які вы прадстаўляеце, называецца "Наш современник". А які ён, наш сучаснік? Меркантыльны, знерваваны, прагматычны, эрудзіраваны?**

— Не стану накідваць партрэт сучасніка. Гэта лепш зробяць сацыёлагі. Але асноўную рысу адзначу — з апорай на дадзеныя тых жа сацыялагічных службаў. На аснове шматлікіх апытанняў яны сцвярджаюць: ад рынкавых рэформ выйгралі каля 20 працэнтаў расіян, астатнія прайгралі. І гэтую большасць агортваюць пачуцці расчаравання, настальгіі, болю. Невыпадкова нямецкія даследчыкі адзначаюць, што "жыхары Расіі — самыя няшчасныя ў Еўропе". Толькі 37 працэнтаў маіх суайчыннікаў задаволеныя жыццём. Для параўнання, у Даніі, якая заняла першае месца, шчаслівых людзей 96 працэнтаў. У Беларусі апытанне не праводзілася, але тым, хто марыць пра хутчэйшае ўключэнне краіны ў капіталістычны рынак, варта было б улічваць сумны вопыт Расіі.

**— Рускі і беларускі сучасны чытач. Як, па-вашаму, чым адрозніваюцца яны?**

— З боку, з налёту, было б неабачліва ацэньваць чытача беларускага. Ды і ў Расіі чытач розны. Пераважаюць "глытацелі пустотаў", паводле вызначэння Марыны Цвятаевай. Самы вялікі сукупны тыраж — 5,4 мільёна экзэмпляраў — у дэтэктыўшчыцы Дар'і Данцовай. Другое і трэцяе месцы таксама ў аўтараў дэтэктыўных раманаў. Але ёсць і іншы чытач — нераўнадушны, удумлівы, той, які імкнецца ва ўсім "дайсці да самай сутнасці". Гэта чытацкая эліта — аўдыторыя тоўстых літаратурна-мастацкіх часопісаў. Згодна са шматгадовай расійскай традыцыяй, яны прапануюць сваім падпісчыкам самы шырокі дыяпазон тэм, жанраў, пунктаў гледжання, адзнак. Ганаруся тым, што першынство ў гэтым сегменце ўжо шмат гадоў належыць "Нашему современнику». Тыраж часопіса такі ж, як у "Нового мира" і "Знамени" ў сукупнасці.

***— Літаратурныя крытыкі савецкага часу прывучылі нас да думкі, што пісьменнік пэўным чынам павінен уздзейнічаць на грамадства, гуманізуючы яго. Ці ёсць такі шанс у сучаснага літаратара?***

— Шансу няма. Сур'ёзная літаратура да шырокага чытача не даходзіць. І тут праблема не толькі чытацкага выбару і густу, але і выдавецкай палітыкі. На жаль, у кнігавыданні, у СМІ, у шоу-індустрыі дамінуе аблегчаны падыход, які да немагчымасці спрошчвае форму і змест. У песнях часам — да двух-трох слоў, а то і невыразных гукаў. Іншым разам здаецца, што чытачоў і слухачоў спецыяльна — і гвалтоўна — абалваньваюць. Пэўна, статкам, якое мычыць і дрыгаецца ў такт музыцы, лягчэй кіраваць... Паўтараю, шансу няма. Але ёсць маральны імператыў. Яго наяўнасць і адрознівае сапраўднага мастака ад рамесніка, няхай і ўзнесенага на вяршыні папулярнасці. Такія аўтары "Нашего современника", як Валянцін Распуцін, Васілій Бялоў, Уладзімір Крупін, і сёння нагадваюць грамадству пра міласэрнасць, душэўную спагадлівасць і іншыя маральныя якасці, без якіх ні чалавеку, ні краіне не выжыць.

**— Як вы думаеце, паняцце "вялікая руская літаратура" так і застанецца паняццем, якое ўжываецца для характарыстыкі толькі XIX стагоддзя?**

— Ну чаму ж. Той жа Валянцін Распуцін, два гады таму прызнаны ў Кітаі з яго шматмільённай чытацкай аўдыторыяй самым папулярным замежным аўтарам, хіба не прадаўжальнік вялікай рускай літаратуры? Тое ж можна сказаць пра пайшоўшых з жыцця Васілія Шукшына, Віктара Астаф'ева, Мікалая Рубцова. Я шчаслівы тым, што іх звязвалі з нашым часопісам жывыя творчыя сувязі.

**— Наколькі рускай грамадскасці сёння можа быць цікавая беларуская літаратура?**

— Ды яна і рускай не цікавіцца. Хаця пры наяўнасці адказнай выдавецкай і — шырэй — культурнай палітыкі становішча можна выправіць. Часопіс "Наш современник" робіць у гэтым плане ўсё, што ад нас залежыць. Вы, безумоўна, ведаеце, што ўжо восем гадоў мы нязменна прысвячаем снежаньскі нумар беларускай літаратуры. За гэтыя гады "Наш современник" пазнаёміў рускіх чытачоў з творамі дзясяткаў сучасных аўтараў з Беларусі.

**— Размовы пра кансалідацыю славянства для вырашэння далейшага яго лёсу вядуцца ўжо даўно. Ці можа літаратар ці то група літаратараў стаць тымі асобамі ў славянскай гісторыі, якія ўзначаляць гэты рух?**

— У XIX стагоддзі сярод славянскіх народаў, перш за ўсё чэхаў, славакаў, сербаў, узнік рух гэтак званых "будзіцеляў" — Ганка, Даброўскі, Шафарык, Вук Караджыч. Іх мэтай было абудзіць нацыянальную самасвядомасць славянскіх народаў, большая частка якіх знаходзілася пад уладарствам Аўстра-Венгрыі. Надзеі на вызваленне і культурнае адраджэнне яны звязвалі з Расіяй. Пазней, у гады Першай сусветнай, гэтая ідэя ўратавала жыццё многім рускім салдатам. Славяне, апранутыя ў аўстрыйскую форму, адмаўляліся страляць у сваіх братоў. Хто ведае, можа, і ў новых, не менш драматычных, умовах ідэя славянскай еднасці зберажэ мноства жыццяў. А пры самым спрыяльным развіцці дапамажа, урэшце, аформіцца магутнай славянскай цывілізацыі, якая, пры ўсёй сваёй укаранёнасці ў еўрапейскай культуры, усё ж такі адрозніваецца ад цывілізацыі Захаду. Што праяўляецца не толькі ў культурнай, але і ў палітычнай сферы.

# Твор і твар маладога аўтара

Марына ВЕСЯЛУХА

**Маладыя аўтары заўсёды адыгрываюць важную ролю ў літаратуры. Менавіта яны, не баючыся эксперыментаў, распрацоўваюць новыя метады творчага самавыяўлення. У беларускай літаратуры своеасаблівым “гадавальнікам” новых імёнаў ужо доўгі час з’яўляецца часопіс “Маладосць”. Не так даўно ён змяніў імідж — займеў новую вокладку. Ці адбілася змена вокладкі на змесце часопіса? Як рэдакцыя працуе з маладымі творцамі, заахвочвае іх да новых публікацый? Пра гэта — наша гутарка з галоўным рэдактарам “Маладосці” Таццянай Сівец.**


Фота Кастуся Дробава

**— Таццяна, чаму “Маладосць” змяніла імідж?**

— Маладосць — час, калі можна не баяцца перамен, памылак. Час, калі хочацца выглядаць прыгожа і стыльна, каб твой вобраз прыцягваў увагу. Таму і мы вырашылі пачаць з “вопраткі” часопіса. Ён і так быў вельмі прыгожы і цікавы, але нам захацелася, каб ён быў яшчэ і адметны. Калі падыходзім да шапіка з часопісамі, адразу бачым, што на нас глядзяць твары актрыс, мадэлей. А нам хочацца, каб маладых аўтараў ведалі не толькі па імёнах і па іх творах, але і проста ў твар. Яны гэтага заслугоўваюць. Таму я прапанавала маладому дызайнеру Вераніцы Шніп распрацаваць новую вокладку, зразумела, абапіраючыся на традыцыі часопіса. Дызайн атрымаўся дастаткова мінімалістычны, просты. Але галоўныя нашы патрабаванні выконваюцца — не згубіць назву часопіса, твар маладога аўтара і яго імя. Ужо выйшла чатыры нумары “Маладосці” ў новым іміджы. І, да нашай радасці, у шапіках “Белсаюздруку” часопіс разыходзіцца вельмі хутка. Першы зменены нумар быў прададзены літаральна за тры дні. Часопіс яркі, яго хочацца ўзяць у рукі. А значыць, трэба рабіць другі крок — прывабіць чытача зместам.

**— Ці адбілася змена вонкавага выгляду на змесце часопіса?**

— Так, цяпер мы надаём вялікую ўвагу публіцыстыцы, бо разумеем: паэзія і проза — тое, што заўсёды было і будзе ў часопісе, але “Маладосць” — яшчэ і грамадска-палітычны часопіс, мы не можам абмінуць увагай ні жыццё грамадства ў цэлым, ні жыццё моладзі ў прыватнасці. Кожнаму хочацца пачытаць артыкул пра сябе самога! Таму імкнёмся выйсці да таго, што цікава і нам, і чытачу. Пакідаючы шмат месца для прозы і паэзіі, частку аб’ёму аддаём публіцыстыцы і літаратуразнаўчым артыкулам. Спадзяёмся, што цяпер, калі адпаведны аддзел узначаліў малады даследчык літаратуры Ціхан Чарнякевіч, у “Маладосці” будзе яшчэ больш крытыкі. Не хвалебнай і прыемнай для аўтараў, а канструктыўнай.

**— У адносінах да маладога творцы, якога важна не напалохаць, якая крытыка будзе канструктыўнай?**

— Тая, у якой аўтару тлумачаць, чаму яго кнігу не чытаюць. Бо калі пісьменнік прыносіць рукапіс у выдавецтва, ён хоча мець не проста кнігу, а кнігу, якую будуць чытаць. На жаль, так атрымліваецца не заўсёды. Задача крытыка сёння — дапамагчы аўтару зразумець, для каго ён піша, як заваяваць аўдыторыю. Вось таму ў 9-м нумары часопіса вялікая ўвага надаецца таму, як “раскруціць” твор, як яго выдаць, у якое выдавецтва лепш звярнуцца. А гэта вельмі важна. Для многіх аўтараў пасля першай публікацыі пачынаўся ўздым, з’яўлялася жаданне пісаць больш. Вось таму ў нас у часопісе з’явілася рубрыка “Старонка мінулага”: на фоне вокладкі “Маладосці” ўзору 1960 — 80-х гадоў друкуецца верш таго часу. Так чытач атрымлівае магчымасць параўнаць, як пісалі раней і як пішуць цяпер. Гэтую рубрыку мы збіраемся паглыбіць: прасачыць, чым была для аўтараў публікацыя тады, некалькі дзесяцігоддзяў таму, і што змянілася ў іх творчасці за 30 — 40 гадоў. І варта зазначыць, што большасць тых, каго некалі адкрыла “Маладосць”, сёння ўжо класікі нашай літаратуры.

**— А з маладога пакалення хто мае магчымасць стаць класікам праз 20 — 30 год?**

— Зрніце хаця б на нашыя вокладкі! Гэта малады празаік Надзея Статкевіч, паэтка Ганна Федарук, Маргарыта Латышкевіч, якая піша і прозу, і вершы, займаецца літаратуразнаўствам, Арцём Кавалеўскі, яго ведаюць і як выкладчыка, і як аўтара цікавай кніжкі для дзяцей “Мой сябра Анёлак”, і як крытыка… У цэлым жа на старонках “Маладосці” можна знайсці імёны не толькі паэтаў і празаікаў, але і перакладчыкаў, публіцыстаў, артыстаў, гісторыкаў, краязнаўцаў…

**— Акрамя публікацыі на старонках часопіса ці існуюць іншыя шляхі для заахвочвання маладых творцаў?**

— Не так даўно Саюз пісьменнікаў Беларусі абвясціў конкурс на стыпендыю для маладых творцаў. Думаецца, гэта добры крок, які якраз і будзе прыцягваць моладзь і да саюза, і да супольнай працы. Мы прапануем нашым аўтарам выданне ўласных кніг. Па выніках конкурсаў, што праводзяцца часопісам (а не так даўно быў абвешчаны конкурс, прымеркаваны да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа), мяркуем выдаваць невялічкія зборнічкі. Магчыма, гэта нават будзе аднаўленая бібліятэчка часопіса “Маладосць”. Спадзяюся, што сумесная праца з камісіяй па рабоце з моладдзю СПБ, якую ўзначальвае Алесь Бадак, таксама прынясе карысць нашай маладой літаратуры.

Імкнёмся супрацоўнічаць і з БРСМ. Бо ў нас па сутнасці тыя ж задачы: дапамагчы маладым людзям не толькі правільна выбраць прафесію ці творчае крэда, але і знайсці сваё месца на гэтай зямлі. Нам патрэбна найперш імкненне ад саміх маладых аўтараў. Каб яны не баяліся прыносіць свае творы ў часопіс, звярталіся па дапамогу ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. У традыцыях нашай літаратуры заўсёды была падтрымка моладзі з боку сталых творцаў. І я спадзяюся, што хутка мы ўзновім і традыцыю пастаяннай падпіскі на часопіс “Маладосць”!

# Дарогу юным і таленавітым!

Алесь БАДАК

**На першы погляд, сёння маладым куды лягчэй знайсці шлях да чытача, чым было, напрыклад, нават майму пакаленню (другая палова 80-х). З’явілася шмат новых перыядычных выданняў, з’явіўся Інтэрнэт, і кніг маладых сёння выходзіць куды больш, чым некалі.**

Але, паўтаруся, гэта на першы погляд. Калі раней для маладога аўтара, у пераважнай большасці выпадкаў, першая кніга з’яўлялася своеасаблівым білетам у літаратуру, ставіла творцу ў адзін рад з прафесіяналамі, то сёння дэбютныя кніжкі, нярэдка выдадзеныя за свой кошт і мізэрнымі тыражамі, застаюцца незаўважанымі. Інтэрнэт, з аднаго боку, адкрывае перад аўтарам увесь свет, з іншага — яго творам, нават калі яны арыгінальныя, вельмі лёгка згубіцца ў акіяне графаманіі. Перыядычных літаратурных выданняў, сапраўды, стала больш, але іх ролю ў станаўленні нельга перабольшваць. Я памятаю, якое значэнне для нас, маладых, мела першая публікацыя ў “Полымі” альбо “Нёмане” — там (калі пашанцуе, нават у адным нумары!), дзе друкаваліся Быкаў, Шамякін, Караткевіч, Танк, Панчанка!..

Таму дэвіз “Талентам трэба дапамагаць!” сёння, можа, як ніколі раней, актуальны. Таму нашы сталыя літаратурныя перыядычныя выданні сёння, як ніколі раней, шмат увагі ўдзяляюць маладым. Радасна, што не толькі “Бярозка” ды “Маладосць”, якія паводле статусу і павінны займацца найперш маладымі, але і часопісы “Полымя”, “Нёман” і газета “Літаратура і мастацтва” рэгулярна адкрываюць на сваіх старонках новыя імёны. Вядома, тут шмат залежыць ад пазіцыі галоўнага рэдактара, ад яго разумення, як важна падтрымліваць творчую моладзь. І вельмі прыемна, што такое разуменне ёсць. Так, за апошнія гады часопіс “Полымя” адкрыў свайму чытачу імёны Паўла Барахвостава, Рагнеда Малахоўскага, Аляксея Бруя, Дар’і Дарошкі, Настассі Нарэйкі, Алеся Бараноўскага (дарэчы, на сённяшні дзень самага маладога члена Саюза пісьменнікаў Беларусі) і іншых. У “Нёмане” апошнім часам упершыню з’явіліся творы Аляксея Клакоцкага, Людмілы Шумскай, Аляксандра Рыжова, Дзмітрыя Рыбака, Міхаіла Пегасіна, Жанны Мілановіч, Андрэя Вязава, Марыі Міланоўскай, Георгія Рапановіча, Андрэя Дзмітракова, Аляксея Несцерава, Анастасіі Кузьмічовай, Вольгі Злотнікавай, яшчэ школьніцы Вольгі Семяненкі і іншых маладых аўтараў. Бадай, ніводны нумар штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва” не абыходзіцца без імёнаў маладых. Больш за тое, школу рэдактарскай працы ў “ЛіМе” раней праходзілі альбо праходзяць цяпер многія маладыя творцы: Янка Лайкоў, Марына Весялуха, Ціхан Чарнякевіч, Аляксандра Халопік, Мікола Анішчанка, Сяргей Дубовік, Надзея Пякарская, Кацярына Безмацерных, Марына Ясюсейчык, Рагнед Малахоўскі, Алена Мальчэўская, Віка Трэнас, Яна Явіч, Алена Карп, Дар’я Гуштын, Дзяніс Марціновіч.

Такая ўвага зусім не азначае, што знізілася планка патрабавальнасці. Калі раней айчынная літаратура развівалася, знаходзячыся ў адным рэчышчы, то сёння ў ёй з’яўляюца ўсё новыя кірункі, да якіх, зразумела, звяртаюцца найперш маладыя. Тое ж можна сказаць і пра перыядычныя выданні, якім, захоўваючы ўсе лепшыя традыцыі, трэба ісці ў нагу з часам, каб аднойчы не апынуцца на яго ўзбочыне.

# Выхад у мора адкрыты

**Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, паэт Міхась Башлакоў:**




— У РВУ “Літаратура і Мастацтва” рыхтуецца выбітная кніга “Маладая паэзія Беларусі”. Больш як два гады пайшло ў мяне на збор матэрыялаў да гэтага зборніка, яго ўкладанне і рэдагаванне. Усё лепшае з вершаў маладых, што трапіла ў поле майго зроку, увайшло ў гэтую ўнікальную кнігу. Чаму ўнікальную? Таму, што за ўсю гісторыю беларускага кнігавыдання такога зборніка яшчэ не было. Абавязак старэйшых творцаў, сталых і спрактыкаваных паэтаў — падтрымаць кожнага здольнага маладога аўтара, даць магчымасць адчуць асалоду надрукаванага слова.

Кнігу склалі вершы 180 маладых літаратараў, якія пішуць на беларускай і рускай мовах, — як ужо вядомых, членаў Саюза пісьменнікаў (Андрэя Башлакова, Таццяны Будовіч, Інгі Вінарскай, Дэльфіны, Наталлі Камлюк, Вячаслава Корбута, Валерыі Куставай, Янкі Лайкова, Дар’і Ляцко, Рагнеда Малахоўскага, Ганны Міклашэвіч, Вольгі Пераверзевай, Таццяны Сівец, Андрэя Цяўлоўскага, Марыі Шамякінай, Ксеніі Шаржановіч). Пакуль рыхтавалася кніга, выйшлі зборнікі вершаў у многіх з яе аўтараў: Вольгі Аляшкевіч, Вольгі Астапенкі, Юрыя Баравіцкага, Дар’і Дарошкі, Вольгі Злотнікавай, Анастасіі Кацюргінай, Марыі Маліноўскай, Таццяны Нілавай, Яны Явіч, а некаторыя за гэты час былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (Алесь Бараноўскі, Анастасія Кузьмічова, Дзмітрый Пятровіч, Алена Свечнікава). Большасць аўтараў, прадстаўленых у выданні, невядомыя чытачу.

Кніга цікавая яшчэ і тым, што ў яе ўвайшлі вершы вопытных і вядомых у Беларусі 28 паэтаў, якія друкуюцца пад рубрыкай “Семінар паэзіі Саюза пісьменнікаў Беларусі”. Справа ў тым, што семінары творчай моладзі, якія праводзіліся ў савецкі час спачатку ў Доме творчасці “Каралішчавічы”, а пазней у “Іслачы”, ужо не праводзяцца, таму наспела неабходнасць прапанаваць у кнізе ўзоры творчасці нашых старэйшых пісьменнікаў.

Як казаў некалі Марцыял, “выхад у мора адкрыты”. Добрага шляху, паэтычных знаходак і ўдач!

## Рэгіёны

# «Купалінка» вучыць любові

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Амаль васямнаццаць гадоў існуе літаратурна-творчая суполка школ Мінскага раёна “Купалінка”, якой кіруе паэт Мікола Чарняўскі. Яна аб’ядноўвае каля 20 літаратурных гурткоў, час ад часу збіраючы юных паэтаў і празаікаў на агульныя сустрэчы. На сустрэчах гэтых чытаюцца новыя творы, урачыста абвяшчаюцца пераможцы дзіцячых і юнацкіх літаратурных конкурсаў, а таксама распавядаецца пра іншыя поспехі ўдзельнікаў “Купалінкі”.

Гэтак было і зусім нядаўна, калі ясным кастрычніцкім днём таленавітыя школьнікі Мінскага раёна сабраліся ва ўтульнай глядзельнай зале тэатра “Зніч” у памяшканні Чырвонага касцёла. Вітала дзяцей паэтка, адзін з куратараў суполкі Валянціна Гіруць-Русакевіч. Мікола Чарняўскі павіншаваў юных паэтаў Алену Кастрову і Кацю Крышталевіч з атрыманнем І і ІІІ месцаў на злёце “Юныя таленты Міншчыны”, в таксама адзначыў публікацыі школьнікаў Мінскага раёна ў апошніх нумарах “Вясёлкі” і “Качелей”. Галоўнай падзеяй гэтага года стала апублікаванне ў № 7 часопіса “Маладосць” нізкі вершаў купалінцаў.

Навучыць пісаць вершы немагчыма, але праводзіць своеасаблівыя майстар-класы сярод пачаткоўцаў, запрашаючы да іх на сустрэчы ўжо тытулаваных паэтаў, — неабходна. Таму пасля абмеркавання новых твораў школьнікаў, якія яны прынеслі на пасяджэнне “Купалінкі”, кіраўніцтва суполкі запрасіла да выступлення паэта Уладзіміра Мазго, які цікава расказаў пра свой шлях у вялікую літаратуру, падзяліўся некаторымі сакрэтамі творчасці і прачытаў свае вершы.

Безумоўна, літаратарам будзе далёка не кожны з тых, хто наведвае пасяджэнні “Купалінкі”. Затое ўсе школьнікі, якія сёння спрабуюць сябе тут у напісанні вершаў і празаічных абразкоў, навучацца разумець і шанаваць мастацкае слова, а таксама ганарыцца роднай краінай.

**Усходнія вытокі песні Ганада Чарказяна трэба шукаць у гарах Арменіі, дзе надзвычай звонкае рэха, чыстыя і бруістыя крыніцы. Сёння яго паэтычнае слова жывіць і сокі беларускай зямлі, дзе разам з песняю назаўсёды прапісалася і само сэрца.**

**Філасофская заглыбленасць, важкасць і нечаканасць думкі, афарыстычнасць — усё гэта характэрна для паэтычных радкоў Г. Чарказяна.**

**Асаблівае месца ў творчасці паэта займаюць чаргаві, што ў перакладзе з курдскай азначае "чатыры крокі". Гэтыя чатырохрадкоўі часта здзіўляюць сваёй шчырасцю і мудрасцю, добрым філасофскім падтэкстам.**

**А наогул у творчасці Ганада Чарказяна — два крылы. Другое — празаічнае. Ён сцвердзіў сябе як выдатны навеліст. А ў творчым активе яго — і аповесці, і раманы. У добрай творчай форме сустракае Г. Чарказян сваё 65-годдзе. Цёпла і пранікнёна гучаць і радкі яго новых вершаў, якія прапануюцца вашай увазе.**



Ганад Чарказян

## Дзявочая песня

*Востраў маёй надзеі*
*У акіяне мрояў —*
*Хвалі зліваюцца з небам,*
*Чайкі паветра крояць.*

*Там маёй мары гавань*
*І бераг з пяску залатога.*
*Туды без крылаў лячу я,*
*Хоць там і не свеціць нічога.*

*Прытомяцца, сціхнуць хвалі,*
*І ўраз акіян знямее.*
*І яснае сонца згасне,*
*Але не згасне надзея.*

*Чакай жа мяне, мой востраў,*
*Як свет наш спакою чакае.*
*Я побач, я хутка сонца*
*Сваімі ўздыму рукамі.*

* * *

*Журавачка ты мая,*
*Спяшаешся так куды?*
*Туды, куды продкаў маіх*
*Паказваюць шлях сляды…*

*Матулю і бацьку вітай,*
*Махні ім крылом з імглы.*
*Скажы, што я помню іх.*
*Яны — мае два крылы.*

*Журавачка ты мая,*
*Не сумна табе лятаць?*
*Чаму ты хусцінку маю*
*Далёка занесла так?*

*Ляці ты з цяплом і дабром*
*Праз ночы мае і дні*
*І над радзімай маёй*
*Хусцінку маю абрані!..*

* * *

*Час вакол нас цячэ*
*Ціхім дыханнем ночы.*
*Ціха шапоча лісцё,*
*Нібы малітва гучыць.*

*Ранак аслепіць знячэў*
*Тым, залатым агнём.*
*Потым паўторыцца ўсё,*
*Потым з табой мы заснём.*

*Наша бяроза не спіць,*
*Ах, як лісты шалясцяць!*

*Недзе за птушкамі ўслед*
*Нашы надзеі ляцяць…*

* * *

*Белы туман, як мост,*
*Два берагі злучыў.*
*Чайка ляціць наўпрост,*
*Тоне ў туманнай начы.*

*Часу туман раз'яднаў*
*Сэрцаў людскіх гэтак шмат.*
*Можа, іх злучыць яна,*
*Песня мая сама.*

*Сэрца да сэрца наўпрост*
*Песня ў абдымкі вядзе.*
*Вось ён, любові мост.*
*Хто яго развядзе?!*

* * *

*Ты — мой бераг блізкі і далёкі,*
*Смутак і цяпло маіх вачэй.*
*Ля акна твайго суцішу крокі.*
*Ноч уся наперадзе яшчэ.*

*Вось святло пагасла, і паволі*
*У акне зардзелася святло.*
*Так усе сыходзяць, каб ніколі*
*Не вярнуцца ў тое, што было.*

*Ты — мой бераг блізкі і далёкі.*
*Ты такая на зямлі адна.*
*Ля чужых вакон спыняў я крокі,*
*А застаўся ля твайго акна.*

* * *

*Не спяшайся, калі ўсе спяшаюцца —*
*Дні яшчэ наперадзе твае.*
*А руку старэйшых для вітання*
*Першым, як належыць, падае.*

*Той, старэйшы, ён і вырашае,*
*Ці падаць яе, ці не падаць.*
*Ад яго нічога не схаваеш,*
*Бо сама душа наскрозь відаць.*

*На Усходзе так, як на Усходзе —*
*Жорсткасць дзівіць некага зрэдчас,*
*Але як адкрыта б'ецца сэрца,*
*Як крыніцы чыстыя журчаць!..*

* * *

*Што гэта — кругамі ды кругамі*
*Думкамі кружу па свеце я?..*
*Поўня, ты прыгожая, вядома.*
*А радзіма прыгажэй мая.*

*Ёсць яны са мною, бацька, маці.*
*Крэпасцю ў жыцці маім стаяць.*
*Сонца, ты з апошняй сілы грэеш,*
*А радзіма гарачэй мая…*

*Тысячы вачэй прыжмурам яркім*
*Зоркамі здалёк на нас глядзяць.*
*А святлей заўсёды на радзіме —*
*Зблізку і здалёк усё відаць…*

**Пераклад з курдскай Казіміра Камейшы**



*Фота Віктара Кавалёва*



Мікола Шабовіч

* * *

*Дзень адгарэў і зачах.*
*Вечар у ночы растаяў.*
*Вершы пісаць па начах —*
*Правіла не для ратаяў.*

*Просяцца рыфмы ў радкі,*
*Ў строфы сплятаюцца словы.*
*Вабіць занятак такі*
*Кожнага рыфмалова.*

*Дзень адгарэў і зачах.*
*Месяц глядзіць зухавата.*
*Вершы пісаць па начах —*
*Самае лепшае свята.*

* * *

*Багіня хараства і чысціні,*
*Адкрытая, пяшчотна-незямная.*
*Ты скажаш слоўка — і юнеюць дні,*
*І горыч-сум як быццам бы мінае.*

*Святло надзеі дорыць твой пагляд,*
*Хоць ён зусім не мне адрасаваны.*
*Нам не хадзіць з табою ля прысад*
*І не шаптаць "каханая", "каханы"…*

*Ды ўсё адно святлее ад вачэй*
*І мары-мроі просяцца ў сінечу.*
*І покуль свет дашчэнту не здзічэў,*
*Мне пакладзі руку сваю на плечы,*

*Шчаку нясмела вуснамі крані –*
*Хай горыч-сум прасветлена мінае,*
*Багіня хараства і чысціні,*
*Адкрытая, пяшчотна-незямная…*

* * *

*Мая дзяўчынка светлавокая,*
*Не забывай той слаўны час,*
*Як нашы мары за аблокамі,*
*Бы ў дзіўным сне, люлялі нас.*

*І ўсё кружылася захмелена:*
*Зямля і зоркі над зямлёй, —*
*Як ты нячутна-неасмелена*
*Шчакі кранаіася маёй.*

*І душы нашыя аголена*
*Таемны песціплі саюз,*
*Дзе мо не ўсё яшчэ дазволена,*
*Дзе толькі згода — не прымус…*

*Няхай сягоння ты далёкая,*
*Ды, спадзяюся, не навек,*
*Мая дзяўчынка светлавокая,*
*Пяшчотна-мілы чалавек.*

* * *

*Бывае так: ні стрэч, ні развітанняў*
*І шэры будзень госціць што часцей,*
*Ды прыйдзеш ты, як велічная тайна,*
*Як самая жаданая з гасцей.*

*І ўсё наноў расквеціцца ў прыродзе,*
*Хаця наўкол імклівіць лістабой,*
*І я ў тваёй расчулюся лагодзе,*
*Так неспадзеў заў важаны табой.*

*Зноў пачуццё шчымліва затрапеча,*
*Як і раней, у юныя гады,*
*І быццам бы звычайная сустрэча*
*Найвекапомнай зробіцца тады.*

*Дык будзем сніць нявысненую тайну,*
*Якою свет так велічна спавіт —*
*Тры пацалункі ў шчочку пры спатканні*
*І столькі ж пацалункаў на развіт.*

* * *

*Юнее даль, як ты каля мяне*
*Лагодаю праменіш нечувана.*
*І зноў душа спявае гімн вясне,*
*Якая нас звяла неспадзявана.*

*Я буду помніць мілых вуснаў спеў,*
*Цудоўны дзень, што змог жыццё зыначыць,*
*Калі, на жаль, сказаць я не паспеў:*
*"О, як цябе мне хочацца пабачыць!"*



Тамара Краснова-Гусачэнка

## Вёска Шчапяціна

*Сярод хмызоў і траў высокіх*
*Я адшукала родны дом,*
*Даўно пусты і адзінокі,*
*Увесь зарослы палыном.*

*Хоць дах і сцены ацалелі,*
*Фіранка шорхала няўзнак,*
*А вокны сінія гарэлі*
*Дакорам… Ці мая віна?*

*Ды енк, народжаны душою,*
*Рвануўся, нібы з ланцугоў.*
*Маўчала неба, як чужое,*
*І хмары, быццам малако,*

*Бы гор вяршыні снегавыя —*
*Бязмоўя чорная дзіра…*
*І толькі вы былі жывыя:*
*Ты, хто прывёў нас, ды сястра.*

*А я прапала разам з домам,*
*Даўным-даўно ўжо нежылым.*
*І толькі голас маці: "Тома!*
*Вярніся!" — быў такім жывым.*

## Толькі

*Жыта мацуецца толькі зямлёй,*
*Грэх выкупляецца толькі крывёй.*

*Толькі сляпы помніць шоргат жарствы.*
*Не паміраe адно нежывы.*

*Толькі ў каханні не ступіш наўзбоч.*
*Толькі світаннем змяняецца ноч.*

*Толькі цяплом чалавечай рукі*
*Я ахінаю сябе ад тугі.*

*Толькі душою я песню складу,*
*Толькі прапаўшы, сябе мо знайду.*

*Толькі душэўны, няхітры радок*
*Выдужаць свету і ў свеце памог.*

*Толькі табе, прастатою вялікі,*
*Верш першародны, коснаязыкі,*

*Толькі табе — даваряю і веру,*
*Толькі з табой — расчыняюцца дзверы!*

*Толькі калі навучуся ўжо жыць,*
*Здолею лёсу імгненне спыніць.*

## Неба жніўня

*Неспазнанаю глыбінёй,*
*Чысцінёй, Вышынёй Высокаю*
*Поўнач спеліцца нада мной,*
*Злата-зорная і далёкая.*

*Адляцела з душы сляза*
*Прама ў неба — маўчу начамі я.*
*Што балела, не расказаць,*
*Горыч слова — крыжом маўчання мне.*

## Шлях да маці

*Матуля, сумую да жалю*
*І зноў да цябе я з'язджаю.*
*Дарога ўся — яма на яме,*
*Бы шлях крыжавы перад намі.*

*Гаркавяць слязьмі развітанні*
*Тваімі, й маімі таксама.*
*І зноў я даю абяцанне:*
*— Мы вернемся хутка, мама!*

*Мо недзе праз тыдзень вярнуся,*
*Ну што тут — ад Беларусі*
*Да Бранска? Стаім пад Ліёзна*
*На мытні — прыедзем позна…*

*Ты чуеш у золкай цішы,*
*Як недзе скрабуцца мышы,*
*Як падае ліст з асіны,*
*Трываць не хапае сілы.*

*Але ты нястомна чакала…*
*А мы ўсё ў дарозе бясконцай,*
*То снежнай, то зноўку расталай,*
*Ідзём да цябе, бы да сонца.*

1974 — 2004 г.
Віцебск — Бранск — Віцебск

**Пераклаў з рускай Андрэй Цяўлоўскі**

# Навінкі і хіты продажаў «Белсаюздруку»

Марына ВЕСЯЛУХА

**Каб набыць патрэбную кнігу, патэнцыяльны чытач і пакупнік традыцыйна накіруецца ў кнігарню сеткі ААТ "Белкніга", на кніжны кірмаш, замовіць выданне праз Інтэрнэт або па пошце. Але ў Беларусі ёсць яшчэ адзін варыянт набыцця кніжнай прадукцыі — у крамах, кіёсках і павільёнах гандлёвага рэспубліканскага прадпрыемства "Белсаюздрук". З аднаго боку, паліцы з кнігамі як нельга лепш дапаўняюць асартымент такіх крам, пашыраюць патэнцыяльнае кола наведвальнікаў. Але як тут, у магазінах сеткі, ставяцца да кніг, ці сапраўды ўспрымаюць іх толькі як тавар, што *дапаўняе*? Каб знайсці адказы на гэтыя пытанні, я звярнулася непасрэдна да супрацоўнікаў "Белсаюздруку".**



Фота Кастуся Дробава

— Кнігі традыцыйна з'яўляюцца адным з пастаянных тавараў, што прадстаўлены ў нашых крамах і павільёнах, — распавяла Наталля Падзюкова, інструктар па эксплуатацыйных, вытворча-тэхнічных і арганізацыйных пытаннях "Белсаюздруку". — Гэта ў першую чаргу сацыяльна значная, краязнаўчая літаратура і альбомы пра Беларусь, Мінск, мастацкая літаратура. Натуральна, асартымент кніжнай прадукцыі ў многім залежыць ад месца размяшчэння кіёска. Калі гэта цэнтр сталіцы, тут выданні будуць больш прадстаўнічыя, каб іх маглі набыць не толькі жыхары нашага горада, але і госці. Калі гаворым пра "спальны" раён, там будзе ў большай ступені запатрабавана дзіцячая літаратура. Натуральна, самы вялікі выбар кніг прадстаўлены менавіта ў магазінах.

І выбар, варта адзначыць, сапраўды ёсць. У агульнай колькасці гэта больш як чатыры сотні найменняў кніг, што пабачылі свет у асноўным у беларускіх дзяржаўных выдавецтвах: "Беларусь", "Мастацкая літаратура", "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", "Вышэйшая школа", РВУ "Літаратура і Мастацтва", Мінская фабрыка каляровага друку і іншых. Як падкрэсліла Наталля Юр'еўна, пры заказе кніг для продажу супрацоўнікі арыентуюцца перш за ўсё на навінкі. Больш таго: калі вы бачыце ў магазіне "Белсаюздруку" выданне, што вас цікавіць, — лепш набывайце яго адразу, бо найменні кніг пры новых заказах таваразнаўцы стараюцца не паўтараць. Так асартымент становіцца больш разнастайным і паліцы ўвесь час абнаўляюцца. Натуральна, тут ёсць і свае заўсёднікі — альбомы пра Мінск і Беларусь (з арыентацыяй на замежнага пакупніка), і пастаянны хіт продажаў — двухмоўнае выданне Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча "Спадчына Беларусі" (Мінская фабрыка каляровага друку).

"Белсаюздрук" — асобная сфера ў гандлі кнігамі, але нельга лічыць, што яна падпарадкоўваецца іншым законам. Тут усё дзейнічае па такіх жа правілах сезоннай змены попыту, як і ў звычайных кнігарнях. Натуральна, крамы сеткі гэтак жа рэагуюць і зменай прапановы. У перыяд падрыхтоўкі да паступлення ў ВНУ на паліцах з'яўляюцца даведнікі, зборнікі вучэбных матэрыялаў, да свята 8 Сакавіка тут можна з лёгкасцю выбраць падарунак для жанчыны, а перад Новым годам — для ўсёй сям'і. Адпаведна гэтак жа перад святамі павялічваецца і агульная колькасць прададзеных кніг.

Як жа ставяцца да кніг у "Белсаюздруку"? Успрымаюць іх як дадатак ці як штосьці больш самастойнае?

— Асноўная мэта "Белсаюздруку" — гэта продаж газет, часопісаў, — разважае Наталля Падзюкова. — Але кніга як тавар займае асобнае месца як афіцыйна — у асартыментным пераліку крам і павільёнаў, — так і пра сторава — у плане размяшчэння ў магазіне на спецыяльных паліцах і структурным іх раздзяленні па тэмах у межах гэтых паліц. Што да пакупнікоў, то тут існуюць розныя варыянты "звароту да кнігі": чалавек, які набыў газету, можа выпадкова заўважыць цікавае яму выданне і набыць яго. Калі камусьці патрэбен фотаальбом або сацыяльна значная літаратура, то нашы наведвальнікі ведаюць, што тут іх можна набыць, і менавіта з гэтай мэтай зазіраюць у крамы.

Маркетынгавыя даследаванні, што ўвесь час праводзяцца супрацоўнікамі "Белсаюздруку", дапамагаюць граматна размеркаваць выданні па кропках, там, дзе яны будуць лепш прадавацца. І сітуацыя, што ўжо склалася ў крамах сеткі, — вынік шматгадовых назіранняў. Прыемна: сёння супрацоўнікі адзначаюць, што асартымент кніг увесь час пашыраецца і на іх плануюць адводзіць больш месца ў прасторы крам. Таму ёсць спадзяванні на тое, што хутка доля прыбытку ў агульным таваразвароце прадпрыемства павялічыцца, а наведвальнікі магазінаў "Белсаюздруку" будуць не толькі пастаяннымі чытачамі перыёдыкі, але і заўзятымі кнігалюбамі.

***На здымку: ля кніжнай паліцы ў адной з крам "Белсаюздруку".***

*Прэзентацыі*

## І гэта ўсё пра нас

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА





"Таямніцы і загадкі чалавечага арганізма" — так называецца новая кніга А. Бярнацкага, якая ўбачыла свет у выдавецтве "Народная асвета". Навукова-папулярнае выданне працягвае серыю "Дзіўнае і невераноднае" і раскажа пра тое, як ідуць розныя працэсы ў чалавечым арганізме, будуецца шкілет, працуе "кандыцыянер" — нос, абараняе імунітэт скура. Раздзел "Ад калыскі да…" дапаможа зразумець, што адбываецца з чалавекам яшчэ ва ўлонні маці. Аказваецца, плод здольны рэагаваць на смак ежы і нават на яе тэмпературу — халодную ваду ён адназначна не любіць. Чытач даведаецца, як працуе "гадзіннік нашага жыцця", жахнецца прыкладам несвоечасовага старэння, навучыцца разумець сігналы арганізма, які старэе. Цікава будзе прачытаць і пра тое, як 300 гадоў таму ў Японіі будыйскія манахі школы Сінгон самі сябе муміфікавалі. Працэс ішоў на працягу васьмі гадоў. Не пакіне па-за ўвагай аўтар і тыя факты, якія яшчэ не можа патлумачыць сучасная навука — як з'яўляюцца на скуры і паступова знікаюць незвычайныя надпісы і выявы. (У хлопчыка Алі з Дагестана ў 2009 годзе па панядзелках і пятніцах на целе сталі з'яўляцца тэксты з Карана.) Гэты феномен носіць назву "дэрматаграфія". Ёсць і "керанаграфія" — з'ява, калі маланка пакідае на целе ахвяры "фота" прадмета: так, у маленькай дзяўчынкі, якая загінула падчас навальніцы, на целе застаўся адбітак таполі ў двары, якую яна бачыла праз акно. Не пакінуць абыякавымі чытачоў і звесткі з раздзелаў "Сокі жыцця" (пра кроў), "Фабрыка энергіі" (пра ўнутраныя органы), "Перадавыя дазоры" (пра зрок і слых) і многіх іншых.

*Надзённае*

# Выданні, сугучныя часу

Юзэфа ВОЎК

**Штогод сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі выдаецца вялікая колькасць кніг. Як з прапанаванага мноства выбраць найцікавейшыя і найлепшыя творы для чытання? Якія выданні сапраўды вартыя нашай увагі? Думаю, знайсці адказы на гэтыя пытанні дапаможа першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў.**

**— Генадзь Пятровіч, якія кнігі сяброў Саюза пісьменнікаў Беларусі, што пабачылі свет цягам апошняга года, вы можаце назваць у ліку самых лепшых і самых знакавых для нашай літаратуры?**

— Думаецца, што лепшым крытэрыем для вызначэння такіх кніг стануць вынікі конкурсу "Лепшы твор года", які вось ужо пяць год праходзіць у рэспубліцы. У якасці заснавальнікаў конкурсу выступаюць Саюз пісьменнікаў Беларусі, міністэрствы культуры, інфармацыі і адукацыі краіны. Зазвычай на гэты конкурс паступае багата твораў. Спачатку яны разглядаюцца ў абласных аддзяленнях СПБ, потым — на галіновых секцыях, і ўжо падчас Свята беларускага пісьменства называюцца лепшыя кнігі па выніках папярэдняга года. Сёлета пераможцаў мы віталі ў Ганцавічах. Дарэчы, адметна, што ў гэтым конкурсе, у адпаведнасці з яго правіламі, адзін аўтар не можа стаць пераможцам двойчы. І думаецца, гэта правільна, бо ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі — больш як 500 чалавек, і кожны павінен мець шанс стаць лепшым.

Так, па выніках 2010 года ў ліку самых яркіх я магу назваць кнігі прозы Віктара Праўдзіна "Нелюбімыя гінуць", Ганада Чарказяна "Не памірай раней смерці", кнігу нарысаў Уладзіміра Сауліча "Антэі Прыдзвіння". Увагі чытачоў заслугоўваюць і гістарычны раман Алега Ждана "Князь Мсціслаўскі", твор пісьменніцы з Брэста Зінаіды Дудзюк "Аднарог". Калі звярнуць увагу на паэзію, тут вылучаюцца кніга Міколы Мятліцкага "На беразе маім", Фёдара Гурыновіча "Застаецца вера", зборнік вершаў і паэм Сяргея Давідовіча, што склалі кнігу "Зямлі святая памяць". У галіне краязнаўчай літаратуры адметнае месца заняла кніга Казіміра Камейшы "Паміж кубкам і вуснамі". У крытыцы і літаратуразнаўстве — работа Тацціяны Шамякінай "Традыцыйны кітайскі каляндар і славянскія міфалагічныя паралелі". Не застаецца без увагі і дзіцячая літаратура. Тут у ліку найлепшых — кнігі Алены Масла "Першая прыгажуня", серыя кніг Сяргея і Галіны Трафімавых пра Дзеда Прыродазнаўцу.

**— Якім крытэрыям павінны адпавядаць кнігі, каб трапіць у спіс лепшых?**

— Найперш гэта высокая мастацкая якасць. Па-другое, важна, каб праблема, што ўздымаецца ў творы, была сугучная нашаму часу. Неістотна, ці гэта літаратура пра сённяшні дзень, ці яна датычыць гістарычнай тэматыкі, важна, каб пытанні, што ўзнімаюцца ў творы, былі надзённымі для сённяшняга чытача.

**— Можа быць, ёсць кнігі, што не ўвайшлі ў спіс лаўрэатаў конкурсу, але ўсё роўна з'яўляюцца цікавымі і карыснымі для чытача?**

— Добрых твораў багата. У іх ліку магу адзначыць раман Уладзіміра Гаўрыловіча "Плата за каханне", кнігу вершаў "Дзве зары"



Фота Кастуся Дробава

паэта з Віцебска Алега Салтука, зборнік Алега Жыгунова, аўтара з Глыбокага, "Ля цяпельца зары", дакументальная кніга Славаміра Антановіча "Пайшлі ў бессмяротнасць", пазнавальнае выданне для дзяцей пісьменніка з Рэчыцы Анатоля Караленкі "Вясёлка «чорнага золата»". І гэта даволі няпоўны пералік.

# «Дыягназ» для рукапісу

**"Мастацкая літаратура" — выдавецтва, якое ўжо некалькі дзесяцігоддзяў (працуе з 1972 года) цвёрда трымаецца на арэне беларускай літаратуры і нязменна знаходзіць сабе месца на паліцах кніжных крам краіны. Пра навінкі, спецыфіку выдавецкай дзейнасці і творчыя планы — наша гутарка з галоўным рэдактарам "Мастацкай літаратуры" Віктарам Шніпам.**

Кацярына ДЗЕМЯНЧУК

**— Віктар Анатольевіч, распавядзіце, калі ласка, якія аўтары з'яўляюцца для выдавецтва "Мастацкая літаратура" прырытэтнымі?**

— Аўтараў любімых і нелюбімых у нас няма. Самае галоўнае — якасць твора. Усе рукапісы, якія трапляюць нам у рукі, прымаем, разглядаем і даём заключэнне. Большасць тых, хто прыходзіць у выдавецтва, — вядомыя людзі, прыблізна 90—95 працэнтаў аўтараў — прафесійныя пісьменнікі. Але ж нават і ў выбітных творцаў бываюць "ляпы". Таму нам не важна, малады пісьменнік да нас прыйшоў ці сталы. Галоўнае — талент! Канечне, выдавецкая дзейнасць — справа двухбаковая. Усё залежыць не толькі ад аўтараў і выдацоў, але і ад спажыўца прадукцыі. Да прыкладу: быў час, калі паэзія карысталася надзвычайнай папулярнасцю. Мы выдавалі па 10—15 кніжак вершаў на год. А ў апошні час іх колькасць складае 2—3.

**— Ці існуе спіс самых папулярных і самых "тыражных" кніг выдавецтва?**

— У асноўным спажыўцы цікавяцца зборнікамі серыі "Школьная бібліятэка". І гэта натуральна, бо ў выданнях серыі змешчаны творы пісьменнікаў, што вывучаюцца ў школе на ўроках беларускай літаратуры, — Пімена Панчанкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Петруся Броўкі і іншых. Але гэтыя кнігі выходзяць рознымі тыражамі. Самы вялікі з іх мела выданне твораў Уладзіміра Караткевіча. Значыць, чытач у той час хацеў бачыць на сваёй паліцы творы менавіта гэтага аўтара. Мы выдаём і кнігі для дзяцей, прыгодніцкую і гістарычную літаратуру, яны таксама досыць



Фота Кастуся Дробава

папулярныя. У ліку самых запатрабаваных магу назваць і серыі "Казкі XXI стагоддзя", "Беларуская проза XX ст." і "Беларуская проза XXI ст.", "Сучасны беларускі дэтэктыў".

**— Што змянілася ў працы выдавецтва з таго часу, як вы сталі яго супрацоўнікам?**

— У "Мастацкай літаратуры" я працую з 2004 года. Безумоўна, змяніліся і аўтары, і тэматыка іх твораў. Але асноўныя кірункі і прынцыпы працы застаюцца. Самае галоўнае — здолець паставіць рукапісу, які прынеслі ў выдавецтва, правільны "дыягназ". Не было яшчэ такіх выпадкаў, каб мы адмовілі аўтару ў выданні твора, а потым напісанае ім стала шалёна вядомай кнігай і мы пашкадавалі пра сваё рашэнне. Значыць, у правільным кірунку працуем, значыць, выпускаем у свет толькі вартыя тэксты.

**— Вы звярнулі ўвагу на тое, што змянілася тэматыка твораў. Пра што пішуць сучасныя творцы і што хочуць чытаць спажыўцы?**

— Тэмы такія, як ва ўсім свеце. Мода на "лёгкае" чытанне не абмінула і нашу краіну. У асноўным чытач, завітваючы ў крамы, на паліцах хоча бачыць выданні папулярных аўтараў. Мы апошнім часам звяртаемся да твораў, якія чытае моладзь. У паэзіі, канечне, колькасць тэм неабмежаваная. І ўвогуле, апошнім часам назіраецца пашырэнне і тэматычнага, і фармальнага дыяпазону ў паэзіі. Аўтары імкнуцца быць пазнавальнымі і адметнымі, таму пішуць не толькі вершы без косак і кропак, але і творы з ярка акрэсленай тэмай і рознабаковай стылёвай характарыстыкай.

**— Якімі навінкамі можа пахваліцца "Мастацкая літаратура"?**

— Упершыню асобным выданнем свет убачылі зробленыя прафесійнымі мастакамі партрэты класікаў беларускай літаратуры — пачынаючы з Францыска Скарыны і да Рыгора Барадуліна. З нагоды хуткага юбілею Максіма Багдановіча выйшла факсімільнае выданне "Вянка". Працягваем выданне Збору твораў Івана Шамякіна ў 23 тамах. Не так даўно пабачыў свет шосты том праекта, у які ўвайшлі аповесці 1994 — 1996 гг.: "Бумеранг", "Партрэт", "Без пакаяння", "Выкармак", "Крывінка". Выйшла кніга вершаў лаўрэата Літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Алега Салтука "Дзве зары". У ліку навінак серыі "Беларуская проза XX ст." можна адзначыць зборнік прозы Яраслава Пархуты "Сонечныя борці". У гэтым годзе свет пабачыла кніга Анатоля Зэкава "Генеральскі нумар", якая складаецца з апавяданняў, быляў, абразкоў. У серыі "Наш сучаснік" — а гэта адгалінаванне серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" — выйшла кніга Аляксандра Алпеева, генеральнага сакратара Міжнароднага гуманітарнага эканамічнага інстытута, "Жыццё, падоранае богам". Нам ёсць чым пахваліцца і перад маленькімі чытачамі. Так, выйшла кніга Уладзіміра Васькова "Дахавік Казік". Гэта сучасная казка для дзяцей і дарослых, напісаная ў іранічным стылі. Думаецца, зацікавіць дзетак і кніга вершаў, казак, нарысаў Каруся Каганца "Нашыя птушкі", што выйшла ў серыі "Даўнейшая чытанка".

**— А калі зазірнуць у рэдакцыйны партфель…**

— У хуткім часе свет пабачаць кнігі пра Максіма Багдановіча. Гэта выданне "Песняр чыстае красы", прысвечанае жыццю і творчасці паэта, і кніга Алеся Марціновіча "Свяці, зорка, свяці. Дзецям пра Максіма Багдановіча".

## *Выстаўкі*

# На кірмаш у Франкфурт

12 кастрычніка распачаў работу адзін з самых буйных кніжных форумаў свету — Франкфурцкі міжнародны кніжны кірмаш. Разам з удзельнікамі з розных краін у ім прымаюць удзел і беларускія выдаўцы, паліграфісты і распаўсюджвальнікі кніг. Нашы выданні таксама прадстаўлены на міжнародным конкурсе кніжнага мастацтва "Лепшы кніжны дызайн свету". Гэта работа Барыса Лазукі "Гісторыя сусветнага мастацтва" (выдавецтва "Беларусь"), кнігі выдавецтва "БелЭн імя Петруся Броўкі" "Радзівілы. Альбом партрэтаў XVIII — XIX стст.", "Дзмітрый Стрыкаў. Альбом малюнкаў. 1864 — 1867 гг.", "Сучасны беларускі жывапіс. XXI ст.". Змагацца за прызы конкурсу будуць таксама "Казкі цётачкі Руф" Наталлі Голубевай (РВУ "Літаратура і Мастацтва"), "Турыстычная мазаіка", "Беларусь: старонкі гісторыі" (Выдавецкі дом "Беларуская навука"), "In nomine Domini" ("У імя Бога"), што пабачыла свет у выдавецтве "Про Хрысто", кніга Нэвены Вітошавіч-Чэкліч "Маленькі ангел. Хрысціянская азбука" ("Брацтва ў гонар святога Архістратыга Міхаіла"), Ханс Крысціян Андэрсен "Казкі" ("Кніжны Дом") і альбом "Народны фотаклуб «Мінск»" ("Артыя Груп").

Чэслава ПАЛУЯН

## *Рэгіёны*

# Сустрэліся ў Гродне

З 7 па 9 кастрычніка ў Гродне адбылася першая нарада маладых літаратараў Беларусі і Расіі, заснавальнікамі якой выступілі Саюз пісьменнікаў Беларусі, Саюз пісьменнікаў Расіі, пры ўдзеле Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" (Масква). Праграма мерапрыемства была вельмі насычанай і разнастайнай. Гэта і правядзенне майстар-класаў, якімі кіравалі вядомыя пісьменнікі Валерый Казакоў, Сяргей Трахімёнак, Алесь Бадак, Валянціна Паліканіна, Людміла Кебіч. Гэта і выступленні ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы і Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, паездка ў Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей.

Кожны ўдзельнік семінара быў адзначаны спецыяльным дыпломам, а Барыс Брацук з Маладзечна рэкамендаваны для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Безумоўна, мерапрыемствы такога кшталту сёння патрэбны маладым не менш, чым некалі, калі яны праводзіліся рэгулярна (успомнім хоць бы тыя ж усесаюзныя нарады маладых літаратараў). Таму што ні Інтэрнэт з яго шырокімі магчымасцямі ў плане папулярызацыі ўласнай творчасці, ні публікацыі ў літаратурных перыядычных выданнях нашых суседзяў не заменяць ім асабістых кантакты, якія з часам могуць выліцца ў цеснае творчае сяброўства.

Таму вельмі хочацца спадзявацца, што гэтая нарада стане штогадовай, а ў недалёкай перспектыве і маладыя беларускія паэты і празаікі змогуць пабываваць у гасцях у сваіх расійскіх равеснікаў і бліжэй пазнаёміцца з літаратурным жыццём у братэрскай краіне.

Мікола ГАТОЎЧЫЦ

Алесь ГОРСКІ

# Час збіраць імёны

**Паводле меркавання навукоўца Валерыя Ярмоленкі, Беларусь па сваім укладзе ў развіццё сусветнай цывілізацыі павінна стаяць у адным шэрагу з такімі краінамі, як Расія, Вялікабрытанія, Германія, Францыя. На жаль, сусветная грамадскасць не ведае гэтага, таму што значная частка гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі ўжо "размеркавана" паміж Расіяй, Польшчай і сучаснай Літвой. Праз гэта і сам беларускі народ не здагадваецца пра сваю веліч. Таму "Залатая кніга" Валерыя Ярмоленкі, што рыхтуецца да выдання, павінна ўзняць прэстыж краіны за мяжой. На стварэнне гэтай работы навукоўца натхніла гісторыя нашага краю. У кнізе ўпершыню прыводзяцца найбольш поўныя звесткі пра выбітных дзеячаў навукі і культуры сусветнага маштабу, а гэта больш як 1500 прадстаўнікоў народа, які зрабіў значны ўнёсак у развіццё сусветнай цывілізацыі. "*Беларусы, вы так шмат і шчодра раздалі чалавецтву. Калі ж вы, нарэшце, пачнеце збіраць?*" — гэтыя словы вынесеныя ў эпіграф выдання. Яны належаць Льву Гумілёву.**

Вядомыя прыклады (той жа Адам Міцкевіч), калі краіны не могуць "дамовіцца", якому народу належыць тая ці іншая знакавая постаць. Склалася так, што на старонках "Вялікай Савецкай Энцыклапедыі" і, адпаведна, у замежных літаратурных крыніцах літаральна ўсе дасягненні беларусаў дагэтуль лічацца здабыткам… Польшчы або Расіі. Атрымліваецца, што ўнёсак беларусаў у развіццё сусветнай гісторыі, навукі і культуры зведзены амаль да нуля. У чым тут справа? Як магла скласціся такая несправядлівасць у адносінах да беларускага народа?

Пасля паўстання 1831 года Мікалай I забараніў беларускую мову ў заходніх губернях і закрыў адзіны на нашых землях Віленскі ўніверсітэт. У гэтых умовах Бракгаўз і Эфрон у сваім "Энцыклапедычным слоўніку" (1890—1907) усіх выдатных беларусаў назвалі палякамі або рускімі. Таму гэтыя памылкі аўтаматычна фігуруюць у літаратурных крыніцах. У той жа час, калі пачаць даследаванне, адкрываецца, што неверагодна шмат зрабілі беларусы. Яны першымі пачалі асвойваць шырокія прасторы Сібіры і Далёкага Усходу, адкрылі вытокі ракі Лены і па ёй выйшлі да берагоў Паўночнага Ледавітага акіяна. У Пецярбургу на галоўнай лесвіцы ў вестыбюлі Ваенна-медыцынскай акадэміі ўстаноўлены бронзавыя бюсты двух самых знакамітых хірургаў XIX стагоддзя — Багданоўскага і Пірагова. Пра Пірагова многія ведаюць (па фільме "Пірагоў" і кнізе з серыі "ЖЗЛ"), пра Багданоўскага, на жаль, — толькі вузкае кола спецыялістаў. Між іншым, ён першы асвоіў шэраг складаных аперацый, пераўзышоў у сваім мастацтве хірурга знакамітых еўрапейскіх калег, таго ж Пірагова.

Беларусы сканструявалі першыя паравозы і цеплавозы, паставілі стацыянарныя семафоры, стварылі цяжкія самазвалы МАЗ і БелАЗ. Беларусы далі першае гісторыка-этнаграфічнае апісанне сібірскіх народаў, першымі даследавалі геалогію Сібіры, расліны і жывёльны свет азіяцкай тэрыторыі Расіі, ды і першым гісторыкам Сібіры быў таксама беларус — Сцяпан Станкевіч (1640-я гг.).

І гэта толькі вяршыня айсберга, а колькі яшчэ безыменных герояў хавае ў сабе яго падводная частка! Міхаіл Глінка і Мадэст Мусаргскі, якія таксама маюць беларускія карані, сталі заснавальнікамі рускай нацыянальнай класічнай музыкі. Трыумф "Рускіх сезонаў" у Еўропе забяспечылі тэатральны мастак Бакст, кампазітар Ігар Стравінскі, артысты балета — брат і сястра Ніжынскія. Фёдар Стравінскі сваім мастацтвам опернага спевака пераўзыходзіў знакамітага Фёдара Шаляпіна. У літаратуры прагучалі імёны Дастаеўскага, Тынянава, Юрыя Алешы…

# Дом мой — родина моя!

Юзефа ВОЛК,
Екатерина БЕДУЛИНА

**Представляем вниманию наших читателей книги серии “Библиотека Союза писателей Беларуси”, изданные ООО “Харвест”.**



## Национальная идея как имидж государства

Начало XX века — особый период в истории белорусской литературы. Когда читаешь произведения этого времени, так и хочется воскликнуть: вот это наша классика! Впрочем, такое желание возникает не только у меня, но и у доктора филологических наук **Валерия Максимовича**. Что он по сути и делает в монографии **“Нацыянальны космас класікі”**. В круг научных интересов исследователя входят классические основы белорусской литературы XX столетия, историко-теоретические проблемы модернизма в общеславянском и европейском контекстах.

В данной книге на материале творчества классиков белорусской литературы Янки Купалы и Якуба Коласа учёный исследует механизм взаимообусловленности и взаимодополняемости классических литературных традиций и эстетических инноваций, национального и универсального. Национальная классика рассматривается Валерием Александровичем как наиважнейшая составляющая часть стратегии сохранения духовной безопасности народа в системе морально-философских, эстетических и общественно-идеологических ценностей и приоритетов современности.

Так, в монографии подчёркивается, что Купала и Колас ставили перед собой задачу не только создать произведения в контексте уже существующей (хоть на то время и слабо развитой) литературной традиции, но и “дарэшты разбіць разбуральны міф пра спаконвечную абяздоленасць, забітасць і непаўнавартаснасць беларусаў, пераадолець стэрэатыпную слязлівасць, якая няўзнак станавілася своеасаблівым канонам на старонках адраджэнскіх выданняў”. Исследователь подчёркивает, что Купала как пророк нации хорошо понимал: литература должна служить духовному пробуждению и национальной консолидации, поэтому все свои силы прикладывал ради концептуального понимания национально-возрожденческой идеи. Но наисерьёзнейшей задачей было создать надёжный грунт, фундамент, на котором держалась бы “свядомая беларускасць”. Колас же стремился показать всё богатство внутреннего мира крестьянина-белоруса, разрушить сложившийся миф о его “цёмнасці”, показать связь человека с природой, его включённость в традиционный космический цикл.

Подводя итог работы, автор заостряет внимание читателя на том, что сегодня, когда белорусы уже собрались в одну большую семью и воспринимают себя как нацию, сила нашей национальной идеи и укрепление нашей страны во многом зависят от того, насколько мы, её граждане, поняли и понимаем неоценимый вклад Купалы и Коласа в формирование национальной белорусской идеи, в укрепление духовных основ государства и нации. А они, наши классики, в своём творчестве продемонстрировали глубокую приверженность исконным, выработанным на протяжении столетий гуманистическим принципам и идеалам.

## Поэзия, идущая из сердца

Что такое стихи? Это философские рассуждения и протест против насилия над внутренним “Я”, это — грусть, слёзы, радость… **Тамара**



**Краснова-Гусаченко**, автор сборника **“Белое пламя листа”**, утверждает, что “стихи растут из боли, из любви неизбывной”.

В издание вошли новые произведения и избранное из десяти вышедших ранее книг, которые были высоко оценены истинными любителями поэзии. Содержащийся в них материал — вся жизнь автора. В своих стихах поэтесса затрагивает темы человека и природы, острых социальных явлений. Все они прошли через чуткое сердце Тамары Красновой-Гусаченко. Природа, скромная и такая простая на вид, засверкала всеми красками: “Заря над озером”, “Осень молодая”, “Солнцеворот”, “И всё наполнится любовью…”. Поэтесса учит любить и утреннюю свежесть весны, и очарование золотой осени, и великолепные зимние снежные покровы. Через отношение к природе автор пробуждает в нас любовь к родному краю и к Родине: “Песня о малой Родине”, “Дом мой — Родина моя!”, “Родное”, “Я родину свою люблю…”, “У боли за Отчизну нет конца…”. Она говорит о вечных ценностях, о памяти, о тоске, об усталости, о смерти, исследует жизнь в её духовных ипостасях.

Все стихи в книге разделены на тематические циклы. Так, в цикле “Новый день” поэтесса обращается к природе, рассуждает о смысле жизни. Интересно её обращение “К судьбе…” — здесь мы видим авторское понимание человеческой судьбы. Цикл стихов “Отпусти меня, боль” посвящён погибшему сыну Николаю. В каждой строчке — боль и слёзы. Читая стихи-посвящения, невольно переживаешь с автором её утрату, слушаешь плач раненого сердца матери, потерявшей сына. Очень искренне звучит “Исповедь”: “…разве можно к тебе подобрать те слова, // чтоб тебе передать благодарность?! // Я всегда и во всём пред тобой не права — // ни постов, ни молитв, только — жадность…” и “Покаяние”: “…Выжить и остаться дай собой, // Господи, руки не отымай”. Несмотря на тяжёлые жизненные испытания, поэтесса всё же нашла в себе силы не сдаваться и творить.

## У истоков радости и чуда

В наше время наряду с обычным понятием “сказка” есть такое определение, как “сказка-повесть” или же “сказочная повесть”. В действительности же это понятие является не совсем точной заменой “авторской сказки”. Чему учит современная сказка? Ответ на этот вопрос можно найти в творчестве белорусского писателя **Алеся Савицкого**, в его книге **“Чудеса на Лысой горе”**. Сказки-повести Алеся Ануфриевича переполняет целая гамма человеческих чувств и настроений: доброта, милосердие, восхищение, жалость, ирония, сострадание, любовь. В них сливаются две действительности. Одна — подлинная жизнь карасиков, щуки, кота Маркиза, кошки Мурки, енота, ёжика, белки, лисицы, барсука, бобра, собак; другая — не менее подлинная — человеческая.

Сочетание сказочного, волшебного и реального, обыденного делает произведения Алеся Савицкого двуплановыми, одинаково интересными и детям, и взрослым. Его сказки учат нас быть верными в дружбе, смелыми и честными, уважать тех, кто дал нам жизнь и воспитал нас. А ещё дают возможность понять, что природа — дом челове-



ка, поэтому его нужно беречь, стараться жить в согласии с окружающим миром. Это можно наблюдать в сказке “Радости и невзгоды золотистого карасика Бублика”. А вот сказка “Приключения Мурки” учит не бояться трудностей. Ведь, несмотря на суровые испытания, которые пришлось пройти Мурке из-за того, что она заблудилась в лесу и потеряла хозяев, кошка находит дорогу к своему дому.

Добро всегда возвращается к тому, кто помогает другим, и добро всегда побеждает зло. В этом немалую роль играют вера в себя, смелость и помощь друзей. Сказка “Женя, Линда и Рык” содержит скрытую, ненавязчивую мораль, нравоучение: нельзя обманывать, зазнаваться, нельзя быть жадным, нельзя предавать близких. А ещё сказки Алеся Савицкого учат оставаться в душе ребёнком, а значит, чуть-чуть Волшебником.

# Контакт со Зверем



Ольга ПОЛОМЦЕВА

В серии “Белорусская современная фантастика” СПБ вышла новая книга — **“День Зверя” Александра Силецкого**.

Каждому из жителей Станции — замкнутого сооружения на одной из планет, которую колонизировали беженцы с Земли, внушают с детства: Зверь опасен, убить его — честь для каждого. Он — символ этой планеты, от вирусов которой они спасаются противогазами и прочим специальным обмундированием, покидая пределы своего обитания. Колонисты убивают Зверя каждый год, потому что вожди поселенцев некогда завещали это во имя стабильности, процветания, единения… Хотя с тех пор прошло много лет, колония разрослась, её раздирают интриги и внутренние противоречия, исчезают люди, приветствуются доносы, но ритуал исполняется.

Четырнадцатилетний Альчи, сын могущественного Рандафа/Ола, впервые будет взят на Охоту — и смертельно ранит Зверя, спасая одного из своих соплеменников. Но тот бросит его одного, рассчитывая, что подросток погибнет, пока взрослые вернутся за мёртвым Зверем. То, что расскажет мальчику умирающий Зверь, перевернёт детскую душу. Альчи выживет — повергнув Зверю и сняв маску. Воздух планеты вовсе не опасен… Мальчик повзрослеет за одну ночь, узнав правду о смерти матери и айки Брона, технике боя “лиска-разящая”, которая сильнее любого оружия, “цыганах”, кочующих за пределами Станции, и книжках, которые он читал. На его плечи возложена непростая задача — донести до остальных истину: “Лучший способ избавиться от врага — это обрести в его лице друга”.

Альчи предстоит поведать это людям. Ведь, вопреки заведённому обычаю, Звери придут завтра. Их будет много. И они никогда никого не убивают.

Літвандроўка

# Залаты ланцужок вечнасці

Раіса БАРАВІКОВА

**Вядома ж, чалавецтва шмат што ведае з бліжэйшай да нас гісторыі, скажам, цягам у некалькі тысячагоддзяў. І шмат хто працуе над тым, каб наблізіцца і нейкім чынам разгадаць таямніцы, што хаваюцца ў іх. А калі зазірнуць глыбей і далей? Намаганні амаль марныя, тут могуць быць адны домыслы ці тая ж самая міфалогія... Да апошняй і звяртаемся ў сённяшняй "літаратурнай вандроўцы", дзе маёй спадарожніцай выступае вядомы літаратуразнаўца, загадчыца кафедры беларускай літаратуры і культуры філфака БДУ, доктар філалагічных навук прафесар Таццяна Шамякіна.**

**— Таццяна Іванаўна, апошнім часам відавочна ўзрастае цікавасць да выданняў, якія так ці інакш звязаны з міфалогіяй. У сваёй кнізе "Славянская міфалогія", якая практычна з'яўляецца універсітэцкім падручнікам, вы згадваеце словы рускага вучонага Дзмітрыя Ліхачова, які казаў, што, магчыма, найбольш прыкметным дасягненнем у гуманітарных навуках XXI стагоддзя будзе расшыфроўка міфаў. Дык што ж могуць хаваць у сабе міфы?**

— Вядомы даследчык-філолаг Д. Ліхачоў меў на ўвазе міфы старажытнасці, хутчэй за ўсё тое, што мы называем літаратурнымі, гістарычнымі міфамі... Расшыфроўка міфаў — і навуковы, і проста нават дэтэктыўны пошук. Бясспрэчна, сусветная міфалогія — каласальнае багацце, якое гаворыць нам і пра Космас (нездарма вучоныя-астраномы сваёй тэорыяй сінгулярнасці фактычна паўтараюць індускі міф пра сны Брахмы), і пра далёкую гісторыю нашай Зямлі. Гісторыю, верагодна, такую незвычайную і прыгожую, якую нам і ўявіць цяжка.

Чым больш вывучаеш міфы розных народаў, тым больш пераконваешся ў існаванні ранейшай суперцывілізацыі, якая, бясспрэчна, шмат у чым прыншыпова адрознівалася ад нашай. Але міфы, абрадавая практыка літаральна ўсіх этнасаў нешта самае характэрнае і важнае з далёкага мінулага захавалі, хоць разглядзець існасць пад пластамі вякоў надзвычай цяжка. Нават у вераваннях і рытуалах плямёнаў, далёкіх ад сучаснай індустрыяльнай цывілізацыі, мне бачыцца не проста страх перад сіламі прыроды, а аскепкі нейкіх спецыфічных ведаў. Ды і старажытныя ўсходнія цывілізацыі валодалі намнога большымі ведамі і тэхнікай, чым мы можам уявіць.

**— Так, наша цывілізацыя не першая на планеце Зямля. Цягам многіх тысячагоддзяў жыццё на планеце адраджалася літаральна з попелу. І вось тут цікавы момант, пра які вы пішаце ў сваёй кнізе, што сярод міфолагаў цяпер папулярная версія, выказаная крыптазаолагамі, якія мяркуюць, што міфалагічны Лясун — рэліктавы гуманоід, нейкае сярэдняе звяно паміж чалавекам і прыматам. Адным словам, той самы неандэрталец... А можа, усё-ткі Чалавек — прадстаўнік нейкай далёкай цывілізацыі, з тых самых адзінак, каму ўдалося выжыць пасля чарговай страшнай катастрофы і працягнуць жыццё? Так, знешне ён мог быць падобным да тагo дзікага неандэртальца, а ўнутрана?! І вось, калі вярнуцца да міфалагічнага вобраза таго ж самага Лесуна (якога, як мы ўжо ведаем, сур'ёзныя даследчыкі пачалі запісваць у homo sapiens), дык яго ж людзі, калі верыць міфам, баяліся, ён валодаў тым, чаго не было ў людзей — адным словам, тым самым "энергетычным ударам", што можа зыходзіць ад чалавека. Такім чынам, Таццяна Іванаўна, што вы можаце сказаць пра яго энергетычны рэсурс?**

— Можна меркаваць, што старажытная суперцывілізацыя не толькі валодала нанатэхналогіямі, але пераважна была біялагічная, развівала магчымасці самога чалавека... Скажам, магчымасць гіпнатычнага ўздзеяння, якое самы засяты скептык не будзе аспрэчваць, у генах некаторых людзей захавалася.

Цуды, звязаныя з незвычайнымі магчымасцямі чалавека, ёсць, адмаўляць іх недарэчна. Дзейнічае фізіка,



Фота Кастуся Дробава

але яшчэ не вядомая нам. І так можна сказаць пра вельмі многія з'явы, якія лічацца цудамі. Але гэта яшчэ непазнаныя законы прыроды.

Адносна Лесуна. Я абсалютна веру ў народны досвед, а паколькі нашы продкі з падобнай істотай сустракаліся — існуюць тысячы былічак, — значыць, з'ява рэальная, толькі неабходна яе растлумачыць. Лясун — неандэрталец? Чаму цывілізацыя неандэртальцаў, якія валодалі тэлепатычнымі здольнасцямі, загінула? Я мяркую, што змяніліся прыродныя ўмовы, яны нейкім чынам пачалі стымуляваць развіццё цывілізацыі, заснаванай на слове, мове, затым на пісьменнасці. Але ёсць і іншая версія адносна Лесуна і іншых духаў, у якіх верылі літаральна ўсе народы Зямлі, — пранікненне ў нашу фізічную прастору насельнікаў іншых прасторавых вымярэнняў. Вось гэта можна лічыць сапраўдным навуковым міфам, які тым не менш мае права на існаванне як гіпотэза.

**— Сапраўды, чалавецтва на сучасным этапе развіцця толькі пачынае прыглядвацца і ўспрымаць магію як своеасаблівую фізіку. Мне вельмі цікава было дазнацца з вашай кнігі пра новую навуку — эніялогію — пра розныя энергіі і фізічныя палі ў прыродзе. А вось магія слова, дзе ўсё замешана на рэзанансным уздзеянні і спалучана з касмічнымі радыёхвалямі... Мне думаецца, што з гэтым даволі часта сутыкаюцца нашы крытыкі, калі, скажам, нейкая адна кніжка ну проста прыцягвае і нібыта ўлівае ў цябе нябачную энергію, а другая, наадварот, адштурхоўвае. Ну, а ўзяць тыя ж самыя замовы на самыя розныя выпадкі жыцця, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Праўда, яны ўжо нашым часам не заўжды спрацоўваюць, і вы, напэўна ж, ведаеце, чаму?**

— Некаторыя замовы могуць спрацаваць, толькі вымаўляць іх неабходна не ў горадзе, дзе рухаюцца і працуюць нас самыя розныя выпраменьванні ад шматлікіх прыбораў, бытавой тэхнікі, і ў прыродных умовах. Успомнім: мінулай зімою ў многіх рэгіёнах Зямлі гінулі птушкі — дзясяткамі тысяч. Птушкі ў палёце арыентуюцца на магнітнае поле Зямлі. Значыць, яно змяняецца, таму птушкі і збіваліся ў паветры. Сапраўды, змяшчаюцца вось планеты, геаграфічны і магнітны полюсы. Палажэнне Зямлі ў Галактыцы таксама зусім іншае, чым у той час, калі ствараліся замовы. Дарэчы, заўсёды дапамогуць малітвы, асабліва "Ойча наш". Што ж датычыць замоў, то яны не проста клічуць сілы Космасу нам на дапамогу, але дзейнічаюць на нашу ўласную падсвядомасць, а праз яе — на фізіялагічныя працэсы, узбуджаюць на малекулярным узроўні пэўныя энергіі, зусім не вядомыя навуцы, бо прыборы, якія іх фіксуюць, пакуль не створаныя. Словы, сапраўды, і лечыць, і калечыць. Мы не ведаем тэхналогію гэтых працэсаў, але ж паспяхова іх выкарыстоўваем. Вядома, што рыфма, як і шматлікія паэтычныя фігуры паўтораў, садзейнічае ўтварэнню ў мозгу чалавека гармону серанціну, які спрыяе памяці...

> *Ваяўніча настроена супраць забруджвання роднай мовы, ды нават і рускай, англіцызмамі — словамі з каранямі, якія нічога не гавораць нашай падсвядомасці, не ўзбуджаюць адпаведныя структуры мозга, а значыць, урэшце непапраўна змяняюць унутраны свет беларусаў. Індывід, якому не падабаецца матчына мова, а падабаецца англійская, мне здаецца чалавекам з вывернутымі мазгамі.*

**— Таццяна Іванаўна, вось вы пішаце, што "развіваецца новы напрамак у навуцы — агульная тэорыя рэзанансных сіл, і вось ён якраз найбольш цікавіцца магіяй, у прыватнасці, магіяй слова, вербальнай магіяй". Не магу тут не ўспомніць адну размову з Канстанцыяй Буйло, якая казала, што паэтычны талент яна вызначае па дрыжыках, якія з'яўляюцца на скуры, як толькі загучыць сапраўдная паэзія. А тыя ж самыя дрыжыкі — гэта ўжо фізіка, уздзеянне пэўнай касмічнай энергіі праз слова на нервовыя канчаткі клетак. Магчыма, гэтым тлумачыцца феномен "эстраднай паэзіі", калі магутныя паэты збіралі стадыёны слухачоў — такая была прыцягальная сіла слова, яго магія праз тую ж рэзанансную сістэму. А вось такі момант... З нашага жыцця зніклі традыцыйныя "калыханкі", маладыя маці проста не ведаюць іх. А можа "калыханка" са сваімі рытмічнымі паўторамі "лю-лі, лю-лі" не проста сродак, каб дзіця хутчэй заснула, а і нейкі абарончы код для яшчэ не сфарміраванай аўры, тая ж самая замова з праекцыяй і на ўмацаванне здароўя, у прыватнасці, нервовай сістэмы, і на шчаслівы лёс. Што вы можаце сказаць наконт гэтага?**

— Цалкам з вамі згодная. Усе так званыя дзіцячыя формы фальклору, адпрацаваныя за тысячагоддзі, якраз і садзейнічалі ўтварэнню серанціну і іншых гармонаў, хімічных рэчываў, магчыма, нам яшчэ не вядомых. Чым больш іх, тым больш трывалая, відаць, фарміравалася ў дзіцяці аўра, а яе існаванне сёння даказана. Аўра — адпаведна структураваны рух электрамагнітных выпраменьванняў вакол цела. Уся прастора проста перапоўнена нябачнымі выпраменьваннямі. Дух чалавека, кажучы ўмоўна, арганізує іх вакол сябе. Моцны дух (характар, сфарміраваны ў тым ліку пад уздзеяннем слоў) — адпаведна і моцная аўра, значыць, якраз тыя магутныя сілы Зямлі і Космасу, якія дапамагаюць чалавеку.

**— А цяпер давайце зноў звернемся непасрэдна да міфалогіі. Якія міфалагічныя вобразы найбольш трывала прыжыліся ў нашай літаратуры і хто з пісьменнікаў найчасцей звяртаўся да іх, каб больш шырока даць карціну духоўнага жыцця нашых продкаў і ўвесці нацыянальную міфалогію ў кантэкст сусветнай?**

— Для нашага народа найбольш характэрныя ўяўленні пра прыродных, дамавых духаў і пра ваўкалакаў. Існаваў і магутны культ Сонца, агульны для ўсіх індаеўрапейскіх народаў. Гэты культ відавочна заўважаецца яшчэ ў пісьменнікаў Сярэднявечча — Кірылы Тураўскага, Сімяона Полацкага. Міфалагічныя вобразы шырока выкарыстоўвалі пісьменнікі-рамантыкі — Адам Міцкевіч, Ян Баршчэўскі, прычым у творах трансфармавалі традыцыйных персанажаў, уносілі ў іх значную долю ўласнай фантазіі. Сустракаюцца міфалагічныя вобразы ў В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча. Але найбольш яскравыя — у Янкі Купалы, М. Багдановіча. У наш час — у творах А. Сыса, А. Разанава, А. Казлова, у многіх значных пісьменнікаў, якія імкнуцца дашукацца да генезісу каранёў родных слоў і таму заканамерна падыходзяць да старажытнага міфа, з якога ўтвараліся цэлыя гнёзды аднакаранных слоў (напрыклад, ад імені Бога Рода). Міф і мова — у непарыўнай звязцы.

Я, шчыра прызнаюся, ваяўніча настроена супраць забруджвання роднай мовы, ды нават і рускай, англіцызмамі (не ва ўсім працэс заканамерны і натуральны, у многім — суб'ектыўны) — словамі з каранямі, якія нічога не гавораць нашай падсвядомасці, не ўзбуджаюць адпаведныя структуры мозга, а значыць, урэшце непапраўна змяняюць унутраны свет беларусаў. Індывід, якому не падабаецца матчына мова, а падабаецца англійская, мне здаецца чалавекам з вывернутымі мазгамі. Я — кансерватар. (Не толькі прагрэсісты патрэбныя для дыялектыкі жыцця, кансерватары — таксама). Але я кансерватар з імкненнем да набыцця самых сучасных ведаў у розных навуках. Разнастайныя міфалагічныя з'явы, сам прынцып міфалагічнага мыслення імкнуся растлумачыць з дапамогай якой ёсць навукі... Я веру, што паступова рэлігія (у шырокім сэнсе слова, куды я ўключаю і міфалогію, бо чалавек рыхтаваўся да пазнання рэлігійных ісцін менавіта з дапамогай міфалогіі) і навука наблізяцца адна да адной, і гэты сінтэз зменіць прыроду чалавека, зробіць яго лепшым, дабрэйшым.

**— Вы пішаце, што міф — залаты ланцуг, які злучае мінулае, сучаснае і будучае. Дык вось пра будучае... Праз некалькі тысяч гадоў наша сучаснае жыццё ў нейкай ступені таксама стане міфам. З'явяцца новыя міфалагічныя вобразы, і нехта паспрабуе іх расшыфраваць, як і ўвогуле цэлым міфы. Як вам здаецца, тым нашым далёкім нашчадкам, якім можа пабачыцца наша духоўнае жыццё, што ў ім можа быць для іх адмоўным і што — станоўчым?**

— Памятаеце, як у савецкай фантастыцы марылі пра далёкае будучае... І дарэчы, многае з тых мар, якія датычылі тэхнікі, спраўдзілася. Але вопыт жыцця паказаў, што рэчаіснасць непрадказальная. Я бачу некалькі варыянтаў будучага. Самы рэалістычны і ў той жа час, магчыма, самы аптымістычны наступны. У выніку прыроднага катаклізму, скажам, успышак на Сонцы, адключаецца электрычная энергія, і грамадства адкідваецца на стагоддзе назад у тэхнічным плане, прычым першым дэградуе тое, што з'явілася апошнім. Вернемся да зямлі, будзем карміцца з яе без генетыкі (спатрэбіцца ўвесь досвед нашай сялянскай нацыі), але ў той жа час адродзіцца духоўнасць, бо людзі адчуюць, што толькі разам, талакою, можна выжыць і прыстойна існаваць. Тады, як ні парадаксальна, акажацца запатрабаваным і фальклор, і ўся наша літаратура. Гэта — найбольш аптымістычны варыянт. Іншыя — змрочныя... Але паколькі не хочацца заканчваць гутарку на песімістычнай ноце, скажу пра свае мары. Будуць знойдзены новыя, практычна бязмежныя, віды энергіі, людзі пераадолеюць супраціўленне нафтавых і іншых транснацыянальных карпарацый, сённяшніх гаспадароў Зямлі, і перастануць яе калечыць, піць яе кроў; аваладаюць нанатэхналогіямі; адродзяць натуральныя прыродныя ландшафты; працягласць жыцця павялічыцца да 150 гадоў, ездзіць будзем на тратуарах-рухавіках і на струнным транспарце; адбудзецца творчая рэвалюцыя, і тады нашчадкам спатрэбіцца ўся велізарная культура чалавецтва ў поўным аб'ёме. Самі яны, можна спадзявацца, аб'ектыўна ацэняць наша трагічнае і гераічнае існаванне, але і нашы памылкі, з якіх галоўная на сённяшні дзень — нежаданне і няўменне жыць уласным розумам, розумам продкаў, бяздумнае запазычанне іншага вопыту, далёка не заўсёды разумнага і маральнага. Вось мой уласны міф.

Ліліяна АНЦУХ,
дырэктар выдавецтва
"Чатыры чвэрці"

**Азірнуўшыся гадоў на пяць назад, мы ў выдавецтве "Чатыры чвэрці" з радасцю і нават са здзіўленнем выявілі для сябе, што за гэты час мы выпусцілі ў свет шмат кніг беларускіх літаратараў — членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі. Агульны наклад выданняў склаў больш як 20 тысяч асобнікаў. Гэта кнігі як сталых майстроў, так і маладых таленавітых паэтаў і празаікаў. У ліку аўтараў — Сяргей Трахімёнак, Валянціна Паліканіна, Міхась Пазнякоў, Надзея Салодкая, Навум Гальпяровіч, Ізяслаў Катляроў, Людміла Кебіч, Тамара Краснова-Гусачэнка, Генадзь Аўласенка ды многія іншыя.**




# Не лічыць крокі свае…

## Нататкі выдаўца напярэдадні II з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі

Гэтыя гады прынеслі шмат выдатных здабыткаў, новыя тэмы, новых аўтараў… Спадзяёмся, многія з іх узбагацілі нацыянальную культуру, зрабілі ўнёсак у развіццё літаратуры, адукацыі, садзейнічалі папулярызацыі навукі ў многіх сферах жыцця, у навучальным працэсе студэнтаў гуманітарных спецыяльнасцей.

Той, хто хоць аднойчы сутыкаўся з выдавецкай справай, не мог не адчуць, якая не бачная свету напружаная праца ідзе ў рэдакцыях дзеля таго, каб у свет выйшла кніга годная, якасная і, галоўнае, патрэбная. Кніга патрабуе, каб у яе стварэнні ўдзельнічалі талент, натхненне, майстэрства, найвялікшая дбайнасць і самаадданая праца работнікаў многіх спецыяльнасцей. Вядома, пры гэтым трэба памятаць, што лепшая аздоба кнігі — тэкст, напісаны творцам і адрасаваны людзям. Бо кніга — яшчэ і захавальнік слова. Таму адбіраючы для ўключэння ў план выпуску выданняў чарговы рукапіс, думаем пра тое, як зберагчы гэтае слова, на якой бы мове яно ні гучала. Дарэчы, разам з аўтарам кнігі "Азы вершаскладання" Генадзем Аўласенкам нават зрабілі спробу навучыць будучых паэтаў пісаць вершы на беларускай мове.

Спектр рукапісаў, над якімі мы працуем, даволі шырокі. У кожным выпадку гэта кнігі, якія адпавядаюць місіі, абранай выдавецтвам, — выпускаць высакаякасную мастацкую, духоўна-асветніцкую і нотна-музычную літаратуру. Трэба заўважыць, што колькасць назваў кніг, што мы выпусцілі апошнім часам, значна павялічылася.

Пісаць сталі больш, а чытаць?..

Можна доўга шукаць адказ на пытанне: у чым прычына з'яўлення шматлікіх прапаноў у выдавецтва як ад прафесіяналаў, так і ад тых, хто ўпершыню рызыкнуў? Магчыма, гэта імклівы, спрасаваны час, які амаль выключае традыцыйныя зносіны — магчымасць выгаварыцца з сябрамі, атрымаць параду. А можа, зямля наша стала нараджаць больш талентаў? Так ці інакш, шмат людзей "выказваюць" свае пачуцці на паперы і, што цікава, часам атрымліваецца няблага.

Не сакрэт, што сёння амаль патрэбай зрабілася пачынаць гаворку з таго, як пагоршылася жыццё. Ёсць небяспека, што людзям проста не да кніжак. А гэта ўжо сапраўдная драма — калі пісьменнік і чытач разыходзяцца. Вядома, наступствы крызісу для кнігавыдавецкай галіны краіны яшчэ добра не вымалёўваюцца нават у самых заўзятых аптымістаў. Але з упэўненасцю трэба гаварыць, што насамрэч час кніжнага дэфіцыту, дзякуй богу, забыты. На любы густ, на любую тэму — зазірні ў краму, у бібліятэку, і знойдзеш усё, што табе патрэбна. Прычым, гэта ўжо не тыя сабраныя наспех кнігі ці забаўлялкі без выходных дадзеных. Ды і кнігарні і бібліятэкі выглядаюць цяпер сапраўды, нібы палацы. Таму і пакупнік стаў разборлівы, шукае не проста патрэбную, а з густам афармленую кнігу, і на назву выдавецтва звяртае ўвагу. У вядомых пісьменнікаў, ды і ў тых, хто іх кнігі выпускае ў свет, склалася сваё кола прыхільнікаў, ды і кожнае выдавецтва займела свой "твар". Гэта лёгка патлумачыць тым, што за гады напружанай эканамічнай сітуацыі ў сферы засталіся тыя, хто, ідучы сваім шляхам, свядома абраў яго прафесіяй і хацеў бы дасканальна авалодаць, вучыцца і вучыць супрацоўнікаў, хто не змяняў спешна рэдактараў і карэктараў старой школы на неспрактыкаваных выпускнікоў ВНУ. Цяпер тут няма таўкатні — ніхто не замінае аднаму. У кожнага свая, як я заўважыла яшчэ на світанку нашай дзейнасці, "выдавецкая палітыка".

Менавіта такія выдаўцы клапоцяцца пра тое, каб захаваць галіну для будучага, захаваць інтэлектуальную базу, каб не скаціцца назад у "ліхія" 1990-я, калі ў пагоні за лёгкім рублём выдавалася зусім не "разумнае, добрае, вечнае". Але ж кніга разумная патрэбна краіне, яна як інвестыцыя ў будучае з'яўляецца асновай развіцця такога ж разумнага грамадства.

А трэба ўзгадаць, дзе быў наш пачатак: якраз у тыя "ліхія" 1990-я і з'явілася найбольшая колькасць прыватных выдавецтваў, у тым ліку "Чатыры чвэрці". Пачыналі мы не з камерцыйных праектаў, якія нясуць вялікі рубель, а з серыі "Нашы духоўныя каштоўнасці", якая і сёння працягваецца сумесна з Беларускай Праваслаўнай Царквой. У яе падрыхтоўцы выявілася і выяўляецца сёння гармонія духоўнага і свецкага, якая цудоўным чынам уплывае і на іншыя нашы справы.

Цяпер у выдавецтве ідзе праца над кнігамі Уладзіміра Гніламёдава "Расія" (пераклад на рускую мову), Ірыны Масляніцынай "Сафія Слуцкая", Алены Паповай "Эцюды кахання". Сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое ўзначальвае Міхась Пазнякоў, распачалі выпуск серыі кніг "Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі". У ёй будуць прадстаўлены як прафесійныя літаратары Мінска, так і "маладыя галасы" — паэты і празаікі, якія толькі пачынаюць пісаць. Ужо ўбачылі свет першыя кнігі серыі — "Шчасце" Ніны Маеўскай, а з маладых — Яны Явіч "Сувязь жыццяў" і Вольгі Злотнікавай "Зараджэнне гуку".

З асаблівай цеплынёй ставімся да ініцыяванага нашым выдавецтвам праекта "Бібліятэка турэцкай літаратуры". Шмат чаго было зроблена, каб здзейсніць яго. Да ідэі прывялі нашыя грамадскія стасункі і сувязі. А гісторыя такая. З'яўляючыся членам прэзідыума грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія", я зацікавілася, ці ведаюць у Беларусі сучасную турэцкую літаратуру. Так высветлілася, што акрамя цудоўных перакладаў Міколы Мятліцкага, нічога больш апошнім часам і не выдавалася. Мы паспрыялі ўмацаванню сувязей паміж Саюзам пісьменнікаў Беларусі і Саюзам пісьменнікаў і журналістаў Турцыі, і нарадзіўся сумесны праект, у межах якога з беларускага боку выдадзеныя ўжо дзве кнігі перакладаў: Фетхулаха Гюлена "Дыялог і талерантнасць" і "Яны не дачакаліся раніцы" Харуна Такака, а з турэцкага — пераклад кнігі Мікалая Чаргінца "Сыны". Выпуск гэтай серыі — лагічны працяг нашай выдавецкай палітыкі. Таму што працуем над перакладамі з французскай мовы, уключыўшыся ў праграму "Максім Багдановіч", заснаваную Пасольствам Францыі ў Беларусі. Ужо выйшла некалькі кніг, сярод іх: "Сучасныя пісьменнікі Францыі: энцыклапедыя, складзеная самімі пісьменнікамі" і "Памяць адчуванняў" Б. Буцінон-Дзюма. У перакладзе з балгарскай мовы выйшла кніга "Дырыжор пра оперу" Драгаміра Ненава. Сумесна з Пасольствам Славакіі падрыхтавалі кнігу-альбом "Аскар Марыкс" пра слыннага беларускага тэатральнага мастака, які меў славацкія карані, і многа чаго іншага.

Хацелася б узгадаць яшчэ адну цікавую задумку выдавецтва "Чатыры чвэрці", якая паступова рэалізуецца, — праца над серыяй "Асоба і час", якая таксама дала новыя магчымасці для творцаў, чые імёны ўпісваюцца ў летапіс сучаснай беларускай літаратуры. Ужо ідзе праца над кнігай "Уладзімір Гніламёдаў: заставацца сабой", у планах — выданні пра творчасць Алеся Савіцкага, Навума Гальпяровіча, Міколы Мятліцкага, Янкі Сіпакова ды іншых.

У год 65-годдзя заканчэння Вялікай Айчыннай вайны выдавецтва распачало серыю "Дзеці вайны", а кропку ў ёй збіраецца паставіць у год 70-годдзя Перамогі. У гэтым праекце паўдзельнічалі як знакамітыя літаратары Ізяслаў Катляроў, Фелікс Баторын, Васіль Гурскі, так і тыя, хто проста быў сведкам падзей гадоў вайны. Усіх аб'яднала тэма — агульная радасць перамогі і боль за мінулае, дзе героямі былі нашы ўжо цяпер дзяды і прадзеды. Што наконт рэалізацыі кніг, то мы ўсімі сіламі стараемся дастукацца да чытачоў праз бібліятэкі і кніжныя крамы. Наладжваецца механізм супрацоўніцтва з ААТ "Белкніга", актыўна развіваюцца зносіны з бібліятэкамі краіны: Цэнтралізаванай сістэмай дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска (дырэктар А. Кубышкіна), ЦСДБ г. Мінска (дырэктар Т. Швед) і бібліятэкамі абласных і раённых гарадоў краіны.

З вышыні пражытых у прафесіі гадоў з веданнем справы магу сцвярджаць: у выдавецкую справу прыходзяць альбо па загадзе душы — ствараць Яе Вялікасць Кнігу, альбо рабіць бізнес. І першы, і другі падыходы маюць права на існаванне. Кніга — гэта тавар, пра яе эфемернасць не можа быць і гаворкі. Але ж кніга — гэта яшчэ і жывая істота…

У нашым выдавецтве мы нараджаем кожную кнігу сапраўды як дзіця, шмат увагі надаём знешняму выгляду выдання, нават самага сціплага, заўсёды ўлічваем пажаданні аўтара. І калі наш невялікі калектыў не спраўляецца, запрашаем на дапамогу дасведчаных рэдактараў, вядомых беларускіх мастакоў.

Да з'езда СПБ мы рыхтаваліся і акрамя вышэйназваных кніг зрабілі падарункі нашым аўтарам. Сярод іх — вялікі сябар нашага выдавецтва, таленавіты журналіст, галоўны рэдактар часопіса "Гаспадыня" Зіновій Прыгодзіч (не так даўно выйшла яго кніга "Крыніца ля лясных бяроз"); Пётр Радзечка, які з'яўляецца адзіным у Беларусі даследчыкам жыцця і творчасці Сяргея Ясеніна (у двух варыянтах афармлення пабачыла свет выданне "Ясенін і Беларусь", "Рэабілітаваны Ясенін"); Мікалай Еляневскі, які прысвяціў шмат год даследаванню асобы Платона Ціхановіча і яго "Граматыкі" ("Час пастыря").

Скажу шчыра, нямала людзей за гэтыя амаль два дзесяцігоддзі, што працуе выдавецтва, здзіўляліся "Чатыром чвэрцям". Хачу зазначыць, нам рабіць кнігу было заўсёды нялёгка. Сапраўды, даводзіцца і нават мне — кіраўніку — шмат у чым адмаўляць сабе: напрыклад, у шыкоўных кабінетах, ва ўдзеле ў паездках на міжнародныя кніжныя выстаўкі (а вельмі хочацца!). Прыярытэты іншыя.

І апошняе. Даўно вядома, што самыя ўспрымальныя да руху часу людзі — паэты, самыя мудрыя, тыя, хто прадбачыць час, — празаікі. Ім няпроста прайсці шлях у літаратуры. Здаецца, усё сказана, і неадночы, але ж на іх ускладзена пачэсная місія — расказаць пра свой час. Гэтага ніхто, акрамя іх, не зможа зрабіць. Няхай Бог дасць сілы ім і ўсім нам вытрымаць выпрабаванне часам.

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Аналіз**

**Корзюк, В. И.** Уравнения математической физики: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по математическим специальностям / В. И. Корзюк. — Минск: БГУ, 2011. — 459 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-518-427-1 (в пер.).

**Лаптинский, В. Н.** Конструктивный анализ периодической краевой задачи для матричного дифференциального уравнения Ляпунова – Риккати (левосторонняя регуляризация) / В. Н. Лаптинский, О. А. Маковецкая; ... Белорусско-Российский университет. — Могилев: Белорусско-Российский университет, 2011. — 55 с. — 35 экз.

**Даследаванне аперацый**

**Павлов, П. А.** Высшая математика. Математическое программирование : учебно-методическое пособие для студентов нематематических специальностей всех форм обучения / П. А. Павлов; Национальный банк Республики Беларусь, Полесский государственный университет. — Пинск: ПолесГУ, 2011. — 76 с. — 550 экз. — ISBN 978-985-516-163-0.

**Фізіка**

**Барыкин, В. Н.** Философия современной физики / Барыкин В. Н. — Минск: Ковчег, 2011. — 134 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7006-09-0.

**“Лазерная физика и оптические технологии», международная научная конференция (8; 2010; Минск)**. Сборник научных трудов VIII Международной научной конференции «Лазерная физика и оптические технологии», 27–30 сентября 2010, Минск: [в 2 т.]. — Минск : ИФ НАН Беларуси, 2010. — 110 экз.

Т. 1. — 368 с.

Т. 2. — 367 с. — Часть текста на английском языке.

**Математические и физические методы исследований: научный и методический аспекты**: сборник материалов межфакультетской научно-практической конференции, посвященной 90-летию со дня рождения М. Г. Маркевича, Брест, 25 марта 2011 г.: в 2 ч. / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [под общей редакцией Н. Н. Сендера]. — Брест: БрГУ, 2011. — 50 экз. — ISBN 978-985-473-714-0.

Ч. 1. — 103 с. — Часть текста на белорусском языке. — ISBN 978-985-473-715-7.

Ч. 2. — 107 с. — ISBN 978-985-473-716-4.

**Физика**: 6-й класс: решение задач по учебному пособию «Физика. 6 класс» для общеобразовательных учреждений с русским языком обучения авторов Л. А. Исаченковой, И. Э. Слесарь / [составитель А. А. Зубович]. — Минск: Юнипресс, 2011. — 78 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-637-4.

**Физика**: 7-й класс: решение задач по учебному пособию «Физика. 7 класс» для общеобразовательных учреждений с русским языком обучения авторов Л. А. Исаченковой, Ю. Д. Лещинского / [составитель А. А. Зубович]. — Минск: Юнипресс, 2011. — 111 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-638-1.

**Физика**: 7-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель Ю. В. Макаревич]. — Минск: Кузьма, 2011. — 64 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-985-453-360-5.

**Физика**: 8-й класс: решение задач по учебнику «Физика. 8 класс» авторов Л. А. Исаченковой, Ю. Д. Лещинского, под редакцией Л. А. Исаченковой / [составитель А. А. Зубович]. — Минск: Юнипресс, 2011. — 174 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-639-8.

**Физика**: 10-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель Е. Н. Петлицкий]. — Минск: Кузьма, 2011. — 112 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-985-453-351-3 (ошибоч.).

**Физика**: 11-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель Е. В. Сенчук]. — Минск: Кузьма, 2011. — 63 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 8000 экз. — ISBN 978-985-453-361-2 (ошибоч.).

**Централизованное тестирование. Физика**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2011. — 45 с. — 8100 экз. — ISBN 978-985-529-845-9.

**Асноўныя прынцыпы фізікі**

**Черниченко, Ю. Д.** Релятивистский квазипотенциальный подход в задачах рассеяния / Ю. Д. Черниченко. — Гомель: ГГТУ, 2011. — 237 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-535-009-6.

**Механіка**

**Барыкин, В. Н.** Единая механика частиц и полей / Барыкин В. Н. — Минск: Ковчег, 2011. — 96 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7006-11-3.

**Оптыка**

**Барыкин, В. Н.** К новому качеству физической теории света / Барыкин В. Н. — Минск: Ковчег, 2011. — 75 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-7006-10-6.

**Гончаренко, А. М.** Оптические гауссовы пучки и солитоны / А. М. Гончаренко; Национальная академия наук Беларуси, Государственное научное учреждение Институт физики им. Б. И. Степанова. — Минск: Беларуская навука, 2011. — 124 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-08-1294-0.

**Цяпло. Тэрмадынаміка**

**Тепло- и массоперенос-2011** : сборник научных трудов / Институт тепло- и массообмена им. А. В. Лыкова Национальной академии наук Беларуси; [редколлегия: В. Л. Драгун (главный редактор) и др.]. — Минск: ИТМО НАН Беларуси, 2011. — 396, 22 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6456-70-4.

**Фізіка кандэнсаванага стану (вадкі і цвёрды стан)**

**Драко, В. М.** Фононные и электронные процессы в кристаллах: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по специальности «Физика (ядерные физика и технологии)» / В. М. Драко, В. И. Прокошин, В. Г. Шепелевич. — Минск: БГУ, 2011. — 215 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-359-5 (в пер.).

**Будова матэрыі. Ядзерная, атамная, малекулярная фізіка**

**“Ядерные технологии XXI века», международная конференция (2; 2010; Минск)**. Доклады II Международной конференции «Ядерные технологии XXI века» = II International conference «Nuclear technologies of XXI century»: Минск, 6–8 октября 2010 г. — Минск: Право и экономика, 2010. — 275 с. — Часть текста на английском языке. — 80 экз. — ISBN 978-985-442-950-2.

**Уласцівасці і структура малекулярных сістэм**

**Наноструктуры в конденсированных средах**: сборник научных статей / Национальная академия наук Беларуси, Институт тепло- и массообмена им. А. В. Лыкова; [редколлегия: П. А. Витязь (отв. ред.) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2011. — 380 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-476-923-3.

**Фуллерены и наноструктуры в конденсированных средах**: сборник научных статей / Национальная академия наук Беларуси, Институт тепло- и массообмена им. А. В. Лыкова; [редколлегия: П. А. Витязь (отв. ред.) и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2011. — 440 с. — Часть текста на английском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-476-917-2.

**Супрацiўленне матэрыялаў**

**Журавков, М. А.** Механика сплошных сред. Теория упругости и пластичности: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по специальности «Механика» / М. А. Журавков, Э. И. Старовойтов. — Минск: БГУ, 2011. — 543 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-518-420-2 (в пер.).

**Хімія. Крышталяграфія. Мінералогія**

**Химия**: 7-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель С. А. Литвинова]. — Минск: Кузьма, 2011. — 112 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-985-453-368-1 (ошибоч.).

**Химия**: 10-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель С. А. Литвинова]. — Минск: Кузьма, 2011. — 192 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-985-453-348-3 (ошибоч.).

**Химия**: 11-й класс: решения задач с подробными объяснениями: справочное пособие / [составитель С. А. Литвинова]. — Минск: Кузьма, 2011. — 159 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-985-453-443-5.

**Аналітычная хімія**

**Жебентяев, А. И.** Хроматографические методы анализа / А. И. Жебентяев; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — Витебск: ВГМУ, 2011. — 207 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-466-473-6.

**Навукі пра Зямлю. Геалагічныя навукі. Стратыграфія**

**Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі** / [А. К. Карабанаў і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут прыродакарыстання. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 234 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1295-7.

**Біялагічныя навукі ў цэлым**

**Централизованное тестирование. Биология**: сборник тестов / Учреждение образования «Республиканский институт контроля знаний» Министерства образования Республики Беларусь. — Минск: Аверсэв, 2011. — 55 с. — 8100 экз. — ISBN 978-985-529-846-6.

**Агульная экалогія. Біяцэналогія. Біягеаграфія**

**Основы экологии**: учебно-методический комплекс со справочно-информационными материалами: [для студентов / Частное учреждение образования «Минский институт управления»; составители: И. Г. Першин, Л. И. Шпаковская]. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: МИУ, 2011. — 207 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-490-737-6.

**Пугачева, И. Г.** Методы экологических исследований: курс лекций для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-33 01 06 – Экология сельского хозяйства специализации 1-33 01 06 01 – Сельскохозяйственная радиоэкология / И. Г. Пугачева; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. — Горки: БГСХА, 2011. — 95 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-467-313-4.

**Симонова-Лобанок, М. П.** Общая экология: (в схемах) / М. П. Симонова-Лобанок; Департамент по авиации Министерства транспорта и коммуникаций Республики Беларусь, Минский государственный высший авиационный колледж. — Минск: Право и экономика, 2011. — 75 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-961-8.

**Агульная генетыка. Агульная цытагенетыка. Імунагенетыка.**

**Титок, М. А.** Молекулярные аспекты эволюции: пособие для студентов высших учебных заведений / М. А. Титок. — Минск: БГУ, 2011. — 178 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-343-4.

**Янковский, Н. К.** Эволюционные, медицинские и социальные аспекты генетики и геномики человека / Н. К. Янковский; Национальная академия наук Беларуси, Институт генетики и цитологии. — Минск: Право и экономика, 2011. — 20 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-965-6.

**Батаніка**

**Емельянов, Л. Г.** Чудеса роста растений / Л. Г. Емельянов, И. Л. Юркова; Национальная академия наук Беларуси, Институт экспериментальной ботаники им. В. Ф. Купревича. — Минск: Беларуская навука, 2011. — 180 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1299-5.

**Пестициды и растение: влияние на ион-транспортные системы плазматической мембраны**: монография / [В. М. Юрин и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2011. — 259 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-476-900-4.

**ПРЫКЛАДНЫЯ НАВУКІ. МЕДЫЦЫНА. ТЭХНАЛОГІЯ**

**Медыцынскія навукі**

**Конференция студентов и молодых ученых, посвященная памяти профессора М. П. Шейбака (2011; Гродно)**. Материалы конференции студентов и молодых ученых, посвященной памяти профессора М. П. Шейбака, 14–15 апреля 2011 г. / [редколлегия: Снежицкий В. А. (отв. редактор) и др.]. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 551 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-496-771-4.

**Кралько, А. А.** Сборник ситуационных задач и деловых игр по основам права, медицинской этике и деонтологии (для слушателей курсов «Организация здравоохранения», «Организация сестринского дела», медицинских вузов и колледжей) : учебно-методическое пособие / [Кралько, А. А., Матвейчик,Т. В., Пилипцевич, Н. Н.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра общественного здоровья и здравоохранения. — Минск: БелМАПО, 2011. — 67 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-499-485-7.

**Анатомія**

**Весенние анатомические чтения**: сборник статей научной конференции, посвященной памяти доцента З. А. Пашенко, 20 мая 2011 г. / [редколлегия: Околокулак, Е. С. (отв. редактор), Гаджиева, Ф. Г.]. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 61 с. — 25 экз. — ISBN 978-985-496-786-8.

**Маринич, В. В.** Анатомия и физиология сенсорных систем: учебно-методическое пособие: [для студентов] / В. В. Маринич, О. С. Морозов; Национальный банк Республики Беларусь, Полесский государственный университет. — Пинск: ПолесГУ, 2011. — 75 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-516-156-2.

**Фізіялогія**

**Зинчук, В. В.** Нормальная физиология: учебное пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по специальности «Лечебное дело»: [в 2 ч.] / В. В. Зинчук, О. А. Балбатун, Ю. М. Емельянчик; под редакцией В. В. Зинчука; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра нормальной физиологии. — 3-е изд. — Гродно: ГрГМУ, 2011–

Ч. 2. — 2011. — 275 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-496-780-6.

**Кузнецов, О. Е.** Серология групп крови: учебно-методическое пособие для студентов медико-диагностического, лечебного и педиатрического факультетов / О. Е. Кузнецов, И. А. Курстак, В. В. Воробьев; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Учреждение здравоохранения «Гродненская областная клиническая больница», Кафедра анестезиологии и реаниматологии с курсом клинической биохимии. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 63 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-496-775-2.

**Морзак, Г. И.** Тяжелые металлы и защитные системы организма: монография / Г. И. Морзак, И. В. Ролевич. — Минск: БГАТУ, 2011. — 154 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-374-7.

**Практикум по нормальной физиологии**: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальности «Медико-психологическое дело»: [в 2 ч. / В. В. Зинчук и др.]; под редакцией В. В. Зинчука; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра нормальной физиологии. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 200 экз.

Ч. 1. — 265 с. — ISBN 978-985-496-782-0.

Ч. 2. — 262 с. — ISBN 978-985-496-783-7.

**Практикум по нормальной физиологии**: учебное пособие для студентов учреждений, обеспечивающих получение высшего образования по специальности «Лечебное дело»: [в 2 ч. / В. В. Зинчук и др.]; под редакцией В. В. Зинчука; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра нормальной физиологии. — 3-е изд. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 750 экз.

Ч. 1. — 281 с. — ISBN 978-985-496-774-5.

Ч. 2. — 224 с. — ISBN 978-985-496-783-7.

**Физиология**: курс лекций по управляющим системам организма человека: в 2 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Мозырский государственный педагогический университет им. И. П. Шамякина, Кафедра природопользования и охраны природы; [автор-составитель Е. И. Дегтярева]. — Мозырь: МзГПУ, 2011–

Ч. 1. — 2011. — 132 с. — 119 экз. — ISBN 978-985-477-451-0.

**Гігіена ў цэлым. Асабістая гігіена і здароўе**

**Виес, Ю. Б.** Все о фитнесе / Юлия Виес. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 511 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-17-0305-6 (в пер.).

**Йегер, С.** Делаем фигуру на велосипеде: [идеальная система улучшения физической формы с помощью велосипеда] / Селин Йегер и редакция журнала «Bicycling»; [перевел с английского В. М. Боженов]. — Минск: Попурри, 2011. — 223 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1425-6.

**Перец, М. А.** Правда о контрацепции: (религиозно-нравственная оценка проблемы контрацепции в свете христианского учения о браке) / диакон Михаил Перец. — Пинск: ИРА «Паляшук», 2011. — 69 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-90095-8-7.

**Промолайко, М.** Голая и красивая / Мишель Промолайко; при участии Моры Родс; [перевод с английского выполнила И. В. Гродель]. — Минск: Попурри, 2011. — 299 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1365-5 (в пер.).




## *Чытальная зала*

## Салодкая горыч першага кахання

Першае каханне — заўсёды светлае. Такім яно засталося і ў Андрэя, удовая маці якога, каб не прапасці ад холаду і голаду, бо з-за непралетарскага паходжання не магла ўладкавацца на добрую працу, здала пакой студэнткам Дашы і Лідачцы. Для маўклівай задуменнай Лідачкі Андрэй быў толькі сябруком. А марыў несці яе на руках ад катка да самага дома. Ён бачыў яе з іншым, але той не пайшоў правесці Лідачку да цягніка. На развітанне Андрэй папрасіў: “Напішы мне пісьмо” — і чакаў усё лета. А атрымаў пасылку са слоікам мёду. “Горкі ліпавы мёд” — назва гэтай гісторыі стала назвай зборніка апавяданняў Алены Васілевіч, што ўбачыў свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”. Неадноўчы захочацца перачытаць і астатнія апавяданні гэтай кнігі з серыі “Школьная бібліятэка”, бо безумоўную сімпатыю, а нярэдка і спачуванне, выклікаюць усе іх героі — цыганачка Марыула, якую бабуля вязе да маці і айчыма, дзяўчынка, якая гадуе трох баранчыкаў, Вова і яго сястрычка Наташачка, якія рыхтуюць маці падарункі, Лёнька, Алік, Юрачка, Ада Казей… Дзеці і дарослыя, героі твораў Алены Васілевіч, стануць вашымі добрымі сябрамі.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**






## Кнігарня «Живые буквы», г. Мінск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Минск. — Минск: Беларусь, 2009.

*Фотаальбом “Мінск” на беларускай, рускай і англійскай мовах, укладальнікам і аўтарам тэксту якога з’яўляецца С. Пешын, у храналагічна-геаграфічнай паслядоўнасці знаёміць чытача з гісторыяй беларускай сталіцы. Вялікая ўвага ў альбоме нададзена праведзенаму ў апошнія гады добраўпарадкаванню горада: начному падсвечванню будынкаў, новай паркавай скульптуры, фантанам і г. д. Багата ілюстраванае выданне цікавае не толькі жыхарам нашай краіны, яно будзе цудоўным падарункам гасцям сталіцы Беларусі.*

2. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.
3. Б. ДеПортер, М. Хенаки. Мегамозг. — Минск: Попурри, 2009.
4. Николай Гоголь. Мёртвые души. — Минск: Харвест, 2004.
5. Янка Купала. Збор твораў. У 9 т. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1995—2001.
6. Крынічка. Хрэстаматыя для дзяцей малодшага школьнага ўзросту. — Мінск: Радыёлаплюс, 2011.
7. Альберт Иванов. Счастливая звезда Хомы и Суслика. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010.
8. Зінаіда Дудзюк. Леў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.
9. Юлия Лешко. Ангел в темноте. — Минск: Регистр, 2011.
10. Наталья Батракова. Площадь согласия. — Минск: Кавалер, 2011.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Елена Молоховец. Золотая книга домашних заготовок. — Москва: Эксмо, 2008.
2. Н. С. Жукова. Букварь. — Москва: Эксмо, 2011.
3. Волшебный клубок: новые узоры для вязания крючком. — Москва: Астрель, 2011.
4. С. О. Чебаева. Бисер. 100 лучших идей. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
5. Виктор Драгунский. Денискины секреты. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2010.
6. Анна Китаева. Одержимые Зоной. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.
7. Дмитрий Емец. Мефодий Буслаев. Маг Полуночи. — Москва: Эксмо, 2009.
8. Стефани Майер. До рассвета. Недолгая вторая жизнь Бри Таннер. — Москва: АСТ; Астрель, 2010.
9. Сергей Коновалов. Практическая энциклопедия здоровья. — Санкт-Петербург: Прайм-Еврознак, 2010.
10. Уилбур Смит. Золото. — Москва: АСТ, 2010.













# Джунгли и лабиринты издательской свободы

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

**Спектр литературы, которую выпускает издательство Алексея Вараксина, широкий — это не только традиционное поэтическое и прозаическое творчество, но и научные труды признанных авторов и смелые гипотезы авторов менее известных. И, конечно же, различного рода мемуары — эксклюзивное свидетельство эпохи. На некоторых изданиях остановимся подробнее.**










## Думать — и гордиться

Книгу **Дмитрия Билибина "Там, вдали, за бугром (Потусторонние похождения русского диссидента)"** можно смело включать в список литературы, обязательной для всех мечтающих жить за пределами нашей славной родины. Автор остроумных иронических заметок, "москвич по рождению, минчанин по убеждению", честно рассказывает читателю всю правду о том, как ещё подростком мечтал угнать из Петрозаводска серебристый истребитель — и рвануть в вольные небеса Скандинавии. Ох, какими сладкими были мечты о триумфальном приземлении… К счастью, папа друга перестал брать их на военный аэродром. Подросток вырос, а мечта осталась. Дмитрий Билибин, обладатель самодельного значка с надписью "Антикоммунист, НТС", немало крови испортил властям, организовав издание оппозиционного журнала, с которого началось целое движение в Карелии. Но, основательно замутив воду, романтик не стал ловить рыбку на политическом поприще, а в 1989 году всё-таки эмигрировал. Вожделенный рай изнутри оказался далеко не таким, как представлялось. Острому взгляду автора, натасканному на нарушения прав человека, таковые за бугром предстают во всей красе — и он повествует о них легко, живописно, с тонким юмором. Картинка сытого налаженного быта дана во всей полноте, без прикрас. Вполне аргументировано объясняя, почему он отказывается от вида на жительство и возвращается на родину, автор оставляет читателю право выбора. Думайте сами, решайте сами, роняйте слезу, хохочите до колик и гордитесь соотечественниками: наши — они и там не только не пропадут, а ещё и виртуозно выкрутятся из любой ситуации.

## Счастье — это когда…

Вот она, типичная жизнь обычного человека в рыночном обществе: не слишком любимая работа "из-за денег", бессмысленные удовольствия в свободное время, оторванность от "натуральной" жизни и самореализации, нарастающее чувство тоски и покорности внешним силам. Может ли быть иначе? Автор книги **"Личностно-ориентированная концепция счастья: жизнь во имя себя" Леонид Левит** утверждает, что да. Что для этого нужно? Сочетание в правильных пропорциях разумного эгоизма, личностной уникальности, умеренности социальных контактов и т.д., и т.п.

Леонид Левит — кандидат психологических наук, доцент, мастер спорта по шахматам, автор восьми книг по психотерапии. Объявления о его тренингах часто можно видеть на рекламных листовках в метро, приглашающих на занятия, благодаря которым человек начинает двигаться в нужном направлении. Сегодня автор, который в одиночку покорил Эльбрус, работает над докторской диссертацией по психологии счастья. В рекомендованной читательскому вниманию книге он рассказывает о личностно-ориентированной концепции счастья, опроснике, позволяющем диагностировать её компоненты.

## Почему люди не летают?

Перед человечеством стоит масса задач: решить вопрос дефицита пресной воды, превращая в неё морскую, плавать во льдах без ледокола, "оживлять" иссякшие нефтеносные скважины, спасаться из многоэтажного горящего здания, прыгая с помощью специального зонта. **В. Кумачёв** утверждает, что все они решаются, если освоить основы управления гравитацией на Земле. А ещё выйти покорять дальний космос. Автор книги **"Гравитация"** уверен в необычайных возможностях человека. Излагая принципиально новые подходы к разработке Единой Теории Природы, он утверждает: "Летающая тарелка — не миф. Гравитация существует не везде", приводит в доказательство 139 примеров положительного применения данной теории и уверяет, что она указывает пути создания принципиально новых летательных аппаратов (гравелётов) и других эффективных технических средств.

## Остаться легендой

Начиная с разных истоков, сливаются в одну реки Нёманец и Лоша, и через территории разных земель несёт свои воды могучий Нёман. Откуда взялись эти реки, расскажет легенда, которой посвящено **"Паданне пра каханне"**, красивая и печальная история любви. Книгу **Дмитрия Виноградова** читатель сможет оценить в переводе на белорусский язык Бориса Брацука.

Давно это было. Когда оборотни уносили в Русальную ночь обречённую жертву-девушку. Лоша — так назвал свою возлюбленную богатырь-кузнец Нёманец, не зная, что она Любляна, дочь жестокого князя-чародея Немиры. Не по нраву пришлась князю любовь дочери к кузнецу. Решил он принести дерзкого богатыря в жертву Чернобогу…

## История — это рядом

Мы к истории относимся, мягко говоря, прохладно. Сдаём в школе, в вузе — и благополучно считаем, что больше нас это не касается. Составителю этой книги В. Зайцеву повезло — родственники его друга сохранили в семейном архиве дневники своего предка, офицера, участника похода русской императорской армии летом 1849 года в Венгрию. (О Венгерском походе, длившемся два месяца, есть упоминание историка А. Керсновского в "Истории русской армии".)

Локальная кампания, которую мы в школе явно не изучали, была частью семейной хроники, пересказывалась так живо и увлекательно, что В. Зайцев попросил разрешения законспектировать реликвию. И вот, наконец, в серии "Такая история" вышла книга **"Дневник корнета Рязанина Ивана о походе противу мятежных венгерцев писаный им самим"**. Это записки человека, избравшего профессией войну. А локальных конфликтов между соседствующими народами было предостаточно. Его отношение к своим обязанностям, забота о благе людей, вверенных его командованию, походных буднях и ослепительных балах, где, легко вальсируя, можно встретить свою судьбу, легли на странички дневника и стали книгой. А вот фамилия автора записок по просьбе родственников изменена. Впрочем, это не так важно. По прошествии такого количества времени для нас что реальный персонаж, что литературный герой — далеко не самое главное. Главное — чувства и мысли человека в экстремальной ситуации. На войне как на войне. Ну и про любовь опять же…

## Вторая половинка

Об их любви сняли кино. Однажды на склоне лет он признался дочери: "Если бы не встретил маму, никогда бы не женился". Встречаться с девушкой из опальной семьи молодому офицеру контрразведки запрещало начальство. До смерти Сталина оставалось пять лет… Но он слушал только собственное сердце. Зарифа-ханум стала женой Гейдара Алиева — первого секретаря ЦК компартии, а с 1993 г. президента Азербайджана. Какой она была — врач-офтальмолог, доктор медицинских наук, блестящий учёный и в то же время чуткий педагог, наставник, мудрый руководитель, мать, подруга, — расскажет книга **Гусейнбала Мираламова "Зарифа Алиева"**, переведённая на белорусский язык Э. Исмаиловой и А. Бадаком. Рассказ о жизненном пути героини построен на архивных материалах, воспоминаниях близких людей, дополнен фотографиями.

## Небо, крылья, строки…

Почему-то мне кажется, о том, что лётчик пишет стихи — трогательные, наивные, честные, безыскусные, знал далеко не каждый его знакомый. А потом пришло время — и вот страницы книги поэта **Владимира Лялюшко "Листаю старый свой альбом"** расскажут о людях, с которыми свела судьба. В небольшую по объёму книжку вошли не только стихи, но и проза — невыдуманные истории о прожитом. Лаконичная ёмкая история "Случай на пожаре", от которого на всю жизнь остались в сердце автора полные слёз глаза коровы, ведомой на бойню, ушедший тридцатисемилетним из жизни шутник-баламут Юра, случай, когда ракета сбилась с цели, о котором не рассказали по радио и ТВ.

## Унікальны праект

Марына ВЕСЯЛУХА

# Песня пра нашу гісторыю



**Што распавесці замежніку пра гісторыю і культуру нашай краіны? На якія моманты звярнуць увагу? Якімі новымі фактамі здзівіць начытанага суразмоўцу? Якую кнігу пра Беларусь узяць з сабою ў замежную паездку? Думаецца, гэтыя пытанні не раз хвалявалі нашых суайчыннікаў, што часта бываюць за мяжой ці прымаюць гасцей з іншых краін. Але цяпер яны могуць уздыхнуць з палёгкай, бо з'явілася кніга, што прэтэндуе вырашыць адразу ўсе гэтыя цяжкасці. Так, у выдавецкім доме "Беларуская навука" выйшла калектыўная праца "Беларусь: старонкі гісторыі".**

Дапытлівы чытач адразу задасца пытаннем: ці можна давяраць гэтай кнізе? Смела адкажу: можна! У рэдакцыйны савет выдання, які ўзначаліў акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя і дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Даніловіч, увайшлі самыя знаныя і вопытныя гісторыкі краіны. А ўжо яны і самі не падмануць, і іншым не дазволяць.

— Сёння Інстытут гісторыі НАН Беларусі імкнецца да таго, каб ісці па шляху аб'ектыўнага асвятлення, захавання і шырокай трансляцыі багатай гісторыка-культурнай спадчыны нашага народа ў адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі дзяржавы, — распавёў Вячаслаў Даніловіч. — І ў гэтай сувязі адным з апошніх дасягненняў Інстытута з'яўляецца выхад у свет выдання "Беларусь: старонкі гісторыі". У гэтай калектыўнай рабоце на глебе навейшых канцэптуальных і метадалагічных распрацовак айчыннай і замежнай гістарычнай навукі і ў адпаведнасці з дзяржаўнай ідэалогіяй прадстаўлена гісторыя Беларусі — ад старажытнасці і да сучаснасці, фактычна да 2010 года. У выданні мы паказалі месца, ролю, дасягненні нашага народа, яго ўклад у развіццё еўрапейскай цывілізацыі, звярнулі ўвагу на тое адметнае, што на працягу многіх стагоддзяў стваралася нашымі продкамі, а таксама на тое, што зроблена нашымі сучаснікамі.

Як гэта заведзена ў гістарычнай навуцы, кніга пабудавана па храналагічна-блокавым прынцыпе і ўключае раздзелы: "Ля вытокаў беларускага народа", "Беларускія землі ў XI — XIII стст.", "У складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай", "У складзе Расійскай імперыі", "Беларусь у савецкі перыяд", "Рэспубліка Беларусь". Тут у сціслай, але інфарматыўнай форме і досыць поўна прадстаўлены падзеі грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця, ваенной гісторыі, культуры, навукі і духоўна-канфесійнай сферы нашай краіны.

— Адметнасць гэтага выдання найперш у тым, што гісторыя краіны ў ім пададзена ў прэзентацыйнай форме. Таму нават не знаёмы з нашай мінуўшчынай чалавек, які пагартае, пачытае кнігу — а яе адносна невялікі аб'ём дазваляе гэта зрабіць за кароткі тэрмін, — будзе мець уяўленне пра нашы дасягненні — як гістарычныя, так і сучасныя, — падкрэслівае Вячаслаў Віктаравіч. — Гэта навукова-папулярнае выданне, якое прэзентуе нашу багатую гісторыка-культурную спадчыну. І менавіта кіруючыся гэтым мы прапанавалі Міністэрству замежных спраў краіны распаўсюджваць кнігу праз дыпламатычныя службы за мяжой. Найперш з папулярызацыйнай мэтай.

І сапраўды, кніга годна прэзентуе краіну ва ўсіх аспектах. Па-першае, праз тэкст, інфармацыя ў якім выкладзена простай, зразумелай мовай, без спецыяльных навуковых тэрмінаў і груваcткіх апісанняў. Па-другое, праз годнае паліграфічнае выкананне — кнігу прыемна трымаць у руках, яна аформлена густоўна, без лішніх дэталяў, але з дастатковай колькасцю ілюстрацый, якія выдатна суадносяцца з тэкстам. Па-трэцяе, праз самі выявы. Фотаздымкі рэканструяваных касцюмаў тут гарманічна суадносяцца з выявамі сапраўдных археалагічных знаходак. "І гэта самы разумны выхад у дадзеным выпадку, — зазначае Вячаслаў Даніловіч. — Калі будзем размяшчаць толькі здымкі археалагічных знаходак, якія прадстаўлены адно фрагменты, але аўтэнтычныя. Разам з тым, каб дапамагчы чытачу ўявіць цэлы аб'ект, неабходна правесці навуковую рэканструкцыю".

Нягледзячы на тое, што асноўная функцыя гэтага выдання — пазнаёміць з ключавымі момантамі беларускай гісторыі, у кнізе апроч агульнавядомых фактаў змешчана і новая інфармацыя. Гэта апошнія напрацоўкі Інстытута гісторыі, што датычыць існавання язычніцтва на тэрыторыі Беларусі. Духоўнаму свету нашых старажытных продкаў, іх светаўяўленню — а гэтыя аспекты раней не знаходзілі належнага асвятлення — прысвечана асобная глава выдання. Тут прадстаўлены і самыя новыя, выяўленыя археолагамі матэрыялы па гісторыі Полацка, Турава і іншых старажытных беларускіх гарадоў. Адметныя матэрыялы і факты ёсць і ў раздзеле, прысвечаным Першай сусветнай вайне, якой доўгі час не надавалася належнай увагі. Згадваецца лёс Смаргоні ў гады Першай сусветнай. Фактычна гэта была моцная крэпасць, якую гераічна абараняла расійская армія, і германскія войскі 810 дзён не маглі зрушыць лінію фронту з тэрыторыі Смаргоні. Значная ўвага адведзена новым напрацоўкам, што датычыць Вялікай Айчыннай вайны. Тут можна знайсці і прозвішчы самых вядомых герояў Вялікай Айчыннай, партызан, падпольшчыкаў, тых, хто змагаўся на франтах. Шырока прадстаўлена знешнепалітычная дзейнасць БССР, пачынаючы з заснавання ААН і да 1991 года, а таксама Рэспублікі Беларусь. У выданні змешчаны досыць поўны і змястоўны матэрыял па навейшай гісторыі нашай краіны.

Хто ж можа стаць чытачом гэтай кнігі?

— Кантакты, што мы маем з замежнымі калегамі, сведчаць пра наяўнасць вялікай цікавасці да гісторыі Беларусі, — адказвае Вячаслаў Віктаравіч. — Але зазвычай замежнікаў цікавіць гісторыя менавіта ў шырокім сэнсе. Ім трэба адна кніга, якая дапамагла б скласці ўяўленне пра гісторыю і культурную спадчыну народа. Такое выданне ўжо з'явілася. З мэтай прывабіць больш шырокае кола патэнцыяльных чытачоў мы адмыслова пайшлі на тое, каб кнігу напісаць па-руску, як калісьці Мікола Гусоўскі напісаў "Песню пра зубра" на лаціне, а не на дзяржаўнай у ВКЛ старабеларускай мове. Гусоўскі кіраваўся тым, каб далёка за межамі краіны даведаліся пра Вялікае Княства Літоўскае, мы ж хочам, каб праз сродкі рускай мовы гэтак жа даведаліся пра Беларусь. У перспектыве плануецца перавыданне кнігі ў перакладзе на замежныя мовы. Але лічым, што ўжо і ў такім выглядзе "Беларусь: старонкі гісторыі" мае шырокае поле для распаўсюджвання.



***Ілюстрацыя з выдання "Беларусь: старонкі гісторыі": воіны ВКЛ XIV ст.: татарскі коннік, кавалерыст, арбалетчык. Рэканструкцыя.***

***P.S.** Гэты ўнікальны праект прадстаўлены ў ліку іншых айчынных выданняў павышанай якасці для ўдзелу ў міжнародным конкурсе кніжнага мастацтва "Лепшы кніжны дызайн свету", што праводзіцца якраз гэтымі днямі ў межах Франкфурцкага кніжнага кірмашу. Дырэктар Інстытута гісторыі НАН Беларусі ўпэўнены, што кніга мае вялікія шанцы для атрымання высокай адзнакі на конкурсе. На гэты конт я цалкам пагаджаюся з Вячаславам Віктаравічам. Выданне і разам з тым прадстаўленая ў ім гісторыя народа сапраўды гэтага вартыя.*

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Мартиновič, А. А. Нежность звёздного неба / Алесь Мартинович. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 240 с.**

Новая гістарычная аповесць Алеся Марціновіча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі па сутнасці з'яўляецца працягам яго кнігі "Споведзь старых замкаў". На гэты раз аўтар пераносіць чытача ў XVI стагоддзе і распавядае пра адносіны Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста. Як пра гэта распавядзе пісьменнік, як адчуе вобразы, чытайце ў кнізе.



**Культавыя і гістарычныя валуны Беларусі / А. К. Карабанаў і інш.; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, інстытут прыродакарыстання. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 235 с.**

У беларускай традыцыйнай культуры вобраз каменя займае адметнае месца. З валунамі звязаны шматлікія паэтычныя легенды і паданні. Звесткі пра незвычайныя камяні сустракаюцца і ў летапісах, дакументах, царкоўнай і краязнаўчай літаратуры. У гэтай калектыўнай манаграфіі прыведзена інфармацыя пра больш як 360 сакральных камянёў, якія знаходзяцца ў розных кутках Беларусі. Кніга не толькі распавядзе пра хімічны склад камянёў і іх фізічныя адметнасці, але і пазнаёміць з незвычайнымі паданнямі (а яны яшчэ жывуць у народзе) пра цудоўныя ўласцівасці гэтых "жыхароў" нашай зямлі.



**Васькоў, У. І. Дахавік Казік / Уладзімір Васькоў; іл. Уладзіміра Васькова. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 102 с.**

Хто такія дахавікі? Як сцвярджае аўтар, гэта істоты, якія жывуць на гарышчах. Сваім выглядам яны нагадваюць маленькіх камінароў, бо носяць чорныя цыліндры і сурдуты. Падзеі казачнай аповесці для дзяцей і дарослых адбываюцца ў горадзе, падобным да Мінска, а таксама за горадам і нават за межамі Беларусі. Яе галоўныя героі — дахавікі Казік і Юзік, а таксама іх сябры: дахавік Гюнтэр, варона Карына і сабачка Маркіз.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадстаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

## Рэгіёны

# Карагод узнагарод

**У Дзень беларускага пісьменства ў Ганцавічах пісьменнікі Віцебшчыны атрымалі высокія ўзнагароды.**

"Залатых Купідонаў" атрымалі публіцыст Уладзімір Саўліч і паэт-песеннік Канстанцін Нілаў. Дыпломамі лаўрэатаў былі ўзнагароджаны дзіцячыя пісьменнікі Сяргей і Галіна Трафімавы, празаік Барыс Беляжэнка.

Віцебскай пісьменніцкай арганізацыі ёсць чым пахваліцца. У 2011 годзе паэт Алег Салтук атрымаў прэмію Федэрацыі Прафсаюзаў, а паэтэса Тамара Краснова-Гусачэнка была ўдастоена адной з самых прэстыжных літаратурных узнагарод на прасторах СНД — Усерасійскай прэміі імя Ф. Цютчава і залатога медаля.

Прэміямі рэспубліканскага значэння ў розныя гады адзначаны 12 членаў аддзялення СПБ. Ігару Пракаповічу з Паставаў нададзена званне "Чалавек года Віцебшчыны-2009". Ганаровымі грамадзянамі сваіх родных гарадоў сталі Надзея Салодкая (Полацк), Алег Салтук (Шуміліна), Генадзь Пацыенка (Лёзна).

**Ул. інф.**

# Яна

## Жыццёвінкі



Васіль Ткачоў

1

Напярэдадні ёй сказалі, каб заўтра далёка ад хаты не адыходзіла, прыедуць карэспандэнты і будуць распытваць пра жыццё. Яна здзівілася: а чаму адна я, вунь і мае равесніцы, Мар'я ды Ганна, ого як могуць сказаць, яшчэ лепш! За словам у кішэню не палезуць. На гэта ёй адказалі, што нічога не ведаюць, прасілі з раёна папярэдзіць адну цябе. "А пра што ж пытаць будуць?" — карцела старой, на што яна таксама не атрымала пэўнага адказу. А сама падумала: "Так ужо і не ведаюць. Ведаюць, а сказаць не хочуць. Можа, кепскае што, дык не хочуць хваляваць..."

Не спалася. Яна перабрала ўсё сваё жыццё: што б магло зацікавіць іх, карэспандэнтаў? Можа, што не так зрабіла дзе? Дык не ж, здаецца, увесь час жыла сумленна, не шкодзіла. А можа, дзе і праштрафілася? Хіба ўсё ацэніш, хіба ўсё ўспомніш? Хаця, пачакайце! У вайну кватараваў у іх нямецкі афіцэр, то можа за гэта? І сёння, бывае, жартуюць землякі, калі вёску залівае дождж альбо часта надаюцца навальніцы: гэта таму, што Яна брала з немца квартплату, вось і помсціць той. А мо і сапраўды немец вырашыў пацікавіцца, як жыве яна, чым займаецца? Немец быў акуратны, спагадлівы і чуллівы: калі яе малодшы брацік раскруціў "цацку", якую прыняў за ручку, і параніўся, то ён адразу ж адвёз яго ў бальніцу, дзе нямецкія ўрачы зрабілі хлопчыку аперацыю і выратавалі руку.

Прыгадвалася шмат што. За яблыні, якія ссек яе муж, калі не было чым плаціць падаткі, а трэба было за кожнае дрэва хоць душу аддаваць, не павінны ўспамінаць. За даўнасцю. Ды і мужа няма — на кладах стары, хоць яна тады і павісла ў яго на руцэ з занесенай сякерай: не чапай яблыні, як-небудзь выкруцімся. Не паслухаўся. Мужык у яе быў з характарам, не піў і не курыў, а не стала чалавека, бо рана прывязалася да яго хвароба.

Дзеці, можа, набедакурылі? Ды не, не павінны, яны самастойныя людзі. Дачка ў Мінску жыве, сын — у Гомелі. Звалі яе да сябе, але яна не асмелілася пакідаць наседжанае гняздо. Хоць і нявыкрутна бывае іншым разам — старасць цётка кепская, асабліва вачам рады не дасць. Яна так і задумала сказаць карэспандэнтам: "А як жывецца? Вочы зусім не бачаць. Хаджу бліжэй да сцяны, да паркана... Вобмацкам".

Карэспандэнты, хлопец і дзяўчына, былі з тэлекамерай, а з імі і старшыня сельсавета. Яны і сапраўды пацікавіліся пра жыццё. Яна разгубілася, але не забылася сказаць пра вочы. Яна толькі помніць, што ёй прынеслі пісьмо ад старэйшага брата, які не вярнуўся з вайны. Сказалі, гэтае пісьмо брат адправіў ажно ў тысяча дзевяцьсот сорак першым годзе, аднак усю карэспандэнцыю тады захапілі немцы, і яна знаходзілася доўгі час у музеі ў Аўстрыі, і вось цяпер вырашылі аўстрыйцы вярнуць лісты іх адрасатам. Больш блізкай радні, чым Яна, у раёне не было, і пісьмо вырашылі ўручыць ёй. Яна ўзяла тое пісьмо, рукі трэсліся, баялася, каб не ўпусціць яго, і забылася нават падзякаваць. Толькі папрасіла, каб прачыталі, што ён, брат, там напісаў...

Сярод тых, каму перадаваў франтавое прывітанне брат, было і яе імя...

2

Яна мала жыла адна, калі не браць у разлік кароткі прамежак часу перад з'яўленнем у хаце новага мужа. Муж — гэта, відаць, гучна сказана. Дакладней — мужчына, у якога жонка альбо памерла, альбо выгнала прэч: чым з такім абібокам жыць, лепш як-небудзь адной. Яна падбірала, не грэбавала "абібокамі", а жонцы, кажуць, у такіх выпадках казала дзякуй і абяцала абавязкова яго перавыхаваць. "На маіх працэдурах усе лечацца", — гаварыла не без гонару землякам. Тыя ведалі, нягож: тры агароды мае баба, поўны двор жыўнасці, там не залянуеш. І яшчэ цікава было землякам: навошта ёй, адзінокай, такая вялікая гаспадарка?

На маёй памяці такіх мужчын у яе было пяцёра. Апошні, Косцік, ніколі не браўся шлюбам раней, жыў бабылём да сівых валасоў з маці, а як тая памерла, яго і падабрала Яна. Косцік — адзіны яе прыёмны мужчына, якога яна сама папрасіла, каб ішоў у сваю стылую і галодную хату: тыя ж першыя пайшлі з жыцця самі. На тое была прычына — Косцік, бандыт, украў ажно пятнаццаць тысяч рублёў, а такое беспакарана ў яе не праходзіла. "Хочаш выпіць, дык у чым справа? Ці ж не частую, ці ж я не кармлю? Але красці — Божа ўратуй!.." Яна і сапраўды добра карміла і не шкадавала ім, мужчынам, віна. Чым, зразумела, і трымала іх каля сябе. Мёртва трымала.

Найбольш доўга жыў з ёй прымак з Расіі Лявонцій. Калі ён прыбіўся, Яна жыла ў старэнькай — няйначай на курынай ножцы — хатцы, а чалавек стрэўся ёй з залатымі рукамі, мог і слясарыць, і сталярыць. Ён і паставіў неўзабаве на агародзе новы, як звон, дом. Зрабіў прыгожыя аканіцы. Заасфальтаваў двор. Адным словам, жыві ды радуйся. Аднак мелася ў чалавека сур'ёзная загана — як перабярэ гарэлкі, тады ўцякай з хаты. Што Яна і рабіла. Ратавалася ж не заўсёды — кулакі прымаковы даганялі ўсюды. Колькі можна было цярпець? А прагнаць як прагоніш: хату ж ён зрабіў, не падступішся — прычына, што ні кажы, важная. Так і жыла Яна, пакутніца. Ды і заступіцца не было каму: сама ж бяздзетная, а пляменнікі, якія жывуць у горадзе ды ў суседнім сяле, прыязджалі толькі на свежыну ды на гародніну, а ў такія хвіліны прымак быў — сама светласць.

Неўзабаве Лявонцій пачаў кволіцца на здароўе, а затым і сканаў. Кажуць, быццам, хварэючы, прасіў крычма: "Ратуй, жонка! Лепшых дактароў наймай! Не шкадуй грошай! Чуеш?" Яна чула, не глухая, а сама, вядома ж, прасіла Бога, каб хутчэй той пазбавіў яе ад такога праклятушчага жыцця. Гэта пазней сусед раскажа, як прымак вырашыў пачаставаць яго віном, запрасіў у хату. А Яна, убачыўшы ў суседа поўную, да краёў, шклянку, выбіла яе з рукі. Не, Яна не прызналася вяскоўцам, што падлівала ў віно саляную кіслату... Па кроплях... Каб нічога не зразумеў... Але людзі не былі б людзьмі, каб не здагадаліся пра гэта. Яны яшчэ тыя следчыя, людзі. Адны асуджалі яе, іншыя, наадварот, хвалілі: так яму, вырадку, і трэба.

Нядаўна яе не стала. Без Косціка пражыла Яна месяц. Пляменнікі пахавалі цётку па ўсіх правілах. Справілі памінкі. А потым дзве ночы ў хаце гарэла святло — сваякі шукалі грошы. Знайшлі, прызналіся, дваццаць адзін мільён. Падзялілі. Надзвычай хутка прадалі жыўнасць і хату. А Косцік, праходзячы міма знаёмага двара, успамінае, як сытна было яму ў гэтай цёткі... "І навошта браў тыя грошы! Жыў жа, як пры камунізме..."

3

На імянінах было весела, па-хатняму ўтульна. Яна, віноўніца ўрачыстасці, сядзела на куце, пад абразамі, прыгожая і такая абаяльная, што мала б хто сказаў, што сёння ёй споўнілася столькі год. Віншаванні сыпаліся на кабету з усіх бакоў, людзі хвалілі жанчыну за гасціннасць, дабрыню і вернасць мужу. Хто-хто, а яны ўсё бачаць, усё ведаюць. Яе мужу было прыемна слухаць такія словы пра жонку, і ён вяртаўся назад, у далёкае мінулае...

Было гэта на пачатку шасцідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя, калі ён вучыўся ў Маскве на апошнім курсе ў інстытуце. Вось там упершыню і сустрэў яе, кволенькую, з пасмачкай русявых валасоў, што звісала раз-пораз на лоб, і яна тут жа папраўляла іх тонкімі пальчыкамі, не зводзячы з яго дапытлівага, па-дзявочы пранізлівага і наіўнага позірку. Яны сустрэліся ўсяго некалькі разоў, і яму пара было дадому ў Беларусь, а потым па размеркаванні ў г. Петрапаўлаўск Казахскай ССР. Здавалася б, разбегліся сцежкі-дарожкі. А не. Яна ведала толькі горад, куды паехаў чалавек, у якога закахалася з першага позірку. Так сталася, што Яна не запісала нават адрас... А дзявочае сэрца прагла кахання. І Яна адважылася на пошук свайго любага. Сказала бацькам, што едзе ў Петрапаўлаўск да каханага. Каб не трывожыліся. Каб не шукалі. Вядома, бацькі спярша заўпарціліся, паднялі крык-гвалт, а потым зразумелі яе, дачку, далі дазвол. "Едзь. Што з табой паробіш? Толькі звані, як і што", — папрасілі яны.

Сёння Яна і сама здзіўляецца такому свайму кроку — трэба ж было адважыцца паехаць у белы свет. У кішэні ні адраса, ні прадпрыемства, на якім будзе працаваць каханы. Ды і наогул, ці паехаў ён па размеркаванні, можа, махнуў рукой і застаўся дома? Усялякае ж магло быць.

Думаў, відаць, пра яе і ён, бо як магло так атрымацца, што ўвечар выглянуў з акна на двор, на якім шалёна гуляла завіруха, і ўбачыў дзяўчыну, падобную да яе... Яна тупацела боцікамі, захінуўшыся ад сівера рукавом: саграваецца. Адразу мільганула думка: "Яна?! Не, не, адкуль Яна можа тут узяцца? Ці не памроілася мне?" І ён выпырхнуў, у чым быў, з інтэрната на двор... То была Яна! Дзівосы, дый і толькі. Пазней ён прызнаўся: вельмі таксама шкадаваў, што не ўзяў яе адрас. А на пытанне, як ты мяне знайшла, Яна тады пакруціла галавой, прызналася: "Я і сама не ведаю".

Там жа, у Петрапаўлаўску, у іх нарадзілася двое дзяцей. Пазней паехалі ў Беларусь, пабудавалі дом, прычакалі і трэцяе дзіцё, а як жывуць — пра тое ўсе, хто не ведаў, маглі пачуць на імянінах.

Яе, дарэчы, муж пяшчотна, ласкава называечасам "Масквічка мая". Толькі, прызнаўся мне неяк, ніводнага разу не папытаў у жонкі: ці сумуе па белакаменнай? Усё збіраецца зрабіць гэта, аднак Яна пакуль не дае падстаў... Калі ж увесь час вясёлая, радасная... Таму яно і так усё зразумела.

4

Звычайна ўвесну і восенню Яна стаяла каля ўвахода ў прыгарадныя касы чыгуначнага вакзала і прапаноўвала дачнікам саджанцы пладовых дрэў. Там я і сустрэў яе. Але падышоў, каб павітацца, не адразу — не хапала духу: ведаў, якія высокія пасады займала раней, то як адрэагуе, калі заспею яе за такім вось заняткам? Ці варта лезці на вочы? Усё ж аднойчы набраўся смеласці. Яна, убачыўшы мяне, і сапраўды адразу ўся запунсавелася, крыху нават разгубілася, адчула сябе няёмка... Ёй у той момант, падалося мне, перашкаджалі саджанцы, Яна не ведала, куды іх падзець. Замітусілася, паглядала то на мяне, то на дрэўцы. Трэба ж так сустрэцца! Я заўважыў гэта і пастараўся суцешыць яе, а калі адыходзіў, набыў для сваёй дачы саджанцы яблыні і грушы.

Яна — мая аднакласніца, высокая, прыгожая. Вучылася добра, таму школу закончыла без троек, а ў інстытут народнай гаспадаркі не паступіла. На другі год пабаялася ісці туды зноў, паехала ў Горкі, паспяхова здала ўступныя экзамены ў акадэмію, пасля чаго атрымала размеркаванне ў мой абласны горад. Сустракаліся мы рэдка, хоць і жылі паблізу. Неяк не атрымоўвалася.

Прыехаўшы на дачу, я адразу ж пасадзіў саджанцы, што набыў у аднакласніцы. Тады ж і пашкадаваў, што забыўся сказаць ёй самыя галоўныя словы, якія трэба было сказаць: "Сёння ты, як і раней, да выхаду на пенсію, робіш не менш карысную справу — дапамагаеш людзям стварыць прыгажосць вакол сябе. Не саромся гэтага, мая аднакласніца. Будзь вышэй за абставіны".

Скажу абавязкова.

5

У гэтым раённым цэнтры Яна з'явілася адразу пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Быў спякотны месяц чэрвень, яе прывёз выпадковы стрэчны — мажны і прыгожы хлапчына на "ЗІЛе". Хлапчына працаваў ад цямна да цямна, а яна чакала яго ў гасцінічным нумары, а пасля кахаліся амаль усю ноч. І калі толькі той адпачываў? А потым Яна шафёру здрадзіла, пакахала мужчыну больш лёгкай прафесіі, які амаль увесь час таксама, як і Яна, праводзіў у гасцінічным нумары, быў суседам: нешта друкаваў на машынцы, а потым насіў паперы на пошту і адпраўляў іх па адно яму вядомым адрасе. Шафёр, мабыць, падумаў, што Яна ўцякла ад яго, а таго не ведаў, што дзяўчына кахаецца з іншым за сцяной. Потым і той пісар, і шафёр з'ехалі, а Яна працягвала жыць у гасцініцы. Спадабалася. Пра гэта ведалі ў адміністрацыі, аднак нічога не рабілі: было не да яе, дзяўчыны. А яна пераходзіла з рук у рукі, яе кармілі і паілі, магчыма, і апраналі.

Так жыла яна ў гэтым гарадку амаль паўгода. З якой прычыны Яна з'ехала, ніхто не ведаў. Магчыма, сама зразумела, што прымільгалася тут усім, трэба змяніць, не інакш, месца працы.

Пра яе мне расказала работніца той самай гасцініцы, дзе жыла Яна. І, абураючыся, паказала газету, у якой паведамлялася, што Яна згубіла пасведчанне ліквідатара аварыі на Чарнобыльскай АЭС і таму прасіла лічыць яго несапраўдным...

# Візуальныя паралелі

## Упершыню ў Беларусі: санкт-пецярбургская выстаўка кніжнай графікі “З калекцыі выдавецтва «Вита Нова»”.






***На знаёмства з мастацкай экспазіцыяй элітнага расійскага выдавецтва пашанцавала двум гарадам. Амаль месяц пагасцявала яна ў нашай сталіцы і цяпер перамясцілася ў выставачныя залы Віцебска. Чытачы “ЛіМа” збольшага ведаюць пра саму падзею. А хтосьці з іх спадобіўся і на ўласныя вочы ўбачыць створанае пад брэндам “Вита Нова” ці хоць бы зазірнуць у каталог кніг, выпушчаных гэтым выдавецтвам за першае дзесяцігоддзе яго дзейнасці (з 2000-га па 2009-ы). Вось і мне давялося да выбітнай падзеі спрычыніцца: пабываць на вернісажы і на сустрэчы з піцерскімі гасцямі, пагартаць салідны каталог іх выданняў. Уражанне? Шык! І... шок. Прынамсі, з эфектам культурнага шоку прайшла прэзентацыя выстаўкі (а ў нейкім сэнсе — і выдавецтва “Вита Нова”) у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.***

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

Апроч больш як 300 кніжных ілюстрацый 59 вядучых сучасных мастакоў экспанаваліся ўнікальныя фаліянты з выдавецкай калекцыі ды экслібрысы, створаныя ў традыцыйных графічных тэхніках і спосабам арыгінальнага надглазурнага роспісу па фарфоры. І гэта была пераканаўчая дэманстрацыя найвысокага ўзроўню інтэлектуальнай, мастацкай, вытворчай культуры супрацоўнікаў выдавецтва “Вита Нова”, якое спецыялізуецца на малатыражных калекцыйных ілюстраваных выданнях сусветнай класікі, наогул — добрай літаратуры, у тым ліку сучаснай, дзіцячай, адмыслова — паэтычных зборнікаў, біяграфічных і літаратуразнаўчых кніг.

Майстроў беларускай кніжнай графікі, прысутных на сустрэчы з піцерскімі гасцямі, надзвычай уразіла вось што. Замаўляючы мастаку пэўную работу, “Вита Нова” выплачвае аванс і адразу пасля выхаду кнігі выдае ганарар, хай сабе і не надта вялікі паводле расійскіх мерак.

Некаторыя іншыя “дэталі” дзейнасці “Вита Нова” выклікаюць шчыры піетэт. Што маю на ўвазе, чытач зразумее, напрыклад, з кароткай інфармацыі пра кнігу “Жыццёвыя гледзішчы ката Мура”. Яе вытворца паведамляе: выданне надрукаванае ў колькасці 1300 экзэмпляраў, 100 з якіх вырабленыя ў пераплётах з чорнай скуры з трохбаковым залатым абрэзам і пранумараваныя, а экзэмпляры № 26 —100 змяшчаюць адзін арыгінальны афорт Міхаіла Гаўрычкава. Пасля лаканічнай анатацыі да самога рамана Э.Т. А. Гофмана сказана, што выданне суправаджаецца артыкулам І. Бэлзы (ён распавядае пра жыццёвы шлях Гофмана-музыканта і разглядае пранікненне музыкі ў літаратурную творчасць пісьменніка) і грунтоўнымі каментарыямі. Асобна зазначана, што ў кнізе ўпершыню публікуецца цыкл ілюстрацый да рамана, створаны спецыяльна для гэтага выдання мастаком М. Гаўрычкавым. Гартаючы каталог, знаходзіш там апісанне фаліянтаў з шыкоўных кніжных серый “Фамильная библиотека. Парадный зал”, “Фамильная библиотека. Героический зал”, “Фамильная библиотека. Будуар”, “Фамильная библиотека. Читальный зал”; “Рукописи” ды інш. Складаныя пераплёты з розных відаў натуральнай скуры, цісненне фольгамі. Ілюстрацыі, створаныя пад заказ, або рэпрадукцыі работ знакамітых заходнееўрапейскіх мастакоў мінулых эпох, у тым ліку кніжная графіка з рарытэтных выданняў, або ўнікальныя архіўныя фотаздымкі.

Як падкрэслівае генеральны дырэктар “Вита Нова” Аляксей Захаранкаў, асноўны прынцып дзейнасці выдавецтва ў тым, каб спалучаць акадэмічную падрыхтоўку тэкстаў з лепшымі традыцыямі кнігадрукавання. Тэксты вылучаюцца энцыклапедычнай выверанасцю, а ў іх афармленні выкарыстоўваюцца работы і класічных майстроў, і сучасных, нярэдка і замежных, мастакоў (як правіла, выдавецтва замаўляе ім цыклы ілюстрацый). “Справа не толькі ў тым, што ілюстрацыі з’яўляюцца самастойнай эстэтычнай каштоўнасцю, сувымернай з каштоўнасцю літаратурнага твора, — справа ў тым, што такая практыка сугучная галоўнай ідэі выдавецтва: кніга — татальны, абсалютны твор мастацтва — ад пераплёту да каментарыяў, ад ілюстрацый да самога тэксту. За 10 гадоў “Вита Нова” перарасло паняцце “выдавецтва”: цяпер гэта арт-праект, які аб’ядноўвае людзей самых розных мастацтваў”, — сцвярджае А. Захаранкаў.






Выстаўка сталася яскравай візуальнай падтрымкай яго слоў, паказаўшы, на якой вышыні знаходзяцца партнёрскія стасункі вытворцаў і мастакоў. Прадстаўленыя работы падаліся візуальнымі паралелямі свету літаратуры, у які ўжо раз пераканаўшы: каштоўнасць ілюстрацыі — не ў яе самадастатковасці, а ў адэкватнасці канкрэтнай кнізе. Добрая ілюстрацыя можа несці ў сабе і адмысловыя вонкавыя праявы філасофскіх алюзій, алегорый ці проста — трапныя зрокавыя вобразы, якія раскрываюць, падкрэсліваюць сэнсавыя глыбіні самога тэксту, падтрымліваюць яго змест... Вось чаму “Вита Нова” ўлучае ў свае праекты розныя мастакоўскія індывідуальнасці, адкрываючы ім — традыцыяналістам і авангардыстам, сімвалістам і рэалістам — прастору для творчасці, свабоду ў выбары спосабаў прачытання тэксту, заахвочваючы эксперыменты з фактурай і колерам, спалучэнне класічных і аўтарскіх тэхнік. (Напрыклад, лаўрэат прэміі “Человек книги” Святлана Філіпава, ілюструючы “Чавянгур” А. Платонава, скарысталася парашковай тэхнікай: шкло, змолатая кава, фатаграфія).

Кнігі выдавецтва ілюстравалі такія розныя і знакамітыя майстры, як Мюд Мечаў (Масква), Барыс Няпомняшчы (Ноўгарад), Міхаіл Шэмякін, Барыс Забораў (Парыж), браты Г. А. В. Траўгот (Пецярбург — Парыж), Ларэта Абашыдзэ-Шэнгелія (Тбілісі). А яшчэ — знакаміты мультыплікатар Юрый Нарштэйн, артдырэктар пецярбургскага Імператарскага фарфоравага завода Сяргей Русакоў, легендарны сцэнограф Эдуард Качаргін, найстарэйшы малдаўскі, а цяпер — піцерскі майстар Ілья Багдэска...

Выстаўка, якая сталася значнай падзеяй артжыцця Беларусі, выклікала і пачуццё шкадавання. Таму што кніг, якія і насамрэч уяўляюць сабою “татальны, абсалютны твор мастацтва” і захоўваюцца ў зборах Расійскай акадэміі мастацтваў, у Дзяржаўным Эрмітажы, няма нават у буйных бібліятэках нашай краіны.

*Як падзею ў культурным жыцці ўспрымае кнігі выдавецтва “Вита Нова” дырэктар Дзяржаўнага Эрмітажа, расійскі акадэмік Міхаіл Піятроўскі: “Па-першае, гэта добрая літаратура, па-другое — сур’ёзнае літаратуразнаўства, увасобленае ў грунтоўных цікавых каментарыях, што суправаджаюць тэксты, напісаныя заўсёды найбуйнейшымі спецыялістамі, па-трэцяе — добры густ, які выяўляецца не толькі ў мастацкім падборы ілюстрацый, калі прыярытэт аддаецца лепшым творам кніжнай графікі, але і ў стыльным афармленні кожнай кнігі, ці ёсць тое літаратурная класіка ці сучаснае літаратуразнаўчае альбо гістарычнае даследаванне”.*

***На здымках: экслібрыс выдавецтва “Вита Нова”(папера, туш, пяро) — работа Аляксандра Флярэнскага; уладальнік прыза “Залаты яблык” міжнароднай біенале ілюстрацый ў Браціславе піцерскі мастак Барыс Забірохін знаёміць беларускіх калег са сваімі літаграфіямі; малюнак Аляксандра Флярэнскага да кнігі Алега Грыгор’ева “Винохранитель” (папера, туш); ілюстрацыя Міхаіла Гаўрычкава да рамана Эрнста Тэадора Амадэя Гофмана “Жыццёвыя гледжанні ката Мура” (папера, туш, пяро).***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,**
**фота аўтара**

Дні культуры Беларусі ў Літве сталіся за апошні час самай буйной культурнай акцыяй нашай краіны ў замежжы. Сярод адметных падзей — выстаўка палотнаў класіка айчыннага жывапісу Вітольда Бялыніцкага-Бірулі з фондаў нашага Нацыянальнага мастацкага музея, канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі, мерапрыемствы, прымеркаваныя да 90-годдзя Беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея Івана Луцкевіча. Міністэрства культуры Беларусі праінфармавала нас пра візіт у Вільнюс міністра Паўла Латушкі. Там ён наведаў школу імя Францішка Скарыны з беларускай мовай навучання, дзе пры падтрымцы Дзяржаўнага літаратурнага музея Максіма Багдановіча ладзілася выстаўка да 120-годдзя з дня нараджэння паэта-класіка. У Нацыянальным гістарычным музеі Літвы П. Латушка азнаёміўся са станам захоўвання і ўключэння ў культурны ўжытак нашай краіны экспанатаў музея Івана Луцкевіча. І выказаў спадзеў, што літоўскія навукоўцы падтрымаюць і прапанову аднаўлення гэтага музея ў Вільнюсе, і праект сумеснай віртуальнай экспазіцыі каштоўнасцей былога музейнага збору, якія знаходзяцца сёння ў Беларусі і ў Літве.



Новы канцэртны сезон адкрыў Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор калектыву Яўген Бушкоў запрасіў для ўдзелу ў праграме расійскіх салістаў Фрыдрыха Ліпса (акардэон) і Святаслава Ліпса (фартэпіяна). Саліраваў на віяланчэлі наш Станіслаў Петчанка. Прагучала музыка В. А. Моцарта, С. Губайдулінай, Я. Падгайца, А. П’яцолы.

Экранным формам сучаснай японскай культуры прысвечаны новы праект Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва. Аўтар ідэі і куратар праекта “Сучасная культура Японіі: улюбёны погляд з Мінска” — малады дызайнер Ева Дзмітрыева правяла тут ужо 3-ю лекцыю з відэапаказам, захапіўшы аўдыторыю сучаснай японскай субкультурай анімэ. Усіх цікаўных лекторый збірае ў галерэі штомесяц.

Ураджэнцу Рэчыцы Анатолю Шчогалеву няма і 30, а на яго рахунку — шэраг выставак у беларускіх, расійскіх, польскіх гарадах, пастаянны ўдзел у міжнародных фестывалях “Славянскі базар у Віцебску”, “Дах”. Яго імя — у Адзіным рэйтынгу прафесійных мастакоў Расіі, а творы ёсць у розных зборах больш як 20 краін. Графіка, жывапіс, копіі сяброўскіх шаржаў, падораных зоркам эстрады і тэлебачання, фота, зробленыя “мабільнікам”, экспанаваліся на надзвычай мінскай выстаўцы А. Шчогалева “Творчы допінг” у БДУ фізічнай культуры.

***На здымку: В. Бялыніцкі-Біруля “Вясной павеяла” (палатно на кардоне, алей). 1945.***

# Эпоха Уладзіміра Крука



## Экспромт з нагоды

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Віктара Кавалёва

**Сімвалічна, што прэзентацыю альбома Уладзіміра Крука "На фотахвалях памяці" наладзіў менавіта Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Сімвалічна і тое, што прымяркоўвалася падзея да Дня работніка культуры. Бо дзе яшчэ, як не ў гэтым гасцінным Доме муз, і калі яшчэ, як не з нагоды такога прафесійнага свята, магла адбыцца кранальная сустрэча вельмі розных (у большасці нават не знаёмых між сабою) людзей, паяднаных праз творчасць вядомага майстра, які без малога паўстагоддзя вёў фоталетапіс беларускай культуры, нашага літаратурнага жыцця, ствараючы ўнікальны партрэт айчыннай творчай інтэлігенцыі!**

**Летам наступнага года** з дня нараджэння Уладзіміра Крука споўніцца восемдзесят пяць. А крыху раней, у лютым, адзначыць сваё васьмідзесяцігоддзе "ЛіМ" — наша газета. Яго газета. Дарэчы, лімаўцам Уладзімір Андрэевіч стаў акурат шэсцьдзесят гадоў таму, калі пасля дэмабілізацыі з вайсковай службы прыехаў у Мінск і ўладкаваўся працаваць шафёрам у рэдакцыю "ЛіМа". А заняцца ў вольны ад працы час фатаграфіяй ды браць з сабою камеру ў рэдакцыйныя камандзіроўкі яго прыахвоціў легендарны майстар, патомны беларускі фатограф І. Салавейчык, які працаваў у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" з 1952 па 1960 год...

І зноў знамянальныя даты: першая публікацыя здымка, зробленага творча адораным лімаўскім кіроўцам, з'явілася амаль шэсць дзясяткаў гадоў таму — у 1952-м, а яшчэ праз пяць гадоў У. Крука, якому споўнілася трыццаць, прынялі ў творчы калектыў рэдакцыі — на працу фотакарэспандэнта. Праз яшчэ два дзесяцігоддзі лімаўцы віншавалі Уладзіміра Андрэевіча з залатым юбілеем. За вялікім бяседным сталом у Доме літаратара сабраліся тады не толькі супрацоўнікі рэдакцыі, а героі ды аўтары нашых публікацый: пісьменнікі, вядомыя ўсім са школьных хрэстаматый, шаноўныя дзеячы культуры. Апынуўшыся ў гэтай вялікай кампаніі, я спачатку адчула сябе ніякавата: у "ЛіМе" працавала толькі тры месяцы, ні сярод калег, ні сярод гасцей урачыстасці маіх раўналеткаў не было. Але з тым большай цікавасцю ўспрымалася шчырасць і мудрая дасціпнасць гэтых розных людзей, многія з якіх маглі не проста прылічыць сябе да знаёмцаў У. Крука, але і падзяліцца радасцю сяброўства з ім. Столькі ўхвальных слоў, па-народнаму сакавітых каламбураў, добрых жартаў адрасавалі яны "Валодзю", "Кручочку", "Кручышчу"!..

У гісторыі "ЛіМа" засталася яго фоталабараторыя — цесняваты пакой за жалезнымі дзвярыма, з вечнай "святламаскіроўкай" на акне і пачэпленымі да шнурочкаў, як бялізна для прасушкі, праяўленымі негатывамі. Лабараторыя Уладзіміра Андрэевіча запомнілася некалькім пакаленням лімаўцаў: тут быў і хлебасольны дом, і спавядальня, і дыскусійны клуб, і творчая кухня, і штаб рэдакцыі. Час-почас дзверы гэтага пакоя былі расчыненыя; высока пад столлю няярка гарэла лямпачка, элегантны маладжавы гаспадар углядаўся ў яшчэ цёплую адглянцаваную картку, сталёвым нажом разака адсякаў лішняе і ставіў на яе адваротным баку кароткі немудрагелісты аўтограф — літаральна адным росчыркам пяра. А ў газеце з'яўляўся подпіс: "Фота Ул. Крука". Гэтае неўнармаванае "Ул." было прынцыповай прывілеяй Уладзіміра Андрэевіча. Маўляў, каб ведалі — не блыталі: здымак "у" Крука ёсць, але сам здымак — работа "Ул." Крука.




**Змяняліся галоўныя рэдактары** — ён заставаўся ў сваёй легендарнай лабараторыі. Але аднойчы У. Крук пайшоў з "ЛіМа" ў часопіс "Тэатральная Беларусь". І пачалося... Рэдакцыя доўгі час не магла знайсці адэкватную замену. На працу фотакарэспандэнта да нас уладкоўваліся энергічныя і амбітныя маладыя людзі, далёкія ад літаратурнага жыцця, ад сферы мастацтва. На творчых пленумах, музычных вечарынах, кніжных прэзентацыях, у тэатральным закуліссі іх трэба было літаральна вадзіць за руку, паказваючы, хто ёсць хто, каго трэба здымаць. А Уладзімір Андрэевіч ведаў нацыянальную інтэлігенцыю, таленавітую творчую моладзь, што называецца, у твар, шукаў і знаходзіў цікавыя моманты кулуарных стасункаў, рабіў выразны стоп-кадр жывой гаворкі, ніколі не бегаў па аддзелах, удакладняючы, каго ж урэшце ўвекапомніў на сваім здымку. Некалькі гадоў таму ён нават "паправіў" шаноўны архіў, з якога нам даслалі здымак, патлумачыўшы, што гэта партрэт С. Аксакава, беларускага кампазітара першай паловы XX ст., зроблены У. Крукам. Пасля той публікацыі фотамайстар прыехаў у "ЛіМ" і далікатна заўважыў, што гэта, па-першае, не Аксакаў, а па-другое, не ім, Крукам, зроблены здымак. Аксакава яму і насамрэч давялося фатаграфаваць (як і Якуба Коласа ў 1953-м). Змясціўшы сапраўдную фотавыяву кампазітара і караценькі каментарый, мы выправілі міжвольную памылку...

**Ён пайшоў з "ЛіМа"**, забраўшы ўвесь рэдакцыйны фотаархіў: адбіткі, негатывы. Тагачаснае наша кіраўніцтва, пры ўсёй сімпатыі да Уладзіміра Андрэевіча, абуралася: маўляў, не ягоная ж гэта ўласнасць, і не за свой кошт фотаматэрыялы набываў, а як нам без фотатэкі працаваць... Але час пераканаў: гэта быў па сутнасці адказны і прадбачлівы ўчынак сапраўднага гаспадара неацэннай інтэлектуальнай уласнасці. Бо вядома, што здарылася з фотаархівамі іншых выданняў пасля іх рэарганізацыі, блуканняў па розных адрасах, пераходу на камп'ютары і "лічбы". Многія найцікавыя дакументы айчыннай гісторыі згінулі незваротна — у кошыках для папяровага смецця... А Уладзімір Андрэевіч ці не да апошняга дня свайго жыцця выручаў, і не толькі нашу рэдакцыю, сваімі рарытэтнымі здымкамі.

Апроч неацэннага архіва дакументальна-мастацкіх здымкаў ён сабраў найкаштоўную калекцыю фотапартрэтаў вядомых літаратараў, артыстаў, музыкантаў, мастакоў ды "падгледжаных" пільным рэпарцёрскім аб'ектывам будзённых і ўрачыстых імгненняў іх жыцця, — з аўтографамі, з адрасаванымі яму словамі падзякі, эмацыянальнымі каментарыямі, дасціпнымі вершаванымі радкамі. Некалькі гадоў таму Уладзімір Андрэевіч зрабіў выбарку з такіх фотаздымкаў і заняўся складаннем свайго першага аўтарскага альбома. Але ўвасобіць задуманае ужо не паспеў... Распачатую працу годна завяршылі яго дочкі: дзякуючы ім альбом У. Крука "На фотахвалях памяці" не так даўно, накладам 80 экзэмпляраў, выпусціла ў свет мінскае ТАА "Артыя Груп".

Густоўны, стыльны, элегантны, лаканічны чорна-белы альбом. Колішняе лімаўскае асяроддзе: Пімен Панчанка, Нічыпар Пашкевіч, Таіса Бондар, Алесь Пісьмянкоў, Мікола Гіль, Раіса Баравікова, Алесь Марціновіч, Галіна Каржанеўская... Класікі: Максім Танк, Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Янка Маўр, Васіль Вітка, Андрэй Макаёнак, Язэп Семяжон, Іван Чыгрынаў, Ніл Гілевіч, Яўгенія Янішчыц, Уладзімір Караткевіч (апроч фота змешчаны сяброўскі шарж на самога У. Крука, зроблены пісьменнікам ва ўласным блакноце падчас адной імпрэзы і падораны фотамайстру). Паэт-песеннік Адам Русак, "бацька народнага хору" Генадзь Цітовіч, кампазітары Мікалай Аладаў, Уладзімір Алоўнікаў, мастак Арлен Кашкурэвіч, тэатразнаўца Анатоль Сабалеўскі, народныя артысткі БССР Марыя Захарэвіч, Зінаіда Бандарэнка, кінарэжысёр Віталь Чацверыкоў... Оперная легенда — Ларыса Александроўская, якая пакінула свой аўтограф "Фокусніку, які ўмее фатаграфаваць старэнькіх, як маладых". І светлы душою, незабыўны рамантык і вучоны Алег Лойка, які сваё захапленне майстэрствам У. Крука выказаў у прыгожым параўнанні: "Ці не ўнук Скарыны Крук/ Пекніць беларускі друк..."

**Падчас прэзентацыі** ў музеі вядучыя імпрэзы, пераўвасобіўшыся ў старажытнагрэчаскіх муз, выклікалі з залы ганаровых гасцей і ўручалі альбом. Паэты, празаікі, якім давялося працаваць разам з яго аўтарам, бываць у супольных творчых вандроўках... Хтосьці сам атрымаў гэтую кранальную часцінку неахопнага крукаўскага фоталетапісу. Але пераважалі сярод ганаровых гасцей блізкія людзі вядомых і незабыўных творцаў: удовы, дзеці, унукі, сваякі. Іх паяднала асоба Уладзіміра Андрэевіча, беларускага інтэлігента, далікатнага чалавека, які стаў сваім, амаль родным у многіх творчых сем'ях. Пра тое, што выданне альбома — яскравы прыклад пераемнасці пакаленняў, трапяткога стаўлення нашчадкаў да культурнай спадчыны, шанавання дзецьмі бацькоўскіх духоўных запаветаў і традыцый, гаварылі прадстаўнікі сем'яў Міхася Лынькова, Кандрата Крапівы, Івана Мележа, Адама Русака... І ўсе пагаджаліся на думцы, што першы альбом трэба ўспрымаць як толькі пачатак вялікай справы прапаганды творчасці Уладзіміра Крука — праз наступныя выданні, праз пастаянныя экспазіцыі ў рэгіянальных краязнаўчых музеях, у школах. Праз яго фотаздымкі пазнаеш Беларусь.

***На здымках: Уладзімір Крук; вокладка альбома "На фотахвалях памяці".***

# Прэмія — з будучыняй!

Лана ІВАНОВА

**Галоўная інтрыга тэатральнага тыдня краіны прывяла да ўрачыстай развязкі: 10 кастрычніка на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, у атмасферы святочнай і афіцыйнай, былі абвешчаныя вынікі беспрэцэдэнтнага конкурсу. Першага ў гісторыі айчыннага мастацтва творчага спаборніцтва за Нацыянальную тэатральную прэмію.**

Нагадаю, што заснаваная прэмія Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь сумесна з Беларускім саюзам тэатральных дзеячаў, Беларускім саюзам кампазітараў ды Беларускім саюзам літаратурна-мастацкіх крытыкаў з мэтай падтрымкі айчыннага тэатральнага мастацтва і заахвочвання тэатральных дзеячаў, што паказалі найбольш яркія вынікі сваёй творчай працы на працягу 2009 — 2010 гадоў. Генеральным партнёрам новага праекта выступіў "Альфа-банк". У конкурс уключылася 27 прафесійных тэатральных калектываў краіны, але кампетэнтная адборачная камісія дапусціла да фінальнага паказу толькі 12 спектакляў (спіс намінантаў публікаваўся ў мінулым нумары "ЛіМа"). Іх і ацэньвала "Беларуская тэатральная акадэмія" — журы, у склад якога ўвайшло 112 спецыялістаў — прадстаўнікоў сцэнічнай творчасці, музычнай сферы, літаратурна-мастацкай крытыкі. Свае выніковыя адзнакі спадары суддзі ўнеслі ў бюлетэні пасля прагляду апошняга спектакля-намінанта. У панядзелак урна з іх "галасамі" была ўскрыта падліковай камісіяй, і ўвечары адбылася цырымонія ўзнагароджвання пераможцаў.

Дарэчы, гэта была не "пратакольная" ўрачыстасць, а яскравая музычна-тэатральная імпрэза — з шэсцем вядомых артасобаў да параднага ўваходу ў Вялікі тэатр па рытуальнай чырвонай дывановай сцежцы, з паказам на яго сцэне самых відовішчных ансамблевых фрагментаў з оперных і драматычных твораў...

Аднак хто ж стаў лаўрэатам Нацыянальнай тэатральнай прэміі?

Фаварытам журы аказаўся... "Не мой" (п'еса Алены Калюновай і Аляксандра Гарцуева паводле аповесці Алеся Адамовіча "Нямко", увасобленая Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы). Найбольшая колькасць узнагарод. Прызнанне ў намінацыях "Лепшая сучасная беларуская пастаноўка" — для сучасных драматургаў і (або) рэжысёраў, якія стварылі пастаноўку паводле твора сучаснага беларускага аўтара; "Лепшая работа мастака-пастаноўшчыка" (сцэнаграфія, касцюмы — Барыс Герлаван, Алена Ігруша); "Лепшае музычнае афармленне спектакля" (кампазітар Алег Хадоска); "Лепшая жаночая роля" — Святлана Анікей. Да таго ж "Не мой" разам з пастаноўкай оперы Дж. Вердзі "Набука" Вялікага тэатра падзяліў лаўры ў намінацыі "Лепшы беларускі спектакль". Як "Лепшая рэжысёрская работа" адзначана пастаноўка Аляксея Ляляўскага "Драй швестэрн" паводле "Трох сёстраў" Антона Чэхава ў Беларускім дзяржаўным тэатры лялек. За "Лепшую мужчынскую ролю" ганараваны Павел Харланчук (спектакль "№13" паводле Рэя Куні Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм").

Апроч таго, выдатным майстрам айчыннай сцэны, народным артыстам Беларусі і СССР Тамары Ніжнікавай, Генадзю Аўсяннікаву, Валянціну Елізар'еву, Расціславу Янкоўскаму былі ўручаны спецыяльныя ўзнагароды Міністэрства культуры краіны за ўнёсак у тэатральнае мастацтва Беларусі.

Падчас урачыстай цырымоніі міністр культуры Павел Латушка вызначыў праведзены конкурс як унікальную магчымасць пераканацца ў тым, што беларускі тэатр высокапрафесійны, сучасны, запатрабаваны гледачом. А гэта значыць, што ў Нацыянальнай тэатральнай прэміі, на думку міністра, ёсць будучыня.

Васіль ШЫРКО

**У шостым класе я захварэў на запаленне лёгкіх. Бацька на кані (маршрутныя аўтобусы тады не хадзілі) адвёз мяне ў Уздзенскую раённую бальніцу. Дзякуй Богу, пеніцылін быў не ў дэфіцыце, і немач пакрысе адступала. І вось тады тата разам з каўбасой, марынаванымі грыбамі і варэннем прынёс мне некалькі кніг. Сярод іх — таўшчэзны раман Ільі Гурскага "У агні".**



# Праз агонь

Не спяшаючыся (балазе, часу вольнага хапала) я адгарнуў першую старонку кнігі, пасля другую і забыўся пра ўсё на свеце. Дзень праляцеў, як адна хвіліна. Не памятаю, што еў, як давалі ўколы сёстры, пра што гутарылі суседзі па палаце. Сварлівыя Даўгалевіч і Караткевіч здаваліся казачнымі героямі. Для іх знішчыць роту немцаў — што раз плюнуць. Ат ведама, прыдуркаватыя: амаль гадзіну смаляць з гармат па пустым лесе, дзе даўным-даўно няма партызан.

Праз шмат гадоў мне, зноў жа выпадкова, трапіла ў рукі кніга пляменніка Ільі Данілавіча — Васіля Гурскага. Яна была таксама пра вайну. І чымсьці, дальбог, нагадвала шапказакідальныя творы яго дзядзькі. Штосьці накшталт: і тады радавы такога-та палка, дывізіі ордэнаў Суворава і Кутузава другой ступені адважна кінуўся ў атаку, а натхнёныя яго прыкладам яфрэйтар Сідараў і сяржант Кабылін не далі маху, бо іх дывізія мела не менш ордэнаў, чым у радавога, а ступень не другую, а, чорт вазьмі, першую. Я прыкінуў: калі выкінуць гэты пералік назваў палкоў, дывізій, сцягоў, то кніга на траціну стане танчэйшай. Да таго ж, напісана яна на кепскай рускай мове: ні добрых эпітэтаў, ні выразнага дыялогу. Адным словам, я залічыў тады Васіля Гурскага, мякка кажучы, у дужа слабыя літаратары. І калі мне патэлефанаваў мой старэйшы сябра, зямляк, цудоўны драматург, светлы чалавек Алесь Махнач і прапанаваў даць рэкамендацыю для прыёму ў Саюз пісьменнікаў Гурскаму, я адмовіўся, пра што і сёння шкадую. Васіль Рыгоравіч напісаў пасля нямала праніклівых, цікавых і, ці не галоўнае, праўдзівых аповесцей, апавяданняў, нарысаў пра вайну і прыроду Уздзеншчыны, салаўінага куточка зямлі беларускай, якая дала краіне такіх слынных пісьменнікаў, як Фадзей Булгарын, Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Пятро Глебка, Антон Бялевіч, Алесь Пальчэўскі, мой аднавясковец Алесь Якімовіч! Вось дзе даўно пара правесці чарговы Дзень беларускага пісьменства!

Васіль Гурскі нарадзіўся ў вёсцы Замосце, зрэшты, дзе і яго знакаміты дзядзька Ілья. Выключны выпадак: два літаратары з адной вёскі — дзіва, а тут два з адной хаты!

Аднойчы (яшчэ за бальшавікамі) мяне з групай пісьменнікаў запрасілі ў Магільнянскую СШ імя Ільі Гурскага на сустрэчу з вучнямі. Да той сустрэчы заставалася некалькі гадзін, і мне захацелася прайсці па сцяжынах і дарогах, якімі хадзілі дзядзька і пляменнік Гурскія. Тым больш мае калегі па часопісе "Полымя" кінуліся збіраць грыбы.

Каля Замосця я вылез з машыны. З прыгорка ўбачыў некалькі дзясяткаў хат. Вёска здавалася залатой ад мноства ярка-жоўтых вяргінь, а яшчэ нейкай па-асеннняму ціхай і зажуранай. А вось і старое рэчышча Нёмана, побач лес. Адсюль родам маці цудоўнага паэта Анатоля Астрэйкі.

Вось тут, магчыма, па гэтым лузе, уздоўж рыбнай старыцы, з торбай праз плячо хадзіў падпаскам Ілья, а пасля і яго пляменнік Васіль. Міжволі ўспамінаю дзіцячую лічылку: "Кацілася торба з высокага горба, а ў той торбе хлеб, мука, пшаніца, з кім жадаеш, з тым дзяліся!" Гурскія дзяліліся з чытачамі светлым гумарам, невыказнай радасцю ад любові да жыцця. Нялёгкім быў іх шлях, але і адзін, і другі пісалі заўсёды аптымістычныя творы.

Васіль пасля Магільнянскай сямігодкі паступіў у Мінскае педагагічнае вучылішча, якое закончыў у 1941 годзе, перад самай вайной. Ён не раздумваў, ісці ці не ісці ў партызаны. Быў у атрадзе імя Чапаева стралком, кулямётчыкам, падрыўнікам, памочнікам камісара, а з сорак чацвёртага года стаў чырвонаармейцам.

Васіль Рыгоравіч усё жыццё настаўнічаў, родных мясцін не пакідаў, хоць была магчымасць, і жыве сёння ў вёсцы Стальбоўшчына, дзе вучыў дзяцей разумнаму, добраму, вечнаму. Надзвычай гасцінны, вясёлы, ён не зважае на хваробы, малады душой. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец нярэдка распавядае пра сваю першую сустрэчу з Васілём Гурскім, які сыграў яму на… піле, расказаў нямала анекдотаў і незвычайных гісторый, звазіў да гэткага ж, як і сам, сябра.

Мне ж згадалася размова з Аляксандрам Труханам, дырэктарам таварыства паляўнічых і рыбаловаў Уздзеншчыны.

— А Васіль Гурскі, мой калега па літаратурным цэху, яшчэ ходзіць на паляванне? — запытаўся я ў Трухана.

— Мысленна з намі, — усміхнуўся Аляксандр Васільевіч. — Яму праз год дзевяноста, больш "палюе" ў кнігах. Яго "Разумная казуля" вядома ўсім у раёне. Хто верыць у прыгоды, апісаныя Гурскім, хтосьці сумняваецца ў іх праўдзівасці, але чытаюць захлёбваючыся. Быццам наяве бачыш, як казуля ідзе да людзей і вядзе іх да свайго дзіцяці, якое трапіла ў пастку. А хітры дзік, мудры заяц? Яны з намі.

Мне ж згадваецца, як старшыня СПБ М. Чаргінец, адкрываючы з'езд, першаму даў слова майму земляку Васілю Гурскаму, старэйшаму літаратару Беларусі, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны, партызану, франтавіку, Настаўніку з вялікай літары.

Громам апладысментаў стрэлі калегу па пяры сябры саюза. Ён проста і дасціпна распавядаў, як стаў настаўнікам, хадзіў у школу па лясных дарогах, разгадваў начное жыццё дзікіх жывёл, вучыў дзяцей разблытваць сляды лясных насельнікаў, распавядаў, як яны жывуць, здабываюць харч.

Стаўшы паляўнічым, Гурскі яшчэ больш даведаўся пра вераломства ваўка, хітрасць лісы і пра зайца, якому так цяжка выжыць сярод шматлікіх ворагаў. Пазней сталі выходзіць кнігі пра жыццё звяроў і птушак: "Жывы падарунак", "Пушыстая госця", "Паляўнічы гонар" і іншыя.

— Я хачу прывіць дзецям і дарослым любоў да прыроды, — гаворыць Васіль Рыгоравіч, — бо многія звяры і птушкі просяць чалавека пра дапамогу.

Зрэшты, і апошнія кнігі Васіля Рыгоравіча пра вайну радуюць. "Цяжкую дарогу" (апавяданні, нарысы) я прачытаў з захапленнем. Мора дабра, чысціні, веры ў заўтрашні дзень.

# Па прыступках да Сонца

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

**Адна з аповесцей старэйшага нашага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, аўтара шматлікіх кніг раманаў, аповесцей, апавяданняў, публіцыстыкі Алеся Савіцкага, называецца "Самы высокі паверх".**



"Паверхі чалавечнасці" — так назваў сваю рэцэнзію на твор земляка Валянцін Лукша ў "Чырвонай змене".

Дык вось, калі мерыць гэтай важкай пробай увесь жыццёвы і творчы шлях Алеся Ануфрыевіча, то ягоныя паверхі сёння склалі б сапраўдны высотны шматпавярховік.

Не так даўно, на пачатку лета, мы з Савіцкім чарговы раз пабывалі ў нашым родным Полацку. І па даўняй завядзёнцы падняліся на Вал Івана Грознага да хаты, адкуль пачынаўся шлях маленькага палачаніна ў вялікі свет, шлях, які прывозіў яго разам з іншымі воінамі-вызваліцелямі да сцен звергнутага фашысцкага рэйхстага, шлях, які вёў яго на берагі сібірскіх рэк, на будаўніцтва Брацкай ГЭС, бяскрайнія абсягі далёкіх гор і мораў, тайгі і родных бароў.

Шлях, які ўвасобіўся не толькі ў напісаныя радкі, але шчодра быў акроплены крывёй і потам.

Але той падмурак, закладзены на старажытным полацкім гарадзішчы, дзе вірлівая Палата ўпадае ў магутную Дзвіну, аказаўся настолькі трывалым і моцным, што жыццёвы будынак узведзены на грунце, здольным вытрымаць любыя выпрабаванні і ўстаяць пад напорам вятроў і стыхіі.

Падлеткам Савіцкі пайшоў змагацца з ворагамі. І ў партызанскім атрадзе, і ў шэрагах байцоў Чырвонай Арміі ніколі не хаваўся за спіны паплечнікаў, не шукаў выгодных цёплых месцаў, сумленна і самаадданна нёс нялёгкую ратную службу.

І ў літаратуру прыйшоў як радавы — у запыленых салдацкіх ботах і прабітай куляй гімнасцёрцы. Паступіць у Літінстытут без сярэдняй адукацыі, атрымліваючы яе паралельна вечарамі (пасля вучобы і работы, каб пракарміць сябе), закончыць аспірантуру і напісаць у гэты час першую аповесць мог толькі мужны, загартаваны ў ваенных буднях чалавек.

Аповесць тая называлася "Кедры глядзяць на мора" і стала вынікам паездкі на Брацкую ГЭС. Крытыка заўважыла твор маладога аўтара. З'явіліся ўхвальныя водгукі на старонках беларускіх і ўсесаюзных выданняў. З яе і пачалі ўзводзіцца творчыя паверхі пісьменніка.

Наступны раман Савіцкі пісаў ужо пра родны Полацк. Ён называўся "Жанчына", і героямі яго былі рабочая і інжынеры завода шкловалакна. Хоць раман і быў на так званую "рабочую тэму", але пісьменніка ў першую чаргу цікавілі жыццёвыя калізіі, духоўны свет герояў. Раман карыстаўся вялікай папулярнасцю ў землякоў.

Да ваеннай тэмы былы партызан і франтавік падыходзіў спакваля. Трэба было, каб выспелі, аформіліся ў радкі тыя няпростыя ўспаміны, каб прыйшло асэнсаванне ўласнага і людскога подзвігу. Адны толькі назвы раманаў пра многае гавораць — "Верай і праўдай", "Зямля не раскажа", "Літасці не чакай", "Памерці заўсёды паспееш".

Мяне асабіста ўражвае маленькая аповесць "На ўзараным полі" — пра тое, як падлетак-партызан, якога, аберагаючы ад лішняй небяспекі, камандаванне адпраўляе разам з пажылым байцом капаць бульбу для атрада, прымае няроўны бой з гітлераўцамі, у якім абодва гінуць.

Трагічная ваенная праўда — як у творах Быкава, Васільева, іншых яркіх пісьменнікаў ваеннага пакалення.

Думаецца, няма патрэбы пералічваць усё напісанае Савіцкім. Яго выдадзеныя толькі на беларускай і ў перакладах на рускую мову кнігі занялі б не адзін стэлаж, не адну ёмістую шафу. А яны ж увасабляліся і на армянскай, украінскай, славацкай, узбекскай, туркменскай, казахскай і іншых мовах.

Ладны набытак мае Алесь Ануфрыевіч у жанры дакументалістыкі, публіцыстыкі. А яго яркія выступленні на творчых вечарынах, на радыё і тэлебачанні заўсёды ўражваюць слухачоў.

Для мяне Савіцкі — яшчэ і полацкі чалавек, старэйшы сябра і паплечнік. Я не раз пісаў пра тое, як землякі ставяцца да асобы гэтага легендарнага чалавека, якому яны надалі пачэснае званне ганаровага грамадзяніна горада.

Полацк, Дзвіна, Сафія заўсёды прысутнічаюць у нашых размовах і ў час прагулак па набярэжнай Свіслачы ў Мінску, і ў час сумесных вандровак па Беларусі, і, вядома, у родным горадзе, куды мы часта выбіраемся разам.

Ніводзін пісьменнік-зямляк не быў абыдзены ўвагай Алеся Ануфрыевіча. Каля яго спагаднага сяброўскага цяпельца пабывалі і пагрэліся душой Тарас Хадкевіч і Валянцін Лукша, Міхась Барэйша і Іван Стадольнік, ён па-бацькоўску сачыў за спробай пяра Уладзіміра Арлова і Ірыны Жарнасек, Лявона Неўдаха і Надзеі Салодкай…

Сяброўства з яго былым камісарам, дырэктарам Вароніцкай сярэдняй школы Іванам Іванавічам Стрыкелем, былым сакратаром Полацкага райкама партыі, укладальнікам кнігі "Памяць" Святланай Чарняўскай было ўзорам цеплыні і вернасці чалавечых адносін.

Апошнім часам мы не раз гутарылі перад мікрафонам Беларускага радыё, разважалі пра наш час і пра праблемы на старонках беларускіх газет і часопісаў. Мне пашчасціла стаць укладальнікам і аўтарам прадмовы да яго кнігі публіцыстыкі "Сонца на ўсіх адно", якая неўзабаве павінна выйсці ў адным са сталічных выдавецтваў. Дарэчы, там разам з артыкуламі, інтэрв'ю, эсэ змешчаны і цікавыя ўспаміны пра Караткевіча.

Шмат гадоў будуе свае жыццёвыя і творчыя паверхі выдатны чалавек і пісьменнік Алесь Савіцкі. І хай гэтая стваральная будоўля працягваецца як мага даўжэй, і хай высокі магутны гмах яго жыцця і творчасці заўсёды радуе нас сваёй веліччу і прыгажосцю!

Ігар ДЗЕНІСЕНКА

# Праўда і толькі праўда

**Лад жыцця ў той ці іншай ступені кладзе адбітак на творчы шлях кожнага пісьменніка. У першую чаргу празаіка. Пры тым гэты ўплыў больш моцны і значны, калі літаратар сам не проста шмат перажыў, а і быў сведкам і ўдзельнікам векапомных падзей. Пацвярджэнне таму і мастакоўская біяграфія Уладзіміра Федасеенкі.**

Ён — з тых, хто ў юным узросце змагаўся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Выхаванец сялянскай сям'і з вёскі Мормаль Жлобінскага раёна (дарэчы, цяпер У. Федасеенка — ганаровы грамадзянін горада Жлобіна), вайну сустрэў пятнаццацігадовым юнаком, паспеўшы скончыць восем класаў Мормальскай сярэдняй школы. У пачатку ліпеня сорак першага У. Федасеенка стаў разведчыкам Жлобінскага знішчальнага батальёна. 28 ліпеня трапіў у рукі гітлераўцаў, але праз два тыдні здолеў уцячы з палону. Пасля гэтага яшчэ больш узненавідзеў захопнікаў. Збіраў зброю, адзін рабіў засады. Потым ваяваў у партызанскім атрадзе "Смерць фашызму", а з вясны 1943 года — камандзір дыверсійнай групы партызанскага атрада імя Панамарэнкі, быў паранены. Сведчанне мужнасці і гераізму яго высокія ўрадавыя ўзнагароды: ордэны Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, медалі.

Пасля вызвалення Гомельшчыны У. Федасеенка скончыў Гомельскі рачны тэхнікум, быў інструктарам Гомельскага абкама камсамола. Потым скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ, пасля чаго загадваў сектарам маладзёжнага друку ЦК ЛКСМБ. Пазней звязаў свой лёс з перыядычнымі выданнямі, а яшчэ на працягу дзесяці гадоў з'яўляўся старшым інспектарам упраўлення кніжнага гандлю Дзяржаўнага камітэта па друку БССР.

Літаратурную працу пачаў з нарысаў і апавяданняў, але вядомасць яму прынеслі раманы "Дубовая града", "Віхры на скрыжаваннях", "Пасля смерчу". Яны звярнулі на сябе ўвагу і таму, што аўтабіяграфічныя ў сваёй аснове. Хоць літаратурныя персанажы ў гэтых творах і маюць розныя імёны, што, дарэчы, датычыць і галоўных герояў, яны шмат у чым блізкія паміж сабой. Усе яны прадстаўнікі таго пакалення, да якога належыць сам У. Федасеенка, а ў іхніх біяграфіях можна знайсці пэўныя факты з ягонага жыцця. Гэта, зразумела, больш датычыць тых, каго аўтар у пэўнай ступені "спісваў" з сябе.

Вартасць раманаў У. Федасеенкі, канечне ж, не толькі ў тым, што ў іх, скажам так, мала прыдуманага. Для паўнавартасных мастацкіх твораў, як вядома, аднаго гэтага мала. Адметнасць іх і ў тым, што пісьменнік удала кампануе сюжэт, не абыходзячы вострых момантаў у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Апроч таго, навідавоку дынамізм дзеяння, вострасюжэтнасць.

Асабліва гэта датычыць першага рамана "Дубовая Града", у якім барацьба моладзі з гітлераўскімі акупантамі pададзена так пераканаўча, што ствараецца ўражанне, нібыта сам прысутнічаеш пры ўсім, што адбываецца: ідзеш у разведку, чакаеш набліжэння варожага цягніка, падрываеш яго. Зноў жа нічога прыдуманага, узятага напавер, таму і ўзнікае такое суперажыванне з "хлопцамі апошняй вайны" (выраз Івана Навуменкі) і ў рамане "Віхры на скрыжаваннях", які з'яўляецца як бы працягам папярэдняга.

Да гэтай дылогіі прымыкае і раман "Пасля смерчу", ужо з назвы якога відаць, што ў ім аўтар звяртаецца да пасляваенных падзей. Тым не менш не абмінае і тэму Вялікай Айчыннай. Героі твора зусім нядаўна развіталіся са зброяй. Ім аднаўляць разбураны ворагам родны горад над Сожам. Ім жа і прывыкаць да новага жыцця, такога не падобнага да ранейшага. Аказваецца, гэта не так і проста. Ужо няма ворага, але ёсць і такія людзі, перш чым назваць якіх сябрамі, трэба шмат падумаць.

Не абмінаючы вострых момантаў, У. Федасеенка піша пра ўсё з характэрнай для яго палемічнай завостранасцю, адстойваючы менавіта сваю ўласную пазіцыю, успрымаючы тое, што тады адбывалася так, як бачыў сам. У падобным поглядзе ёсць і некаторая катэгарычнасць, а ў ацэнцы падзей нярэдка прысутнічае юнацкі максімалізм, але гэта такая праўда, якой нельга не захапляцца, бо гэта праўда юнакоў вайны. Праўда тых, хто заваяваў для нас Перамогу.

Крыху ў іншым плане напісаны раман "Мутныя росы", які нядаўна папоўніў "Бібліятэку Саюза пісьменнікаў Беларусі". У гэтым творы востра гучыць і экалагічная тэма. Вельмі важны такі момант: раман "Мутныя росы" быў завершаны ў 1999 годзе. На той час яшчэ мала хто ўсур'ёз задумваўся над тым, наколькі флора і фаўна нашага краю, асабліва роднага У. Федасеенку Палесся, патрабуе да сябе паважлівага стаўлення, інакш прыроднае багацце загіне, не будзе што перадаць у спадчыну нашчадкам.



Уладзімір Федасеенка адным з першых узняў свой голас — не толькі пісьменніка, а і грамадзяніна — у абарону ўсяго жывога на зямлі. Але тэма прыроды ў "Мутных росах" не засланяе і іншыя тэмы. Па-ранейшаму да адлюстравання жыцця пісьменнік падыходзіць маштабна. У полі ягонага зроку не толькі сучаснасць, што адпавядае часу напісання гэтага твора. Расказваецца і пра калектывізацыю, і пра барацьбу з гітлераўскімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, з якой У. Федасеенка, без перабольшання, вырас як пісьменнік.

Увогуле, калі мець на ўвазе разгортванне характару галоўнага героя Антона Сіроткіна, то ў гэтым развіцці акурат зыходны момант і звязаны з нядаўняй вайной, якая не толькі не абмінула Сіроткіна, а і назаўсёды пакінула ў ягонай душы незагойную рану: Антон страціў блізкіх людзей, якіх забілі фашысты. Калі што і прытупляе ягоны боль, дык толькі тое, што і сам не застаўся ў баку ад усенароднай барацьбы, змог адпомсціць ворагу.

Дарэчы, тыя часткі рамана, у якіх адбываецца зварот да ваенных падзей, выглядаюць асабліва пераканаўчымі. У пэўнай ступені У. Федасеенка піша як бы з натуры. На пераканаўчасць, праўдзівасць таго, пра што расказваецца, шмат уплывае ўласны аўтарскі досвед, пачэрпнуты з часу партызанства. Гэтаксама ўдаліся аўтару і лірычныя адступленні, калі падаюцца маляўнічыя краявіды палескай зямлі. Праўдзіва, хораша расказаў, напрыклад, ён пра жыццё ваўчынай сям'і. Тут ужо шмат у чым выявіўся ягоны вопыт заўзятага паляўнічага, які цудоўна ведае паводзіны гэтых драпежнікаў.

Не абыдзены вострыя моманты і пры ўзнаўленні жыцця пасляваеннай вёскі. Гэта таксама сведчыць на карысць таго, што аўтар рамана "Мутныя росы" далёкі ад таго, каб ідэалізаваць рэчаіснасць. Урэшце, гэта і ў характары У. Федасеенкі: заўсёды гаварыць праўду, не зважаючы на тое, падабаецца гэта некаму ці не. Такой праўдзівасцю і прываблівае ягоная творчасць.

Глеб ЛІСІЦКІ,
фота Віктара Падуты

# З любай сэрцу Любані

**Яшчэ не так даўно любілі паўтараць, што менавіта сам чалавек — стваральнік свайго лёсу. У пэўнай ступені гэта так, таму што тое, як пражыць, у многім залежыць ад нас саміх, а вось колькі пражыць... Тут ужо не нам вырашаць, бо ўсё ж ёсць штосьці загадзя наканаванае, таму, у якія б складаныя варункі некаторыя ні траплялі, усё адно яны застаюцца жывымі, іхні ўзрост адмярае ім новыя і новыя гады. Сведчанне таму — лёс Івана Муравейкі.**

Калі б гэта не з'яўлялася праўдай, наўрад ці можна паверыць, што ў 1947 годзе ён дэмабілізаваўся з войска як інвалід другой групы. Прытым па хваробе лёгкіх. Пра такіх звычайна кажуць: нядоўга жыць небараку на гэтым свеце, хвароба ж такая, якая нікога не шкадуе. Ды Бог паклапаціўся, каб Іван Муравейка жыў доўга і доўга: 21 кастрычніка ён адзначае сваё 90-годдзе.

Праўда, жыць можна і шмат, але так, як набяжыць. Надта не абцяжарваючы сябе штодзённымі клопатамі. Шмат не беручы на сябе. А можна... Можна жыць так, як жыў, жыве і хацелася б, каб жыў і надалей, Іван Андрэевіч: годна, сумленна, з нязменным аптымізмам, з верай у дабро і прагай самому рабіць гэтае дабро. А яшчэ з як мага больш поўнай аддачай. Аддача ж Івана Муравейкі — не адзін дзясятак кніг. Паэзіі, прозы, публіцыстыкі.

Пісьменнікам ці, у крайнім выпадку, журналістам ён марыў стаць яшчэ ў зусім юным узросце, калі вучыўся ў школе ў роднай вёсцы Таль (Любаншчына), а потым у Любанскай сярэдняй школе. Ваня Муравейка з'яўляўся актыўным дзеткарам, за стараннасць сваю двойчы прэміраваўся бібліятэчкай дзіцячай літаратуры. Таму яму і самому хацелася пісаць не толькі допісы, карэспандэнцыі. Са сваімі першымі вершамі ў газеце "Піянер Беларусі" (сённяшняя "Раніца") выступіў у пятнаццацігадовым узросце.



Захапленне паэзіяй адбылося не без уплыву хроснага дзядзькі Аляксандра, ці, як яго называлі ў Талі, Волеся. Волесь хоць і быў малапісьменным, тым не менш складаў розныя куплеты і гумарыстычныя вершы, у якіх высмейваў нядбайных вяскоўцаў. Зразумела, хлапчуку хацелася браць з хроснага прыклад. А тут яшчэ на Ваню Муравейку, калі ён вучыўся ў чацвёртым класе, звярнуў увагу ягоны настаўнік Мікалай Паўлавіч Лобан, будучы знакаміты беларускі пісьменнік Мікола Лобан. Пазней падтрымаў ягоныя творчыя памкненні і Міхась Клімковіч.

Кім стаць у далейшым, І. Муравейка канчаткова вызначыўся пасля заканчэння сярэдняй школы і паступіў у Камуністычны інстытут журналістыкі ў Мінску. На жаль, доўга вучыцца не давялося, бо ў 1939 годзе быў прызваны на службу ў армію. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, удзельнічаў у баях на Заходнім фронце. Пасля ранення лячыўся ў шпіталі, вучыўся ў Новасібірскім ваенна-пяхотным вучылішчы. У званні малодшага лейтэнанта трапіў на Паўднёва-Заходні фронт. Давялося быць і карэспандэнтам вайсковых газет. Пасля разгрому фашысцкай Германіі служыў у складзе Цэнтральнай групы савецкіх войск у Германіі.

Дэмабілізаваўся па стане здароўя і вярнуўся на родную Любаншчыну. Іншага і не дадзена было, калі ў сэрцы жыло тое, што параўнальна нядаўна падказала яму змест верша "Тут мае карані":

*Тут мае карані,*
*Тут заўжды я жыву,*
*У краі бацькоўскім мне люба.*
*Нават на Мінск і на Маскву*
*Не прамяняю цябе, мая Любань.*

Любаншчыну пакідаў толькі ў 1962 — 1964 гадах, калі вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. А так да выхаду на пенсію працаваў у рэдакцыі раённай газеты. Быў адказным сакратаром, рэдактарам, потым зноў адказным сакратаром... І, канечне ж, працягваў пісаць. Першая кніга паэзіі "Песня над палямі" выйшла ў 1955 годзе. Годам пазней з'явілася другая — "Ручаінкі". Калі першая была "дарослай", то "Ручаінкі" сваёй лёгкай, свежай плынню ўліліся ў паўнаводную раку беларускай дзіцячай літаратуры.

З гэтага моманту і вызначыўся асноўны кірунак у творчасці І. Муравейкі, які ён убачыў у тым, каб пісаць для хлопчыкаў і дзяўчынак. Так пісаць, каб тое, што з'яўляецца з-пад пяра, радавала іх, захапляла, дапамагала пазнаваць свет і людзей. У розных жанрах працаваў: кароткі верш, сюжэтны верш, казка, вершаванае апавяданне. Толькі для чытача, асабліва маленькага, не жанр важны, а тое, пра што і як расказваецца ў тым ці іншым творы. Лепшыя ж творы І. Муравейкі — займальныя, дасціпныя, вясёлыя. Таму так прыхільна былі сустрэты ягоныя кнігі "Вось якія мы" (1958), "Пра работу і ляноту" (1960), "Сняжынкі-смяшынкі" (1962), "Няхай сонца не заходзіць" (1981), "Я прыдумаў казку" (1985) і іншыя.

Аднак І. Муравейка не развітваўся і з дарослай паэзіяй, да ўсяго пісаў сатырычныя і гумарыстычныя вершы. Цягам гадоў узяўся і за прозу, пра што, у прыватнасці, засведчылі кнігі "Прынёс з вайны" (1991) і "Я — Іван з Беларусі" (2010), у якіх значную частку тэксту займаюць франтавыя запісы, а таксама апавяданні, творы іншых жанраў.

"Не закончылася для мяне вайна" — так назваў І. Муравейка і адзін са сваіх вершаў. У ім тое, што не дае яму спакою ўжо не адно дзесяцігоддзе, перажытае, якое ўваходзіць і ў сённяшні дзень. У ім — часцінка лёсу аднаго з тых, хто прынёс нам Перамогу:

*Я капаю грады каля хаты,*
*Слухаю расчулена вясну...*
*Шоргнула па камені лапата —*
*Даўні боль па сэрцы секанў.*

*На вайне быў кожны землякопам.*
*Так, і я капаў да мазалёў —*
*Бліндажы, траншэі і акопы*
*І... магілы для сваіх сяброў.*

*Не закончылася ў сорак пятым*
*Для мяне вайна. Хіба ж не бой? —*
*Шоргнула па камені лапата —*
*Секанў па сэрцы даўні боль.*

Што датычыць верша "Я — Іван з Беларусі", які і даў назву ягонай нядаўняй кнізе, то ў аснову яго пакладзены рэальны факт:

*Ва ўсім свеце прызналі мяне,*
*Незламанага ў буры і скрусе,*
*Калі я на рэйхстага сцяне*
*Распісаўся: "Іван з Беларусі".*

Іваны ж — людзі жывучыя. Асабліва тыя з іх, якія добра памятаюць свой род. Як І. Муравейка. Воін-пераможца, пісьменнік, грамадзянін. І проста душэўны, харошы чалавек з любай ягонаму сэрцу Любані. Адзін з многіх-многіх, каго называюць беларусамі.

# Паміж дзяржавамі-суседзямі

Ірына ТУЛУПАВА

**Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна сёлета абвясціла міждзяржаўны прафесійны конкурс бібліятэкараў "Мой Багдановіч". Гэта адна з ініцыятыў у шэрагу падобных у папулярызацыі беларускай літаратуры па-за межамі нашай краіны. Пра сучасныя клопаты ў падтрымку чытання і асветы "ЛіМу" распавядае дырэктар Валянціна Дуброва.**

**— Валянціна Пятроўна, конкурс "Мой Багдановіч" — міждзяржаўны і тым надзвычай цікавы нам, беларусам. Бо вельмі ж хочацца пераканацца: культуру нашай краіны ведаюць, ведаюць яе выбітных асоб. І інфармацыя гэта прыходзіць не толькі праз электронныя СМІ, праз тэлебачанне, але і праз далучэнне да нашай літаратуры, да мастацкага слова.**

— Зразумела, і конкурс "Мой Багдановіч" задуманы намі як міждзяржаўны па дзвюх асноўных прычынах. Па-першае, гэта імя дарагое не толькі беларусам: жыццёвы і творчы шлях класіка знітаваны з Расіяй і Украінай — з такімі гарадамі, як расійскія Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль, украінская Ялта. Па-другое, наша бібліятэка амаль 40 гадоў сябруе з Бранскай абласной навуковай універсальнай бібліятэкай імя Ф. І. Цютчава і Чарнігаўскай абласной універсальнай навуковай бібліятэкай імя У. Г. Караленкі. За гэтыя гады мы не толькі наладзілі цесныя прафесійныя стасункі, але і па-сапраўднаму парадніліся, а ў блізкіх людзей — адзіныя святы і будні. Конкурс, прысвечаны 120-годдзю Максіма Багдановіча, горача падтрыманы нашымі калегамі.

**— Наколькі ж магчымыя сёння трывалыя творчыя стасункі з нашымі блізкімі суседзямі, абмен літаратурай? Які вопыт у гэтым мае сучасная бібліятэка?**

— У наступным годзе супольна з бранскімі і чарнігаўскімі калегамі мы адзначым 40-годдзе нашага сяброўства. Праз усе гэтыя гады мы стваралі карпаратыўныя інфармацыйныя рэсурсы, абменьваліся не толькі каштоўным вопытам працы, але і мясцовымі перыядычнымі выданнямі, кнігамі, дзякуючы якім маглі назіраць за бібліятэчным і культурным жыццём адно аднаго, папулярызаваць творчасць сваіх пісьменнікаў. У 2011 годзе па ініцыятыве бранчан стартаваў новы праект — "Літаратура не ведае межаў. Чытаем разам", які дазволіць чытачам трох сумежных абласцей пазнаёміцца з сучаснай мастацкай літаратурай славянскіх дзяржаў, абмеркаваць кнігі. Паводле праекта, кожны ўдзельнік на свой выбар прапануе памежным бібліятэкам пазнаёміць чытачоў з творчасцю трох-чатырох сучасных аўтараў, правесці чытацкую канферэнцыю, арганізаваць чытацкі форум і збор меркаванняў аб прачытаным, на бібліятэчных сайтах прадставіць ход рэалізацыі праекта. Маем на мэце прыцягнуць увагу чытачоў розных узростаў і інтарэсаў да сучасных твораў мастацкай літаратуры сумежных славянскіх дзяржаў; дапамагаць у развіцці чытацкіх густаў і пашырэнні кругагляду, раскрыцці патэнцыялу і творчай фантазіі бібліятэкараў па прасоўванні чытання лепшых твораў сучаснай літаратуры дзяржаў-суседзяў; умацаванне добрасуседскіх адносін памежных тэрыторый.



**— На вашу думку, ці запатрабаваныя літаратурныя спаборніцтвы, накшталт конкурсу, прымеркаванага да юбілею Максіма Багдановіча?**

— Паводле палажэння, конкурс "Мой Багдановіч" праводзіцца сярод маладых бібліятэкараў і чытачоў (ва ўзросце да 30 год) Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей. Удзельнікі могуць прадставіць свае працы ў трох намінацыях: "малая проза" (апавяданне, эсэ), "паэзія" і "выяўленчае мастацтва" (жывапіс, малюнак). Галоўнае, каб іх працы, якія паказваюць жыццё, творчасць М. Багдановіча і месцы, звязаныя з яго імем, раскрылі вобраз класіка беларускай літаратуры.

Як паказала практыка, конкурсы выклікаюць цікавасць як у чытачоў, так і ў супрацоўнікаў бібліятэк. У 2008-м, да свайго 80-годдзя, наша бібліятэка аб'явіла абласны літаратурны конкурс "Даруй мне тишь своих библиотек", у якім прынялі ўдзел не толькі жыхары Гомельшчыны. Гэта гаворыць пра тое, што за жыццём бібліятэкі ўважліва сочаць не толькі праз мясцовыя СМІ, але і праз Інтэрнэт (палажэнні пра конкурсы мы абавязкова размяшчаем на сайце бібліятэкі — **goub.org**).

**— Конкурс "Мой Багдановіч" праходзіць у межах акцыі "Гомель — культурная сталіца Садружнасці". Пасля прагляду спектакляў высокага мастацкага ўзроўню, пасля прачытання сусветных бестселераў, знаёмства з гісторыяй чалавек зусім па-іншаму пачынае сябе ўсведамляць. Узрастае пачуццё ўласнай годнасці, чалавек вяртаецца да простых ісцін. Ці адчуваецца, што ў горадзе ўзрасла цікавасць да культуры і літаратуры? Якія ініцыятывы гамяльчане падтрымалі найбольш ахвотна?**

> *Валянціна ДУБРОВА:*
> *— Я вырасла ў сям'і ваеннаслужачага, і так атрымалася, што ў маім жыцці было шмат бібліятэк. Досыць цьмяна памятаю свой першы досвед наведвання, аднак тое, што значная частка жыцця прысвечана бібліятэчнай справе, сведчыць: не бывае ніякіх выпадковасцей. Выбар бібліятэчнай сцяжыны — таксама не выпадковасць. Прайшоўшы шлях ад простага супрацоўніка тэхнічнай бібліятэкі да дырэктара абласной, магу сказаць, што назапашаны каласальны досвед зносін, і гэта дапамагае ў штодзённай працы з чытачамі.*

— У шэрагу культурных акцый і мерапрыемстваў, што праводзяцца ў горадзе, абласной бібліятэцы таксама ёсць што прапанаваць. Яшчэ ў пачатку года намі быў распрацаваны цыкл мерапрыемстваў, якія праходзяць пад дэвізам "Вартасць Гомеля — у яго культуры". Акрамя традыцыйнай для нас працы па папулярызацыі літаратурнай спадчыны мы асаблівую ўвагу сталі надаваць мастацтву. У бібліятэцы прайшоў шэраг мастацкіх выставак ("Свет, убачаны сэрцам", "Па прыгажосць — у бібліятэку" і інш.). А 6 кастрычніка адбылася прэзентацыя Арт-клуба, мэта якога — выяўленне і папулярызацыя на пляцоўцы бібліятэкі творчасці гамяльчан. І не толькі вядомых, але і малавядомых альбо пакуль не вядомых шырокай грамадскасці. Падчас прэзентацыі Арт-клуба была адкрытая выстаўка 7 мастакоў (Генадзь Говар, Віталь Дзянісенка, Яфім Менявіцкі, Мікалай Дуброва (Мазыр), Міхаіл Міронаў (Рагачоў) — жывапіс, Уладзімір Кароткі — графіка (акварэль); Алег Ананьеў — мастацкая фатаграфія на палатне. У літаратурна-музычнай кампазіцыі "Восеньская вясёлка" прагучалі песенныя балады на беларускай, рускай і французскай мовах у выкананні лаўрэата рэспубліканскіх конкурсаў, аўтара песень на вершы беларускіх і рускіх паэтаў Ірыны Марчанкі (Рагачоў); вершы ў выкананні паэтаў (Генадзь Говар, Алег Ананьеў, Уладзіслаў Шышыгін і інш.). 13 кастрычніка на базе бібліятэкі адбылася традыцыйныя "Літаратурныя дажынкі" — агульнае свята пісьменнікаў і чытачоў Гомельскай, Бранскай, Чарнігаўскай, Курскай і іншых абласцей, на якім падводзяцца вынікі адыходзячага літаратурнага года.

**— Валянціна Пятроўна, у бібліятэцы створана шмат віртуальных літаратурных музеяў. У папулярызацыі беларускай сучаснай і класічнай літаратуры — гэта неацэнная дапамога. Як іх наведваюць сёння? Што плануецца зрабіць надалей па супрацоўніцтве з творцамі і пашырэнні ведаў пра сучасную літаратуру?**

— Творчасць знаных ураджэнцаў Гомельшчыны — наш скарб, які мы вельмі шануем. Таму мы ствараем не толькі віртуальныя літаратурныя музеі, але і рэальныя экспазіцыі. У аддзеле краязнаўства створаны літаратурны музей "Знаныя пісьменнікі Гомельшчыны", у якім прадстаўлены рукапісы і асабістыя рэчы народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі, паэта Міколы Мятліцкага, пісьменніка Барыса Сачанкі. У планах — стварэнне экспазіцый, прысвечаных І. Шамякіну, М. Башлакову і іншым вядомым ураджэнцам Гомельшчыны. Усе гэтыя рэсурсы запатрабаваны чытачамі і выклікаюць вялікую цікавасць.

У далейшых планах — адкрыццё ў абласных бібліятэках-партнёрах куточкаў беларускай літаратуры і іх напаўненне, іншыя творчыя праекты, рэалізацыя якіх зробіць культурнае жыццё нашага рэгіёна больш багатым і насычаным.

## Праекты

Ірына ТУЛУПАВА

# Цудоўна адрывацца ад Зямлі

**У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё міжнароднага мультыпраекта "Лемарыс", прысвечанага 90-годдзю з дня нараджэння Станіслава Лема.**

Зразумела, што форма любога праекта абумоўлена той пастацю, якой ён прысвячаецца. Калі ж гэта чалавек-Космас, то і выяўленчыя сродкі могуць быць зусім нечаканыя. Пралогам на прэзентацыі мультыпраекта стала тэатралізаванае дзейства, арганізаванае артыстамі тэатра "ІнЖэст". Чалавек, насамрэч, выяўляў сябе і ў слове, і ў пластыцы, і ў музыцы, і ў душы.

Польскі пісьменнік, сатырык, філосаф, фантаст і футуролаг, кнігі якога перакладзены на 42 мовы свету, Станіслаў Лем лічыцца адным з самых выбітных пісьменнікаў-філосафаў XX стагоддзя. І, зразумела, прачытанне яго твораў асаблівае. Мультыпраект уключыў у сябе шэсць асобных праектаў, кожны з якіх прадстаўляе пэўны творчы кірунак. Глядач можа даведацца, якія літаратурныя творы С. Лема ёсць у фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі; пабачыць ілюстрацыі да твораў польскага графіка Даніэля Мроза і мастака з Санкт-Пецярбурга А. Андрэева, беларускіх мастакоў і нават малюнкаў самога С. Лема, з якіх аўтар паўстае яшчэ як дапытлівы мастак-даследчык. І зусім не складана, як зазначыў кіраўнік галерэйна-выставачнага аддзела НББ, мастак Фёдар Ястраб, было сабраць вакол асобы Лема мастакоў — можна было зрабіць яшчэ 2 — 3 выстаўкі.

Адвечнае пытанне "хто мы ёсць?" згуртавала каля выставак Лема чытачоў розных узростаў — усіх, хто зважае на сённяшняе жыццё ў кантэксце Сусвету і памятае, што чалавека як часцінку Космаса можа падсцерагаць у ім не толькі тэхнічная небяспека, а і тая, што палягае ў сферы чалавечых пачуццяў, у яго душы.

Магчыма, не ўсе ведаюць, што С. Лема натхняла музыка Чайкоўскага. Кампазіцыя, выкананая гітарыстам Яўгенам Сіротам, толькі дапоўніла глядацкія ды чытацкія эмоцыі.

Пісьменнік Анатоль Бутэвіч, які пераклаў тры кнігі С. Лема на беларускую мову (пабачылі свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" "Салярыс" і "Прыгоды Піркса", кніга "Непераможны" — у РВУ "Літаратура і Мастацтва"), звярнуў увагу на тое, што ў польскага аўтара шмат слоўнаватвораў. Што ўскладняе і адначасова прываблівае да працы над перакладамі. Між іншым, выстаўка адной кнігі — "Салярыс" уражвае як шматпланавасцю выданняў, падрыхтаваных у розных краінах, так і іх афармленнем.

Выстаўка на выстаўцы "Сусветы Станіслава Лема" прадставіла практычна ўсю калекцыю лемолага Віктара Язневіча, якая налічвае звыш 700 кніг і ўтрымлівае не толькі яго мастацкую прозу, але і публіцыстыку.

Мультыпраект "Лемарыс" будзе знаходзіцца ў сценах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да пачатку лістапада. Так што ўсе ахвочыя яшчэ змогуць дакрануцца да фантастычнага свету па-над зямной прасторай, які ажывіў таленавіты польскі літаратар.

# Судакрананне са светам Мудрасці

**Хто і калі знаёміцца з бібліятэкай? А з кнігай? Ці працягваецца аднойчы распачаты дыялог пакаленняў, у якім гарманічна прысутнічае мова пісьмовая? Сёння пра кнігі і бібліятэкі распавядае рэктар Інстытута культуры Беларусі Янка Крук:**



— Больш за ўсё я працую ў сваёй хатняй бібліятэцы. Яшчэ калі пачаў вучыцца ў аспірантуры, паставіў перад сабою мэту: хай у мяне не будзе аўтамабіля, але будзе шыкоўная бібліятэка. Я прывык да таго, што мне камфортна і ўтульна, калі ёсць адмысловы парадак, кніжкі быццам раскіданыя, але ты ведаеш, дзе і на якую старонку зірнуць, каб нешта пераправерыць. У Нацыянальную бібліятэку Беларусі прыходжу паглядзець, якія з'явіліся навінкі. Адначасова — каб паразважаць, над чым працуюць нашы калегі ў Расіі, ва Украіне. Не так даўно вярнуўся з Бішкека. Пытаюся ў калег: што яны ведаюць пра нашы публікацыі? Практычна нічога. Раней мы былі ўсе разам, а сёння рассыпаліся, як гарох. Дык вось, калі трэба паглядзець навінкі або працы фалькларыстаў і этнографаў канца XIX ст., рарытэты, якіх няма дома і быць не можа, прыходжу ў Нацыянальную.

Практычна ўся неабходная літаратура ў мяне ў камп'ютары, але я прыхільнік традыцыі. І як ад разумнай і прыгожай жанчыны ідзе энергетыка, якая стымулюе цябе да жыцця, абуджае эмоцыі маладых гадоў і жаданне самому стаць больш прывабным, так і кніга, калі яна ў цябе ў руках, "жывая", таксама натхняе!

**— А першая ваша бібліятэка была менавіта хатняя?**

— Не, гэта кніжніца ў Грабёнскай сярэдняй школе, што была за чатыры кіламетры ад нашай вёскі. Калі пайшоў туды ў пяты клас і ўпершыню зайшоў у бібліятэку, у мяне было такое ўражанне, што гэта нейкае іншае царства. Чамусьці менавіта так успрымалася тое кнігасховішча.

Ад бацькоў мне вялікая літаратурная спадчына не засталася. Хаця тое, па чым яны вучыліся, захоўвалася. Біблія дома была. Бацька быў сакратаром партыйнай арганізацыі, разам з тым дома захоўвалася такая рэч! І мне, зусім малому, калі я толькі навучыўся чытаць, ён казаў: вазьмі, пагартай, набірайся розуму!

Але ўсё-ткі калі гаварыць пра першую бібліятэку, то гэта, безумоўна, быў невялікі пакой у Грабёнскай школе — там размяшчалася сховішча кніг, якое абудзіла ў мяне жаданне спасцігаць чароўны свет мастацкага слова, і менавіта там было першае судакрананне са светам Вечнасці, Мудрасці. Да мяне нават загадчыца бібліятэкі падыходзіла: "Ты нейкі дзіўны, прыходзіш сюды не пагартаць кнігі..." А я стаяў агаломшаны, і мне здавалася, што я нейкімі таемнымі каналамі, усімі фібрамі душы адчуваў, што там напісана. Захапіла дыханне: "Ах!", і не выказаць словамі… Кніга і жыццё для мяне словы-сінонімы: жыццё можна пражыць толькі адзін раз і набела, гэтаксама і кніга — яна пішацца мудрым словам на белым покрыве Вечнасці. І сёння, калі за плячыма ёсць пэўны жыццёвы і навуковы досвед, хочацца напісаць мудрую кнігу, якая была б прысвечана пошуку ісціны пра духоўныя традыцыі нашых продкаў, пра іх спасціжэнне мудрасці праяў Творцы і дазволіла б смела ісці на сустрэчу з Богам.

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

# Мова ў маталян своеасаблівая…

**Іванаўскі край (да 1940 года сённяшні раённы цэнтр Іванава насіў назву Янава) — адзін з найцікавейшых куточкаў Берасцейшчыны. Махро, Моладава, Дастоева, Тышкавічы, Шчакоцк, Опаль — гэтыя і іншыя паселішчы здзіўляюць, уражваюць кожнае па-свойму: рамёствамі, легендамі, моўнымі залацінкамі, гістарычнай памяццю. Адметнасці роднай старонкі, краязнаўчы воблік раёна імкнуцца занатаваць, захаваць у сваёй рабоце іванаўскія бібліятэкары.**

З апошніх напрацовак — дыялектны зборнік прыказак і прымавак "А ў Моталі кажуць так…" Матэрыялы сабраныя супрацоўнікамі розных бібліятэк, а складальнікам з'яўляецца Вольга Кузюр. Рэдактар выдання — Ніна Куліч.

Шкада, што брашура з 16 старонак аддрукавана без выхадных дадзеных (толькі на апошняй старонцы вокладкі: "Іванаўская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма. Аддзел бібліятэчнага маркетынгу"). У выданні дыялектычныя матэрыялы вылучаны ў асобныя раздзелы: "Прыказкі і прымаўкі духоўна-выхаваўчага характару", "Прыказкі і прымаўкі сямейна-бытавога характару", "Прыказкі і прымаўкі сацыяльна-бытавога характару", "Загадкі", "Чай з бабьнэю", "Забаўлялка", "Прымаўка". Апошнія тры — асобныя сюжэтныя творы з мотальскага фальклору.

Некаторыя з запісаў па змесце паўтараюць прыказкі і прымаўкі, фразеалагізмы з іншых прастораў ужывання беларускай мовы. Але ж на іх тым не менеш стаіць выразная мотальская пячатка. Як прыклад: "Ня пэрэскочыў — нэ кажы «гоп»", "Хто пытае — той нэ блудыть", "Нэ запрошаны нэ пойідэш", "Шо з воза ўпало, тэе пропало", "Пан з паном б'юцца, а ў мужыка лоб трышчыть", "Заўтра ўмрэш, а хліб сій", "Хто многа мае, той многа дбае" і інш.

У прадмове да зборніка ёсць такія словы: "Крынічным звонам бессмяротнасці роднае мовы з'яўляюцца народныя прыказкі і прымаўкі з іх павучальнай маральна-практычнай філасофіяй. Яны складаюць цэлы летапіс народнага жыцця і светапогляду, з'яўляючыся самым распаўсюджаным відам вуснай народнай творчасці, асабліва ў вёсках мотальскага рэгіёна.

Мова ў маталян своеасаблівая. Тутэйшых жыхароў па вымаўленні вызначалі ў навакольных вёсках (як, дарэчы, і маталяне суседзяў). На адметнасці мотальскага дыялекту адбіўся і гістарычны лёс вёскі, пастаяннае абнаўленне насельніцтва пасля пажараў, войнаў, адыходныя промыслы, возніцтва, якія кідалі жыхароў у далёкія дарогі, а адтуль прывозіліся не толькі новыя прылады працы, але і словы, выразы. Мотальскі дыялект ніякага асаблівага перакладу не патрабуе. Ён зразумелы ўсім беларусам.

Чытаеш дыялектычны зборнік іванаўскіх бібліятэкараў — і атрымліваеш асаблівую асалоду, насычаешся залацінкамі роднай мовы. У прыказках і прымаўках з Моталя — і сямейная педагогіка, і прынцыпы калектыўнага суіснавання, падказкі да характару зносін паміж суседзямі. Маталяне ўсё ведаюць!.. "Чоловік хату построіть, а дытэй нэ годуе, а жынка дытэй погодуе, алэ хату нэ постройіть", "Дочкі покінуть бэз сорочкі", "Які чорт Фомка, така єго жонка…"

Многія мотальскія загадкі ўяўляюць сабою цэлыя карціны, дзействы народнага жыцця. "Сонцэ, сонцэ, посэрэдыны жывыца. Хто нэ адгадае, той нэ ожэнiцца". Гэта — пра свечку (для маталян: свічку). Альбо: "Однэ кажэ: "Полэжым", друге кажэ: "Побыжым", трэте кажэ: "Поківаемся". Адгадалі? Ляжыць камень. Бяжыць вада. А зямля ківаецца, калываецца. А вось загадка пра печ: "Біла кобыла ўвэсь ліс з'іла". Болей вобразна і не скажаш, калі ведаеш цану маразам зімовым і тое, як дровы нарыхтоўваюць, колькі іх трэба загадзя, да маразоў, мець. "З хаты ў хату водыть, а сама нэ ходыть" — пра дарогу. Колькі ў гэтых загадках параўнанняў, сімвалаў, мастацкіх адценняў! Калі пісаць пра Моталь і маталян, без звароту да гэтай палітры не абыдзешся.

Адам Кіркор пісаў пра жыхароў Палесся ў "Живописной Росссии" (Санкт-Пецярбург, 1882 год): "Жыццё гэтых людзей, скіраваных на вечную барацьбу з прыродай і разам з тым здольных перамагаць тыя жыццёвыя перашкоды і цяжкасці, якія ім ставіць на шляху гэтая прырода, павінна скласціся інакш, чым у іх суседзяў. Яно выпрацавала асаблівыя рысы, погляды, паняцці, выпрацавала без усялякага старонняга ўплыву навукі, школы, нават жывога слова, якія даходзяць да слыху палешука толькі ў выключных выпадках. Не можа ён часта наведваць не толькі гарады і мястэчкі, але нават суседнія вёскі і сёлы, якія стаяць адно ад другога на пяцьдзясят і болей вёрстаў. Хрысціянства ўсталявалася тут моцна. Палешук рэлігіёзны, набожны, любіць абраднасць, але ён не можа адмовіцца ад атрыманых у спадчыну на працягу многіх стагоддзяў забабонаў, прымхаў і таго паэтычнага настрою, якія захаваліся ў яго поглядах на жыццё і атмасферныя з'явы, уласцівыя прашчурам яго яшчэ ў часы язычніцтва. Вось чаму нашы этнографы так высока цэняць пінскія песні і абрады, у якіх яшчэ так часта і так вобразна вымалёўваецца міфалагічная аснова".

Міфалогія, даўнія язычніцкія перакананні, сацыяльны вопыт папярэдніх стагоддзяў — усё гэта занатавана і ў слове, якое было і застаецца мастком маталяніна, янаўца ў яго стасунках са светам прыроды, з сучаснасцю і вечнасцю. "Мэту, мэту — нэ вымэту, грэбу, грэбу — нэ выгрэбу, як час прыдэ — само выйдэ". Гэтая загадка — пра сонца. Над іванаўскім Моталем яно асабліва яркае і цёплае.

## Зачытаныя кнігі

***«Клімавічы — гарадок невялікі, у ім крыху больш як 17 тысяч жыхароў. Больш як 3 тысячы наведваюць сёння цэнтральную бібліятэку. Для іх — універсальны, з густам аформлены фонд літаратуры, які цяпер налічвае каля 50 тысяч тамоў. Што ж чытаюць у гэтым куточку Магілёўшчыны?***

### Абанемент

***Беларускія аўтары***

1. Батракова, Н. Н. Территория души. — Минск: Кавалер, 2007.
2. Батракова, Н.Н. Площадь Согласия. — Минск: Кавалер, 2008.
3. Быкаў, В. Знак бяды. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1999.
4. Мележ, І. Людзі на балоце. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008 .
5. Шамякін, І. Злая зорка: раман. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1993.

***Расійскія аўтары***

1. Булгаков, М. А. Мастер и Маргарита: роман. — М.: Худ. лит., 1988.
2. Солженицын, А. Архипелаг ГУЛАГ. — М., 1989.
3. Воронин, А. Комбат. Олимпийский характер. — Минск: Харвест, 2011.
4. Тамоников, А. А. Горная атака. — М.: Эксмо, 2008.
5. Устинова, Т. На одном дыхании. — М.: Эксмо, 2010.
6. Шилова, Ю. В. Хочу замуж, или Русских не предлагать. — М.: АСТ Москва, 2010.

***Замежная літаратура***

1. Кинг, С. Свечение: роман. — Вильнюс: Полина, 1993.
2. Коэльо, П. Алхимик. — М.: София, 2005.
3. Майер, С. Сумерки. — М.: АСТ: АСТ Москва, 2010.
4. Стендаль, А. Красное и чёрное. — Минск: Мастацкая літаратура. 1982.
5. Шекспир, У. Ромео и Джульетта. — Минск.: Народная асвета, 1980.

### Дзіцячы аддзел

***Кнігі беларускіх аўтараў для дзяцей і падлеткаў***

1. Бадак, А. Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2008.
2. Бутэвіч, А. Прыгоды памазлівай Рыскі: Казка.— Мінск: Юнацтва, 1999.
3. Гапееў, В. Урокі першага кахання: аповесці.— Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.
4. Навуменка, І. Хатняе зайчанё: Апавяданні.— Мінск: Юнацтва, 1998.
5. Хвалей, Я. Прынцэса тусоўкі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2008.
6. Шамякін, І. Промні маленства: Апавяданні.— Мінск: Мастацкая літаратура, 2002.

***Кнігі для дзяцей малодшага школьнага ўзросту***

1. Дружинина, М. Мой весёлый выходной: рассказы, стихи.— М.: Аквилегия, 2007.
2. Крюкова, Т. Калоша волшебника, или Занимательное пособие по правилам поведения: повесть-сказка. — М.: Аквилегия, 2007.
3. Пивоварова, И. М. Рассказы Люси Синицыной, ученицы третьего класса: рассказы и повесть.— М.: Стрекоза-Пресс, 2004.
4. Пивоварова, И. М. Рассказы Павлика Помидорова, брата Люси Синицыной. — М.: Стрекоза-Пресс, 2008.
5. Успенский, Э. П. Зима в Простоквашино. — М.: РИО "Самовар", 2003.

***Кнігі для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту***

1. Вильмонт, Е. Н. Секрет зелёной обезьянки: Повесть. — М.: Изд-во Эксмо, 2004.
2. Воробей, В. М. Мой единственный человек: Роман. — М.: ЗАО "Росмен-пресс", 2005.
3. Джонс, А. Ф. Приглашение на свидание: Повесть. — М.: Изд-во Эксмо, 2003.
4. Иванова, В. Три желания: Повесть. — М.: ООО "Издательсво Астрель", 2002.
5. Роньшин, В. М. Кошмары станции "Мартышкино". "Миссия говорящей головы": Повести. — М.: Эксмо, 2004.

***Чытальная зала***

1. Важенкова, Т. Н. Трудовое право: учеб. пособие. — Минск: Амалфея, 2008.
2. Гражданский кодекс Республики Беларусь: с изм. и доп. по состоянию на 1 авг. 2010. — Минск: Нац. центр правовой информ. Республики Беларусь, 2010.
3. Маклаков, А. Г. Общая психология: учебник для вузов. — СПб: Питер, 2008.
4. Мельник, В. А. Политология: учебник . — 6-е изд., испр. — Минск: Выш. шк., 2008.
5. Подласый, И. П. Педагогика: новый курс: учеб. для студ. высш. учебн. заведений: В 2 кн. — Москва: Гуманит. изд. центр Владос, 2002.

# Калі баліць памяць…



Сяргей ШЫЧКО,
фота Кастуся Дробава

**У маіх руках — даўні, з 1999 года, тоненькі паэтычны зборнік Рыгора Сакалоўскага “Память и боль”. І адкрываецца кніжачка вершам “Святой реквием”. Палкоўнік Сакалоўскі, які сам у якасці журналіста “шматтыражкі” паветрана-дэсантнай дывізіі прайшоў дарогамі Афганістана, напісаў радкі ў знак памяці пра сваіх пабрацімаў, увогуле пра ўсіх, хто не вярнуўся з сапраўднай вайны… “Грусть белорусских / Берёз. / Свислочь, / И солнца багрянец… / Остров печали / И слёз — / Место святое, / “Афганец”/ Станем в тиши, / Помолчим”. І сёння сапраўды хочацца памаўчаць, каб скрушліва і горка не разважаць пра страту — незадоўга да 65-гадовага юбілею пайшоў з жыцця, адправіўся ў вечны шлях Рыгор Сакалоўскі.**

На Мінішчыне яго добра ведалі ў самых розных раёнах. Кіраваўшы абласной арганізацыяй Беларускага саюза журналістаў, Рыгор Васільевіч часта бываў у Мар'інай Горцы і Валожыне, Старых Дарогах і Чэрвені, Мядзелі і Слуцку… Яму да ўсяго была справа. Ён быў у курсе жыцця рэдакцый раённых газет. Ведаў, якія асаблівасці ў гаспадарцы таго ці іншага раёна. Мог кожнага выслухаць, даць параду. І калі была на тое патрэба, заступіцца за чалавека, услухацца ў яго клопаты, часам, можа быць, іншым і не зразумелыя. Але, як і быў з маладосці, ён заставаўся афіцэрам, вайскоўцам, журналістам, які вырас у асяродках ваенных газет.

Доўгія гады жыцця звязлі Рыгора Сакалоўскага, украінскага хлопца, з Беларуссю. І наша Айчына стала неад'емнай часткай яго паэтычнага таленту. Памятаю першыя кнігі, першыя вершаваныя публікацыі Рыгора Васільевіча ў рэспубліканскай літаратурна-мастацкай перыёдыцы. Сваё сяброўскае плячо ваеннаму газетчыку, галоўнаму рэдактару “Во славу Родины” падставілі вядомыя літаратары Алесь Камароўскі, Казімір Камейша, Генрых Далідовіч, Уладзімір Паўлаў, Юрась Свірка. Менавіта яны рэдагавалі паэтычныя зборнікі, пераклалі вершы палкоўніка Сакалоўскага на беларускую мову. Ганарыўся Рыгор Васільевіч і дружбай з народным пісьменнікам Беларусі Іванам Пятровічам Шамякіным. Часта пісаў пра яго ў вайсковым друку. У перакладзе на рускую мову ў газеце “Во славу Родины” друкаваліся і творы Івана Шамякіна. Была ў гэтым сяброўстве, як мне асабіста падаецца, асаблівая цеплыня. Іван Пятровіч, відавочна, узгадваў пра свае ваенныя гады, а Рыгора Васільевіча саграваў той прыклад, які паказваў знакаміты пісьменнік у служэнні мастацкай літаратуры.

Варта заўважыць, што ў час рэдактарства Сакалоўскага ў беларускай вайсковай газеце надзвычай вялікая ўвага надавалася літаратуры. Часта тады друкаваўся са сваімі творамі генерал-маёр Анатоль Сульянаў, палітработнік, ваенны лётчык. Вяліся гутаркі, інтэрв'ю з самымі рознымі літаратарамі. Памятаю, на пачатку 1990-х пра беларускую літаратуру, культуру вайсковаму чытачу расказвалі Барыс Сачанка, Мар'ян Віж, Яўген Лецка, Яраслаў Пархута, Вітаўт Чаропка, Алесь Марціновіч, Аляксандр Капусцін, Алесь Бадак, Віктар Шніп і шмат хто яшчэ. З'яўляліся рэцэнзіі на новыя кнігі паэзіі і прозы, газета адгукалася на пісьменніцкія юбілеі.

І, канечне ж, часта — і як паэт, і як публіцыст — выступаў на старонках “Во славу Родины” сам рэдактар — Рыгор Сакалоўскі. Але, як мне падаецца, напоўніцу яго паэтычны талент разгарнуўся ўжо пасля звальнення з Узброеных Сіл. Яно і зразумела. З'явілася болей часу для творчасці. Кнігі пачалі выходзіць адна за другой. Часта з'яўляліся публікацыі ў літаратурна-мастацкім часопісе “Нёман”. Рэцэнзіямі на яго кнігі адгукаліся “Народная газета”, “Рэспубліка”, іншыя выданні. У творчасці болей выразна акрэслілася і лірычная нотка. Вершы не толькі друкаваліся, але і чыталіся ў самых розных аўдыторыях. Апошняе Рыгор Васільевіч рабіў з асаблівай асалодай. Часам мне даводзілася назіраць, як ён чытаў вершы, якія яшчэ не друкаваліся. Відавочна, выпрабоўваў, спадзяваўся разгледзець рэакцыю слухача. І ў такія хвіліны мне думалася, што Сакалоўскі якраз з таго, 1960-х гадоў, часу, калі паэзія была ў большай цане. Хаця, калі палічыць, 1960-я — усяго толькі яго юнацтва, пачатак маладосці. Але ж, пэўна, усе творчыя людзі якраз і спраўджваюцца ў юнацтве, у маладосці. Хіба што пазней, з часам, са сталасцю прыходзіць майстэрства.

У аднаго беларускага паэта, вершы якога мне асабліва па душы, ёсць такія радкі: “Струну крану рукой пяшчотнай / І ёй, нарэшце, не зманю. / Каб адгукнуўся светлай нотай / І чыстай дзень, крану струну”. Вось і паэзія Рыгора Сакалоўскага бачыцца мне як адказ таленавітага чалавека на ўнутраныя памкненні душы, сардэчную трывогу, перажыванні за час і свет. І гэтыя памкненні былі рэалізаваныя. Пра тое сведчыць і ладная бібліятэка паэтычных кніг. Вось яны стаяць у адной, лічы, салдацкай шарэнзе: “Память и боль”, “Звёзды и сердце”, “Афганское эхо”, “Доверясь чувству одному”, “Строки любви”…

## Рэгіёны

# Спалучаць таленты з адказнасцю

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**У старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова — вялікі аўтарытэт сярод калег. Бо гэта не толькі выдатны творца, але і добры арганізатар. Ён скарыстоўвае любую магчымасць для прапаганды творчасці сталічных пісьменнікаў і ўзняцця прэстыжу пісьменніцкай працы. Напярэдадні пісьменніцкага з'езда мы размаўляем з Міхасём Паўлавічам пра перавагі і цяжкасці ў працы мінскіх літаратараў.**

**— А сапраўды, Міхась Паўлавіч, у чым перавагі сталічнага жыцця для пісьменніка? Іншым разам можна пачуць выказванні калег, што члены Мінскай гарадской арганізацыі знаходзяцца ў больш прывілеяваным становішчы. Вы згодныя з гэтым сцвярджэннем?**

— Толькі ў нейкай ступені. Так, у сталіцы размяшчаецца цэнтральны апарат СПБ, працуюць асноўныя выдавецтвы, літаратурна-мастацкія выданні. Але трэба заўважыць, што патрапіць у выдавецкі план выпуску, надрукавацца ў літаратурна-мастацкіх выданнях сталічным літаратарам не прасцей, чым рэгіянальным. Бо тут у першую чаргу запатрабаваныя найбольш таленавітыя з іх.

У сталічным аддзяленні працуюць 16 лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, столькі ж (калі не больш) заслугоўваюць яе. Больш як 70 пісьменнікаў узнагароджаны іншымі прэстыжнымі літаратурнымі прэміямі. Вось яны і запатрабаваныя. Людзі ствараюць адметныя кнігі і, як вынік, атрымліваюць узнагароды часцей. Дарэчы, калі ўжо гутарка зайшла пра ўзнагароды. Я катэгарычна супраць таго, каб, напрыклад, вылучаючы на прэмію за лепшыя творы года, імкнуцца абавязкова прадставіць тут усе нашы рэгіёны. “Залаты Купідон” павінен дастаецца чалавеку не таму, што ён аказаўся лепшым у сваёй вобласці (для гэтага існуюць абласныя літаратурныя прэміі), а таму, што яго кніга вылучылася ў рэспубліканскім маштабе. І яшчэ я супраць таго, каб чалавек, што атрымаў “Залатога Купідона” ў адной з намінацый, страчваў права прэтэндаваць на яго ў іншых намінацыях. Калі гэтак скрупулёзна падыходзіць да справы, прэмія змізарнее з цягам часу, яе пачнуць прысуджаць ужо за слабыя творы.

А наогул як старшыня сталічнага аддзялення СПБ я часам шчыра зайздрошчу абласным. Па-першае, там у арганізацыях па 35—50 літаратараў. Гэта колькі ж увагі можна надаць кожнаму! І не адзін творчы вечар наладзіць, і не адну прэзентацыю кнігі, і дапамагчы ў яе апублікаванні, і юбілей з густам адзначыць, і са святамі павіншаваць. Па-другое, рэгіянальныя ўлады фінансава дапамагаюць мясцовым літаратарам у выданні кніг, штогод уручаюць абласныя літаратурныя прэміі. Да прыкладу, Мінгарвыканкам за пяць гадоў не прафінансаваў ніводную кнігу нашых пісьменнікаў.

**— Але ж аддзяленне паспяхова выдае кніжныя серыі “Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення СПБ” і “Мінскія маладыя галасы”.**

— Яны выходзяць дзякуючы намаганням кіраўніцтва аддзялення, ініцыятыўнасці выдавецтва “Чатыры чвэрці” і саміх аўтараў. Але серыі, сапраўды, атрымліваюцца даволі прыгожымі. І творы мы стараемся адбіраць для іх нешараговыя. Але хацелася б, каб аўтары не былі вымушаныя шукаць для выдання спонсараў.

**— Ці мяняецца ў лепшы бок стаўленне да пісьменніцкай працы?**

— За апошнія гады дзякуючы дзейнасці нашага Саюза пісьменнікаў стаўленне да сумленнай літаратуры, да пісьменнікаў, якіх па-сапраўднаму хвалюе лёс краіны, змянілася ў лепшы бок. Ёсць дзяржаўная падтрымка СПБ на ўсіх узроўнях, датуюцца лепшыя кнігі, перыядычныя літаратурна-мастацкія выданні. Праца многіх нашых калег высока ацэнена дзяржавай — урадавымі ўзнагародамі, дзяржаўнымі прэміямі.

**— Многія члены Мінскай гарадской арганізацыі займаюцца шырокай грамадскай дзейнасцю...**

— Сапраўдны пісьменнік — гэта амаль заўжды асоба. Таму слова яго мае вагу і аўтарытэт. І нам трэба яшчэ шырэй уключацца ў грамадскае і дзяржаўнае жыццё. Варта актыўна вылучаць нашых пісьменнікаў у якасці кандыдатаў у дэпутаты саветаў усіх узроўняў: ад раённага да Парламента.

## Афарызм

*Дзе праца, там і перспектывы.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
“Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2845
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк
13.10.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4923
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686